


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

8 СТУДЗЕНЯ 1999г. № 2/3982 КОШТ 12 000 РУБ.








# "Харошкам" — 25!

Для чалавека ў такім узросце многае толькі пачынаецца. Для творчага калектыву чвэрць стагоддзя — гэта знак сталага і ўстойлівага мастацкага лёсу. І тое, што сярод дзяржаўных выканаўчых калектываў Беларусі фальклорна-харэаграфічны ансамбль "Харошкі" адзін з самых маладых, выклікае асаблівую павагу для яго акрэсленых самабытных грунтоўных традыцый, сфармаваных і развітых пад кіраўніцтвам Валянціны Гаявой. Так, "Харошкі" — гэта, без перабольшання, яе, адной са стваральнікаў ды мастацкай кіраўніцы, вынаходлівы творчы дух, яе нястомная і добрая фантазія, яе дасведчанасць, прафесійнае майстэрства і працавітасць. Са з'яўленнем "Харошак" на беларускай канцэртнай эстрадзе адбылася сапраўдная рэвалюцыя: сінкрэтычнасць народнага мастацтва ўпершыню набыла суперсучасную аздобу. І гэта падалося зусім арганічным: галасы дзедаўскіх жалеек, ліры,

*(Працяг на стар. 2)*



## КОЛА ДЗЁН

***1999 год... Намі ў ім пражыта ўжо цэлы тыдзень. Гэты год незвычайны не толькі сваімі дзевяткамі, якія лёгка пераварочваюцца ў шасцёркі, але і тым, што ён пачаўся ў пятніцу і закончыцца пятніцай, якіх у ім не 52, як звычайна, а 53.***

***Першы тыдзень 1999 года ўжо ўвайшоў у сусветную гісторыю тым, што з гэтага года адменена вядомая ўсім азбука Морзе (існавала больш за 150 гадоў) і ўведзена ў абарачэнне еўрапейская валюта еўра. Дарэчы, калі меркаваць па першых інфармацыях, то еўра ўжо стала самым моцным канкурэнтам долару. І гэта не дзіўна, бо гэтую валюту заснавалі 11 еўрапейскіх высокаразвітых краін, дзе жыве больш за 290 мільёнаў чалавек. Калі справы ў еўра і далей будуць ісці паспяхова, то варта чакаць, што да аб'яднанай Еўропы ў хуткім часе будуць прасіцца далучыцца і іншыя краіны нашага кантынента. Шкада, што нам такая перспектыва нават у блізкім будучым пакуль што не свеціць. Нас чакае іншы саюз...***

### ПРАГНОЗ ТЫДНЯ

У навагоднім інтэрв'ю газеце "Звязда" загадчык аддзела Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандр Лучанок зрабіў прагноз на 1999 год: "Беларускі "зайчык" да лета, калі нічога ў эканамічнай палітыцы не зменіцца, упадзе да 400—500 тысяч рублёў за долар, а да зімы — да 700—800 тысяч. На неафіцыйнам рынку па безнаяўным разліку да канца 1999 года кошт долара можа перасягнуць мільён". Адным словам, парадаваў....

### УКАЗ ТЫДНЯ

Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам падпісаны ўказ, згодна з якім 4 красавіка 1999 года ў нашай краіне пройдуць выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў. Выбарчая кампанія пачнецца ў канцы лютага — за 40 дзён да выбараў.

### ДАСЯГНЕННІ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, што, па ацэнках экспертаў, беларускі Нацбанк перавыканаў у мінулым годзе "план" эмісіі ў 5 разоў — надрукаваў 28 трлн. рублёў замест запланаваных 5,5 трлн. "зайчыкаў". Да такіх "дасягненняў" нам не прывыкаць. Цікава, з якім "рэкордам" мы закончым 1999 год, што пачаўся з павелічэння мінімальнай заработнай платы да 500 тысяч рублёў?

### СТРАШЫЛКА ТЫДНЯ

У кожнага чалавека свае адносіны да астролагаў. Адны ім вераць, другія — лічаць іх проста шарлатанамі. У кожнага з нас свае адносіны і да прагнозаў Паўла Глобы. Хочаш вер, а хочаш — не, а адлік новага часу, так сцвярджае астролаг, пачнецца толькі з 2003 года. А да той пары злыя сілы будуць замінаць жыць усяму чалавецтву. 1999 год абяцае пакінуць чорны адбітак у памяці кожнага расіяніна і беларуса, бо чарговы "дзевяты вал" крызісу ў сакавіку — красавіку накрые Расію. Затым, даўшы людзям крыху перавесці дух, увойдзе ў кожны дом восенню. Будуць неверагодна расці цэны і курс долара. Каб разам адолець навалу, Беларусь і Расія будуць рабіць больш цесным свой саюз. Аднак, кажа вядомы астролаг, тэмпы яднання застануцца ранейшымі. Не выключана, што развіць хуткасць гэтаму працэсу не дазволіць палітычная сітуацыя ў Расіі. На думку Глобы, сённяшняму ўраду кіраваць засталося ўсяго дзесьці паўгода, прычым спачатку сыдзе з палітычнай арэны каманда Прымакова, а пазней і сам прэм'ер. Шмат непрыемнасцей чакае і ЗША. Для разгулу нядобрых сіл, лічыць Глоба, у 1999 годзе спрыяльная сітуацыя. Да ўсяго 11 жніўня апакаліптычнае сонечнае зацьменне, прадказанае яшчэ Настрадамусам у XVI стагоддзі. Прагнозы Глобы невясёлыя, адно суцяшае, што ранейшыя яго "страшылкі" збываліся вельмі рэдка.

### ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны прыняла пастанову аб правядзенні ў другой палове красавіка 1999 года чарговага, VI з'езда ТБМ. Дарэчы, напярэдадні Новага года ТБМ вярнулася ў сваю сядзібу (Румянцава, 13), аплаціла ўсе запазычанасці і штрафы і падпісала льготны кантракт на тры гады на арэнду памяшкання. Яшчэ б належнай увагі з боку кіраўніцтва нашай дзяржавы да беларускай мовы, то наогул ТБМ прыйшло б да свайго з'езда з добрым настроем. А так...

### ПРОСЬБА ТЫДНЯ

Апошнія гады ў друку можна сустрэць інфармацыю аб тым, што нехта з беларускіх грамадзян просіць палітычнага прытулку ў Польшчы, Чэхіі, Францыі і нават у ЗША. Многім пашанцавала на станоўчы адказ. І вось нядаўна з просьбай атрымаць палітычны прытулак у Беларусі звярнуліся ў беларускае консульства ў Беластоку два палякі — Рышард Клімоўскі, якому 70 гадоў, і 49-гадовы Шчэпан Унукоўскі. Яны скардзяцца, што ў Польшчы "пануе бяспраўе". Да ўсяго Рышард Клімоўскі прызнаўся: "Я атрымліваю 700 злотых пенсіі (200 долараў), гэта ў дзесяць разоў больш, чым беларусы атрымліваюць. Так што буду жыць па-панску".

### ПРЭМ'ЕРА ТЫДНЯ

Беларускае тэлебачанне, каб прывабіць да сябе гледачоў, кожны новы год прапануе прэм'еры новых перадач. Адны з іх, праіснаваўшы год-два, знікаюць з тэлеэкранаў, другія прыжываюцца, да прыкладу, — "Добрай раніцы, Беларусь!", якая ў гэтым годзе займела сабе падобную перадачу "Добры вечар, Беларусь!". І, гледзячы гэтыя перадачы, хочацца спадзявацца, што з цягам часу прывітальныя словы ў іх назвах будуць адпавядаць нашаму жыццю, калі сапраўды ў Беларусі і раніца, і вечар будуць добрымі і беларускімі. А спадзявацца трэба...

### СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

Напярэдадні Новага года ў палітычным жыцці нашай краіны адбылася нечаканая падзея, а дакладней — сустрэча старшыні Нацыянальнага выканаўчага камітэта Генадзя Карпенкі з намеснікам старшыні Палаты прадстаўнікоў Уладзімірам Канаплёвым. Сустрэча на кватэры Г. Карпенкі працягвалася больш чым тры гадзіны. Пра што гаварылі паміж сабой галоўны апазіцыянер і верны саратнік прэзідэнта — невядома. Важна, што ўвогуле такая сустрэча адбылася і.

# Лаўрэаты Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1998 года

## ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры

**У галіне літаратуры:**
**імя Янкі Купалы**
**(за творы паэзіі і драматургіі)**

**Някляеў Уладзімір Пракопавіч,** паэт, член Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўны рэдактар часопіса "Крыніца" і штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", — за кнігу вершаў і паэм "Прошча", апублікаваную ў 1996 годзе;

**Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч,** паэт, вядучы рэдактар рэдакцыі арыгінальнай літаратуры выдавецтва "Мастацкая літаратура", — за кнігу вершаў "Бабчын: Кніга жыцця", апублікаваную ў 1996 годзе;

**за творы літаратуры**
**і мастацтва для дзяцей**
**і юнацтва**

**Скобелеў Эдуард Марцінавіч,** пісьменнік, член Саюза беларускіх пісьменнікаў, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, галоўны рэдактар інфармацыйнага бюлетэня Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, — за кнігі для дзяцей "Новыя незвычайныя прыгоды Арбузіка і Бябешкі" і "Дзіўныя прыгоды пана Дылі", апублікаваныя ў 1996 і 1997 гадах;

**імя Кастуся Каліноўскага**
**(за работы ў галіне**
**мастацкай публіцыстыкі**
**(літаратура, мастацтва)**

**Марціновіч Аляксандр Андрэевіч**, журналіст, рэдактар аддзела літаратурнага жыцця штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", — за кнігу эсэ і нарысаў "Зерне да зерня: Гісторыя ў асобах: Эсэ, нарысы", апублікаваную ў 1996 годзе;

**за значныя работы ў галіне**
**журналістыкі**

**Вялічка Уладзімір Паўлавіч**, журналіст, галоўны рэдактар часопіса "Беларуская думка", **Шырко Васіль Аляксандравіч,** журналіст, загадчык аддзела часопіса "Беларуская думка", **Глушакоў Уладзімір Сцяпанавіч**, журналіст, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Беларуская думка", **Шыманскі Міхаіл Мікалаевіч**, журналіст, заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, — за цыкл публіцыстычных артыкулаў "Беларусь: Час і людзі ў роздуме журналістаў", апублікаваных у часопісе "Беларуская думка" і газеце "Рэспубліка" ў 1996—1997 гадах.

**У галіне мастацтва**
**і архітэктуры:**
**за музычныя творы буйных**
**і малых формаў, а таксама**
**за канцэртна-выканальніцкую**
**дзейнасць**

**Вагнер Генрых Матусавіч,** кампазітар, народны артыст Беларусі, прафесар, — за сімфонію N4 для сімфанічнага аркестра і народнага хору, выкананую ў 1996 годзе;

**за шырока прызнаныя работы рэжысёраў, дырыжораў, балетмайстраў, хормайстраў, артыстаў, мастакоў, сцэнарыстаў, кампазітараў і драматургаў, аператараў у пастаноўках тэатраў, кінастудый, на тэлебачанні і радыё**

**Пашкоў Генадзь Пятровіч,** журналіст, член Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя", **Лапцінскі Ігар Васільевіч,** артыст, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, рэжысёр рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Рэспубліканскага радыё Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, **Красоўскі Віктар Іванавіч,** артыст аркестра, гукарэжысёр аддзела гукарэжысёраў Дырэкцыі праграм Рэспубліканскага радыё Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, **Камарова Ніна Яўгенаўна,** журналіст, член Беларускага саюза журналістаў, спецыяльны карэспандэнт рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Рэспубліканскага радыё Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, — за лірыка-дакументальную радыёаповесць "Палескія вандроўнікі";

**Янкоўскі Расціслаў Іванавіч,** артыст драмы, народны артыст СССР, вядучы майстар сцэны Дзяржаўнага акадэмічнага рускага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага, — за акцёрскія работы 1995—1997 гадоў (ролі Талейрана ў п'есе Ж.-К. Брысвіля "Вячэра", Старцава ў п'есе А. Дударава "У прыцемках", Максіміліяна Маора ў п'есе Ф. Шылера "Браты Маор", Нормана Тэйера ў п'есе Э. Томпсана "На залатым возеры", Нікана Букеева ў п'есе М. Горкага "Букееў і кампанія");

**за творы жывапісу, скульптуры, графікі, манументальна-дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва, дызайну**

**Арцімовіч Анатоль Яфімавіч,** мастак-скульптар, член Беларускага саюза мастакоў, дацэнт Беларускай акадэміі мастацтваў, **Марозаў Ігар Вячаслававіч,** архітэктар, член Беларускага саюза архітэктараў, кандыдат архітэктуры, дацэнт Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, — за помнік Рагнедзе і Ізяславу ў г. Заслаўі, узведзены ў 1993 годзе;

**за арыгінальную архітэктуру грамадзянскіх, прамысловых збудаванняў у горадзе і ў вёсцы**

**Тарноўскі Уладзімір Мікалаевіч**, архітэктар, начальнік архітэктурна-канструктарскай майстэрні дзяржаўнага прадпрыемства "Інстытут "Мінскпраект", **Карунас Васіль Канстанцінавіч,** архітэктар, дырэктар майстэрні праектнага прадпрыемства "Творчая майстэрня архітэктара Карунаса В. К.", **Нічкасаў Анатоль Іванавіч,** архітэктар, намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь, **Белікаў Генадзь Іванавіч,** архітэктар, начальнік упраўлення тэрытарыяльных рэсурсаў, рэгіянальнага планавання і інфраструктуры Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь, **Малевіч Юрый Мікалаевіч,** архітэктар, галоўны спецыяліст Камітэта па архітэктуры, горадабудаўніцтве і тэрытарыяльнаму планаванню Мінскага аблвыканкама, **Пархута Анатоль Сяргеевіч,** архітэктар, начальнік галоўнага ўпраўлення архітэктуры, горадабудаўніцтва і тэрытарыяльнага планавання Гродзенскага аблвыканкама, **Еўдакімаў Уладзімір Мікітавіч,** архітэктар, заслужаны архітэктар Рэспублікі Беларусь, галоўны спецыяліст па архітэктуры праектнага інстытута "Гроднаграмадзянпраект", **Праабражэнскі Уладзімір Барысавіч,** архітэктар, галоўны архітэктар праектнага ўпраўлення праектна-прамыслова-будаўнічай фірмы "Гроднажылбуд", — за архітэктуру жылога гарадка Рось Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці, здадзенага ў эксплуатацыю ў 1994—1997 гадах;

**за даследаванні па тэорыі і гісторыі мастацтва і архітэктуры, а таксама за падручнікі для спецыяльных навучальных устаноў па архітэктуры і мастацтвазнаўстве**

**Куляшова Галіна Рыгораўна,** доктар мастацтвазнаўства, загадчыца аддзела музычнага мастацтва і этнамузыкалогіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, **Дубкова Тамара Аляксандраўна,** музыказнавец, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, **Мдзівані Таццяна Герасімаўна**, музыказнавец, кандыдат мастацтвазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік аддзела музычнага мастацтва і этнамузыкалогіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, **Пятрова Людміла Іванаўна,** кандыдат філалагічных навук, **Чурко Юлія Міхайлаўна,** тэатразнавец, доктар мастацтвазнаўства, прафесар кафедры харэаграфіі Беларускага універсітэта культуры, **Юўчанка Надзея Аляксандраўна,** музыказнавец, кандыдат мастацтвазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік аддзела музычнага мастацтва і этнамузыкалогіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі Беларусі, — за даследаванне "Музычны тэатр Беларусі" ў 3-х тамах, апублікаванае ў 1993—1997 гадах.

# "Харошкам" — 25!

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*
цымбалаў — і "электрычны імпульс" бас-гітары; карункі народных танцавальных мелодый — і папулярная рытміка XX стагоддзя; вяночкі з беларускіх абрадавых песень ды традыцыйных танцаў — і смелыя лініі харэаграфічнага малюнка, подых моды ў сцэнічным касцюме; сялянскасць — і вытанчаная шляхетнасць...

Кожная праграма "Харошак" — гэта эфектнае і цэласнае музычнае відовішча. Гэта хрэстаматыйныя і зусім новыя "Мітусь" ды "Цярэшка", "Лявоніха" ды "Крутуха", "Каханачка" ды "Крыжачок". Гэта "Гуканне вясны" і "Субота", гэта ўвасобленыя ў танцавальна-пластычных абразках старонкі "Полацкага сшытка" і вобразы розных сацыяльных пластоў ды этнічных груп, якімі адметнае гістарычнае аблічча зямлі беларускай.

"Бывай, XX стагоддзе!" — называецца адна з апошніх праграм ансамбля. І гэта ўспрымаецца як прывітанне "Харошак" такому блізкаму ўжо трэцяму тысячагоддзю. Мастацтва знанага беларускага ансамбля, безумоўна, знітуе культуру нашага часу з культурай пакаленняў, што будуць жыць на пачатку новай эры. Як знітоўвае яно сэрцы шматлікіх і такіх розных людзей, што збіраюцца на канцэртах з удзелам "Харошак": а выступаць нашым артыстам даводзілася ў Даніі ды Польшчы, Вялікабрытаніі ды Бельгіі, у Японіі ды Сірыі, у Фінляндыі ды на Кіпры...

Напярэдадні Новага, знамянальнага ў сваёй творчай біяграфіі, года "Харошкі" пад кіраўніцтвам народнай артысткі Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Валянціны Гаявой паводле добрай традыцыі выступілі перад роднай сталічнай публікай.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: новае пакаленне дзяўчатак-"харошак" і нязменны "харашун" — саліст Фёдар Балабайка.*

*Фота А. ПРУПАСА*

ВАРУНКІ

# Ялта, Максім, музей

Нядаўна мне давялося быць у Крыме, скажам так, са складанай місіяй. Дэлегацыі, у склад якой уваходзілі намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Ю. Стральчонак (кіраўнік), начальнік аддзела музеяў і выставак міністэрства С. Маслоўскі, старшыня Савета па манументалістыцы пры Мінкультуры, скульптар Іван Міско і аўтар гэтых радкоў, было даручана выказаць заключэнне наконт перавозу праху Максіма Багдановіча з Ялты на Беларусь.

Прадгісторыю гэтага пытання я збольшага ведаў. Некалі мне давялося бачыцца ў Маскве з Уладзімірам Дубоўкам, які расказаў, як ён у дваццатыя гады знайшоў магілу паэта і пасадзіў там кіпарыс. Значна пазней да мяне дайшла вестка, што пасадзіла там кіпарысік і Еўдакія Лось. Сам жа я наведаў паэтаву магілу ў 1978 годзе, калі знаходзіўся ў ялцінскім доме творчасці імя А. П. Чэхава. Каб знайсці яе, мне падказалі арыенцір — вялікі мармуровы помнік рускаму празаіку Мікалаю Бірукову, а побач справа і наўскасяк ад яго ўзгалоўя — магіла Максіма Багдановіча. Кажуць, помнік на магіле нашага Максіма пастаўлены стараннямі цёткі Уладзі — жонкі Янкі Купалы. Такое магло быць, гэта ў яе характары, цётка Уладзя любіла рабіць дабрачынныя справы. У 1991 годзе адзначаліся сотыя ўгодкі Максіма Багдановіча. К таму часу і з'явілася ідэя пераносу праху паэта на радзіму, выказаная некаторымі пісьменнікамі і дзеячамі культуры. Мне давялося быць сведкам спрэчкі двух слынных пісьменнікаў — Максіма Танка і Васіля Быкава — на гэту тэму: кожны прытрымліваўся супрацьлеглай думкі. За перанос праху паэта выказаўся ў свой час акадэмічны Інстытут літаратуры. Шчыра кажучы, асабіста я ехаў з настроем, што прах Максіма Багдановіча трэба пераносіць.

Там, у Крыме, мы пачулі папрок. Маўляў, прыязджалі да іх з Беларусі многія, але ўсё заканчвалася толькі гаворкай. І крымчане прасілі нас памагчы, нарэшце, вырашыць гэтае пытанне, каб ім ведаць, як быць далей.

Пасля сустрэчы і гутарак з ялцінскімі работнікамі культуры, кіраўніцтвам гарадской рады, а таксама кіраўнікамі Міністэрства культуры, Камітэта па ахове помнікаў, урэшце са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Крым Леанідам Грачом выявіліся новыя абставіны, звязаныя з перавозам праху Максіма Багдановіча ў Мінск. У крымскага кіраўніцтва і ў грамадскасці (мы сустракаліся з краязнаўцамі, музейнымі работнікамі, прадстаўнікамі беларускай абшчыны, якая там налічвае 60 тысяч чалавек, супрацоўнікамі навуковай бібліятэкі "Таврика" ў Сімферопалі і інш.) выспела агульная думка і агульны настрой, стварыць у Ялце побач з літаратурным музеем Лесі Украінкі музей Максіма Багдановіча. Мясціны, звязаныя са знаходжаннем нашага паэта ў Ялце і пазначаныя мемарыяльнымі дошкамі, яго магіла, будучы музей (усё нам было паказана, у тым ліку будынак для музея), вуліца, што носіць імя паэта, могуць стварыць цэласны літаратурны комплекс. Супрацоўнікі музея Лесі Украінкі звярнулі нашу ўвагу на тое, што тым славутым замежным дзеячам, якія адпачывалі ў Крыме, але тут не пахаваны, музеяў не ствараюць (ёсць толькі дом-музей А. П. Чэхава, які быў уласнасцю пісьменніка). Вывад напрошваецца сам сабой: не будзе магілы паэта, не будзе і яго музея. У такім разе паўстае пытанне: ці варта перавозіць прах Максіма Багдановіча на радзіму? Асабіста я вельмі засумняваўся, што гэта трэба рабіць, тым болей, як сцвярджаюць спецыялісты, у выніку крымскіх землятрусаў слаі горнай глебы маглі зрушыцца, і прах паэта пад помнікам можа і не ляжаць. У пошуках яго можна дапусціць памылку.

Што да надмагільнага помніка, дык, адназначна, неабходна зрабіць новы, годны памяці вялікага паэта.

Стварэнне музея Максіма Багдановіча ў краі, дзе штогод бывае каля двух мільёнаў адпачываючых з многіх краін, будзе спрыяць не толькі шырокай прапагандзе творчасці паэта ў свеце, але і наогул прэстыжу беларускай літаратуры за мяжой.

Да такой высновы прыйшлі ўсе сябры дэлегацыі. Цяпер падрыхтаваны неабходныя матэрыялы (архіўныя дакументы, фотаздымкі, разлікі) для даклада Савету Міністраў нашай рэспублікі.

Агульная атмасфера сустрэч і гутарак у Крыме была вельмі цёплай і дзелавой. Адчувалася, што крымчане вельмі зацікаўлены ў развіцці разнастайных сувязей з нашай краінай, у тым ліку і культурных. Гэта не проста словы. Вельмі добра сказаў на гэты конт Старшыня Вярхоўнага Савета Л. Грач: "Для нас гэта не парадная сустрэча, для нас гэта стратэгія". Дэлегацыю пазнаёмілі з тым, што крымчане робяць для ўвекавечвання памяці нашых землякоў. Так, у Сімферопалі паказалі дом, дзе жыў буйнейшы крымазнавец, ураджэнец Брэста Арсень Маркевіч, а таксама будынак былой мужчынскай гімназіі, у якой наш зямляк выкладаў. На будынку, як сказалі супрацоўнікі Камітэта па ахове помнікаў, будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка, прысвечаная памяці А. Маркевіча. На гэтым славутым доме вісіць ці не дзесятак дошак у гонар слынных людзей, якія мелі дачыненне да гімназіі (мастак Айвазоўскі, фізік Курчатаў, хірург Пірагоў і інш.), сярод якіх годнае месца зойме імя нашага земляка Арсеня Маркевіча. Знамянальна, што ініцыятыва ўшанавання памяці найвыдатнейшага крымазнаўца А. І. Маркевіча зыходзіць якраз ад крымчан.

Са свайго боку я прапанаваў прыслаць крымчанам матэрыялы пра нашага паэта Уладзіміра Лісіцына, які памёр у Джанкоі. Пакуль што гэтае імя для іх, як і А. Маркевіча для нас, невядомае. Прадстаўнікі Камітэта па ахове помнікаў і беларускай абшчыны абяцалі пацікавіцца магілай паэта і расказаць пра яго ў друку. Канечне, і нам трэба ўсё зрабіць, каб імя Арсеня Іванавіча Маркевіча і ў Брэсце, і наогул у Беларусі стала вядомае і заняло ў памяці яго суайчыннікаў пачэснае месца.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬ...*

## Ёсць і ў нас Леанарда

З Леанарда да Вінчы параўналі сябра Саюза мастакоў Генадзя Говара на адкрыцці яго персанальнай выставы ў Гомелі. Падставай для гэтага стала не толькі разнастайнасць відаў выяўленчага мастацтва, але і тое, што гомельскі мастак — аўтар шэрагу цікавых вынаходніцтваў самага шырокага дыяпазону. Нікога не пакінулі абыякавымі выразныя жывапісныя палотны майстра "З верай, надзеяй, любоўю ў трэцяе тысячагоддзе ад нараджэння Хрыстова", "Вясна"... Асноўную частку выставы займае цыкл афортаў "Асэнсаванне часу", у якім адлюстраваны філасофскі позірк на суайчынніка, ягоныя трывогі і надзеі. Графіка і аўтарскія беларускамоўныя вершы звязаны ў адно цэлае і ў паэтычнай кнізе Генадзя Говара "Мае абпаленыя крылы", якая выдадзена толькі што ў Жлобіне. Менавіта тут, на радзіме мастака, экспануюцца зараз ягоныя работы. Потым выставу пабачаць і іншыя гарады Гомельшчыны: Светлагорск, Нароўля, Ветка.

**Алег АНАНЬЕЎ**

*ВІЦЕБСК...*

## Малітва ў царкве Дабравешчання

Словы першай малітвы прагучалі днямі ў адбудаваным храме — Віцебскай царкве Дабравешчання. Дзяржаўная камісія прыняла царкву — помнік архітэктуры, занесены ЮНЕСКА ў спіс помнікаў свету. Царква XII стагоддзя на беразе Заходняй Дзвіны была зруйнавана па ініцыятыве віцебскіх партыйных і выканаўчых улад у снежні 1961 года. У жніўні 92-га аблвыканкам прыняў рашэнне аб адбудове знакамітага храма ў аўтэнтычным выглядзе. Навуковы кіраўнік праекта — архітэктар Г. Лаўрэцкі. Будаўнічыя работы фінансаваліся з рэспубліканскага бюджэту. Усяго за чатыры гады засвоена 12 мільярдаў рублёў. Віцебская царква Дабравешчання стала 54-ым па ліку архітэктурным помнікам і дзесятым праваслаўным храмам, адроджаным за дзяржаўныя сродкі.

## У памяць пра Зінаіду Канапельку

Ёй споўнілася б 25 снежня 85 гадоў. У гэты дзень на доме па вуліцы Леніна, дзе жыла народная артыстка Беларусі, была адкрыта мемарыяльная дошка. Больш за 60 гадоў Зінаіда Канапелька іграла на сцэне Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. У тэатры адбыўся вечар памяці артысткі, якую і зараз называюць душой коласаўскай сцэны.

## Паміж намі, суседзямі

Гарадскі цэнтр народнай творчасці прадставіў нядаўна смаленскаму гледачу выставу "Кругаверць". Экспанаты з розных рэгіёнаў Віцебшчыны расказваюць расійскім суседзям аб асноўных святах, традыцыях і рамёствах беларусаў. Выстава займае залу Уваскрэсенскага сабора. На прэзентацыі начальнік упраўлення культуры аблвыканкама Мікалай Пашынскі адзначыў, што запланавана некалькі сумесных культурных акцый паміж суседнімі абласцямі дзвюх дзяржаў.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎ...*

## "Васільковае слова любві"

Так называецца новы зборнік песень кампазітараў Магілёўшчыны, які выпусціў у свет абласны навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці і культурна-асветнай работы. Гэта творы аб каханні, аўтарамі якіх з'яўляюцца клімаўчанін, заслужаны дзеяч культуры Беларусі Леанід Ячнеў, магіляўчане Яўген Маланкоў, Уладзімір Рубанік, Галіна Семіна, Валянцін Шрамко, Генадзь Багамолаў, Міхаіл Кастрыца і іншыя.

У гасцёўні абласнога цэнтра народнай творчасці на чарговым пасяджэнні клуба самадзейных кампазітараў адбылася прэзентацыя "Васільковага слова любві".

## У Быхаве — юбілей

Вядомаму рэжысёру, фалькларысту-публіцысту і артысту Міколу Макарцову споўнілася 50 гадоў. З гэтай нагоды на радзіме юбіляра ў Быхаве, у раённым цэнтры культуры, прайшла вечарына. Віноўніка ўрачыстасці віталі намеснік старшыні Быхаўскага райвыканкама Д. Ігнацьеў, загадчык аддзела культуры М. Ахраменя, рэдактар раённай газеты "Маяк Прыдняпроўя" М. Леўчанка, госці з Мінска паэтка Н. Загорская, народная артыстка Беларусі М. Захарэвіч, балетмайстар М. Котаў, рэжысёр К. Сафроненка, мастацкі кіраўнік Беларускага Дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі "Свята" В. Купрыяненка...

На вечарыне гучалі музыка і песні. Народны тэатр Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры паказаў урывак са спектакля па п'есе М. Макарцова "Тураўская легенда", які падрыхтаваў рэжысёр заслужаны дзеяч культуры Валянцін Ермаловіч, — першы настаўнік юбіляра ў час яго навучання ў Магілёўскім вучылішчы культуры.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

*БРЭСТ...*

## Год Адама Міцкевіча

Двухсотгадовы юбілей вялікага паэта завяршыўся ўрачыстасцю і мастацка-тэатралізаваным відовішчам у Брэсцкім абласным тэатры драмы і музыкі. Як адзначыў намеснік старшыні аблвыканкама Валерый Захарчанка (кіраўнік аргкамітэта), год А. Міцкевіча на Брэстчыне быў вельмі насычаны. Адноўлена сядзіба паэта ў Завоссі, праведзена міжнародная навукова-практычная канферэнцыя і выдадзены зборнік па яе выніках, адбыўся пленэр брэсцкіх мастакоў у мясцінах, звязаных з імем Міцкевіча, праведзены конкурс школьных сачыненняў, экспанавалася мастацкая выстава...

Цікава прайшло і заключнае мерапрыемства з удзелам кіраўнікоў горада і вобласці, прафесійных і самадзейных мастацкіх калектываў, студэнтаў і школьнікаў, творчай інтэлігенцыі. Глядзельную залу тэатра ўпрыгожылі 26 жывапісных работ мастачкі Тамары Паўлючук, а выставачную залу тэатра — скульптурныя працы разьбяра са Століна Васіля Супрунчыка. Асноўная скульптура — трохметровая фігура Адама Міцкевіча, выкананая з дрэва.

Акурат у дзень правядзення ўрачыстасці выйшаў чарговы зборнік "Берасцейскія караністы". У ім — краязнаўчыя і літаратурныя матэрыялы, вялікае месца аддадзена вялікаму паэту-земляку.

**Сымон АКСЕНІН**

# Лаўрэаты "Крыніцы"

**Рэдакцыя "Крыніцы" вызначыла лаўрэатаў часопіса за 1998 год. Імі сталі:**

Кастусь ТАРАСАЎ — (аповесць "Апошняе каханне князя Міндоўга", N 12(49)

Вінцэсь МУДРОЎ — (апавед "Ведзьма", N 7(44)

Алесь ЧОБАТ — (фантастычнае апавяданне, альбо містыфікацыя "Неверагодная хроніка праўдзівых падзей на крэсах", N 5(42)

Ірына БАГДАНОВІЧ — (нізка вершаў "Сармацкі альбом", N 5(42)

*Рэдакцыя "ЛіМа" далучаецца да віншаванняў і жадае лаўрэатам новых творчых поспехаў.*

# За вольную працу на ўласнай зямлі!

### ЗАЯВА VI З'ЕЗДА БЕЛАРУСКАЙ СЯЛЯНСКАЙ ПАРТЫІ

Вёска бяднее, старэе і вымірае. Народ усё больш галадае. Калгасна-саўгасная сістэма гаспадарання, заснаваная на пазбаўленні сялян зямлі і другіх сродкаў вытворчасці, не прынесла ім жаданага шчасця і дабрабыту.

Выйсце з глыбокага крызісу трэба шукаць на шляху змены зямельнай уласнасці. Ад зямлі і працы ідуць усе багацці.

Гаспадарамі зямлі не могуць быць дзяржаўныя чыноўнікі, якія камандавалі і працягваюць камандаваць калгасамі і саўгасамі. Вынікі іх "гаспадарання" відавочныя. Вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі ў калгасах і саўгасах катастрафічна падае. Доля грамадскага сектара знізілася да 50%. А прыватныя сялянскія гаспадаркі ў гэты крызісны час выстаялі і значна павялічылі вытворчасць. Сяляне-калгаснікі жывуць цяпер у асноўным за кошт даходаў ад сваіх гаспадарак, а не ад заробкаў у калгасе.

Згодна заканадаўству цяпер дзейнічаюць дзве формы ўласнасці — дзяржаўная і прыватная. Сялянская партыя заўсёды выступала за гэтыя формы ўласнасці. Але сельскагаспадарчыя ўгоддзі па-ранейшаму знаходзяцца толькі ва ўласнасці дзяржавы. Гэта стрымлівае аграрную рэформу.

Прыватная ўласнасць на сельскагаспадарчыя ўгоддзі — не самамэта, а ўмова ўратавання сялян ад галечы і прыгнёту. Без сваёй уласнай зямлі селянін ніколі не быў і не можа быць вольным, а значыць і руплівым гаспадаром.

З'езд заяўляе, што палітычныя сілы, якія выступаюць супраць прыватнай уласнасці на зямлю, вядуць дзяржаву да катастрофы.

*20 снежня 1998 года*

# У гасцях у мастачкі



У Мінску ёсць некалькі жаночых клубаў. Адзін з іх мае назву "КЛЕО" і аб'ядноўвае псіхолагаў, педагогаў, медыкаў ды прадстаўніц іншых прафесій. Чарговае сваё пасяджэнне клуб правёў не ў Палацы прафсаюзаў, як звычайна, а на кватэры ў мастачкі Тамары Багданавай. У гэтым хатнім музеі, больш падобным на маленькі храм, жанчыны паглядзелі карціны, выкананыя ў тэхніцы вышыўкі, і паслухалі гаспадыню. У гэтай "працаўніцы і паслушніцы" (яе ўласнае вызначэнне) незвычайны творчы лёс. Яна ўпершыню ўзяла ў рукі іголку пасля 37-мі год, пасля цяжкай хваробы і клінічнай смерці. Такія людзі абвострана ўспрымаюць свет, ім многае дадзена і многае патрабуецца.

Калі да імправізаваных лекцый Т. Багданавай можна ставіцца па-рознаму, то самі работы радуюць вока лірызмам і нейкай асаблівай вытанчанасцю. Яны пабывалі ў Польшчы, Германіі, Бельгіі, выстаўляліся амаль ва ўсіх гарадах нашай краіны. На адну карціну ідзе паўгода карпатлівай працы. А іх у мастачкі ўжо шмат.

Паколькі мастачка працуе па інтуіцыі і не прытрымліваецца іканапісных канонаў, стаўленне да яе карцін неадназначнае, асабліва з боку царквы.

Т. Багданава расказала пра пачатак творчага шляху, пра новыя задумы. У прыватнасці, яна рыхтуе галоўны прыз да чарговага фестывалю "Магутны Божа".

**Г. К.**



ЧАСАПІС

## У гонар Анатоля Вялюгіна

**Шмат слухачоў сабралася ў Сенненскім раённым Доме культуры на вечарыне, прысвечанай 75-годдзю з дня нараджэння паэта Анатоля Вялюгіна. Помняць на радзіме пра выдатнага песняра. Аб гэтым сведчыла паэтычная кампазіцыя пра жыццё і творчасць Анатоля Сцяпанавіча, якую прапанавалі Алена Гардзюк і Таццяна Красноўская.**

**Звесткі пра пуцявіны-дарогі паэта дапаўняліся выступленнямі самадзейных артыстаў: Аляксандра і Вольгі Кавалёвых, Віктара Ладунца, юных танцораў з мясцовай школы мастацтваў пад кіраўніцтвам Вольгі Гаўрылавай.**

**Мясцовыя паэты Іван Лазука, Вольга Дарожкіна, Віктар Астапенка прачыталі свае вершы.**

**Выступіў на вечарыне і старшыня Пскоўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі Алег Калкін, які прыбыў на ўшанаванне памяці Анатоля Вялюгіна па запрашэнні Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў і Сенненскага райвыканкама.**

**Барыс БЕЛЯЖЭНКА**

## "Квартэт на адкрыццё"

**Мінулы год для мінскіх аматараў сучаснай музыкі быў не надта багаты на падзеі. Можа, таму канцэрт струннага квартэта "Кракове" з твораў польскіх кампазітараў XX стагоддзя падаўся з'явай выбітнай? Але ж не толькі таму... Мінскія "мадэрністы" захапляліся: "Які ўзровень культуры! Калектыў экстра-класа!" Сапраўды, музыканты звышчэннадзейнічалі. Здавалася, для іх не існуе ніякіх тэхнічных цяжкасцяў. А колькі ж было іх у партытурах, якія выконваліся!**

**Уражваў вонкавы выгляд квартэтыстаў — маладыя, прыгожыя, натхнёныя, артыстычныя. Пазней даведалася, што скрыпачкі Кінга Халібожак, Адрыяна Вальчак і віяланчэліст Томаш Блашчак толькі нядаўна пакінулі студэнцкую лаву. Не намнога за іх старэйшы заснавальнік і мастацкі кіраўнік квартэта Міхал Феранс (дарэчы, гэта ён бліскуча выканаў на сёлетнім Міжнародным кракаўскім фестывалі новай музыкі Санату для альта нашага суайчынніка Я. Паплаўскага).**

**Праграма канцэрта выдавала высокі мастацкі густ, ствараля шырокую музычную панараму Польшчы — ад класіка XX стагоддзя Караля Шымановскага да зусім маладога Адама Кажэнёўскага. Быў тут і Другі квартэт Кшыштафа Пендэрэцкага — своеасаблівае "музычнае прынашэнне" да 65-годдзя кампазітара. Такім чынам мы далучыліся (і як дакладна!) да міжнароднай акцыі ЮНЕСКА, якая аб'вясціла мінулы год годам Пендэрэцкага.**

**Асаблівую цікавасць публікі выклікалі творы нашых гасцей з Кракава — Крыстыны Машуманьскай-Назар і Марэка Стахоўскага. Яны, сусветна вядомыя кампазітары, у тыя дні праводзілі ў Беларускай акадэміі музыкі майстар-класы, якія карысталіся вялікім поспехам. Другі квартэт Машуманьскай-Назар, які гучаў у канцэрце, захапіў слухачоў незвычайным тэмпераментам, багаццем і разнастайнасцю рытму, напружанасцю драматычнага развіцця. Музыка Стахоўскага кранула сваёй пранікнёнай лірычнасцю, тэмбравай вытанчанасцю, прагажосцю стэрэафанічных гучанняў.**

**Пры ўсёй кантрастнасці ды індывідуальнай акрэсленасці пачутых у канцэрце твораў усе яны неслі на сабе пячатку самабытнай сучаснай польскай школы з яе культам гуку, вынаходлівасцю, творчай свабодай, але разам з тым славянскай духоўнасцю і эмацыянальнай узрушанасцю. І ў гэтай атмасферы нацыянальнай музычнай школы нараджалася і гадавалася выканальніцкае майстэрства квартэта "Кракове"...**

**Ці сустрэнемся мы з ім ізноў? Свой канцэрт квартэт адкрыў Quartetto da ingresso. Можа, гэта добры знак, і назва твора Стахоўскага — "для пачатку" — будзе прарочай у далейшым развіцці польска-беларускіх музычных кантактаў? Вядома, многае тут будзе залежаць ад спонсараў праграмы — Міністэрства культуры Беларусі, Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы, Польскага інстытута ў Мінску. Шчырая ім удзячнасць за тыя цудоўныя сустрэчы з польскай музыкай і музыкантамі, што сталіся сапраўднай Падзеяй у культурным жыцці беларускай сталіцы.**

**Радаслава АЛАДАВА**

# Палітычная мода: мадэлі будучага сезона

НАВАГОДНІ ПРАГНОЗ

Хто пра што, а я зноў пра палітыку. Ды не проста пра голую палітыку, а пра палітычную моду. Бо голая палітыка, як і дрэвы зімой, уяўляе сабою сумнае відовішча. А вось апранутая ў квяцістае лісце маніфестаў, праграм і вясёлкавых пражэктаў, яна прываблівае вока нават недасведчанага чалавека.

Якраз сёння наша палітыка не ў самым лепшым выглядзе: губляючы рэшткі інтэграцыйна-"славянскіх" апранах, яна стаіць ледзь захінуўшыся ў сціплую кашульку прэзідэнцкай харызмы. Але крызісны вецер з усходу ці з захаду можа ў любы момат сарваць і яе. Чым жа прыкрые яна свой сорам у новым сезоне? Мода (у тым ліку і палітычная), нягледзячы на пэўную капрызлівасць, мае свае заканамернасці, дзякуючы якім нешта можна і прадбачыць.

Я, канешне, не прарок (як Пазьняк) і не палітык (як Лукашэнка), і нават не астролаг, але на хвіліну магу дазволіць сабе зрабіцца пазаштатным палітычным "мадэльерам".

Такім чынам, стары палітычны сезон набліжаецца да свайго лагічнага завяршэння. Посткамуністычная Беларусь прайшла свой уласны шлях, які ў мініяцюры (маштаб 1:15) паўтарыў шлях СССР. Тое, што ў вялікай Краіне Саветаў расцягнулася на 70 год, у нас уклалася ў пяць. Пачынаючы ад "рэвалюцыйна-рамантычнага" ўздыму 94 года, скончыўшы крызісам і застоем 1998-га. Вядома, што копія горш за арыгінал, а гістарычная драма з цягам часу ператвараецца ў фарс.

Чым адрозніваецца прарок ад палітыка? Тым, што прарок бачыць заганы і прадказвае смерці, катастрофы ды іншыя напасці. Палітык жа бачыць у першую чаргу станоўча і будуе светлыя, хоць і не вельмі далёкія перспектывы. Першага народ у лепшым выпадку церпіць, у горшым — закідае камянямі, а другога з задавальненнем слухае і ідзе за ім... да пары да часу. Справа ў тым, што бясконца казаць толькі пра светлае і радаснае для палітыка гэта таксама небяспечна, як для прарока пастаянна ўсё ганьбіць і маляваць апакаліптычныя жахі. Калі для прарока рэакцыя натоўпу ўрэшце не такая і важная, то для палітыка гэта галоўнае, бо мэта яго — улада над большасцю. У пэўны момант можа з'явіцца чалавек, які скажа нешта больш жаданае, блізкае ці проста — рэальнае, і людзі пойдуць за ім, стаміўшыся ад хваласпеваў і абяцанак ранейшага куміра. Гэта і будзе зменай моды, набыццём новай вопраткі для голай, па сутнасці, палітыкі.

Часцей за ўсё выбар адбываецца "ад супрацьлеглага" ці "па кантрасту". У нашым выпадку — наступны палітык у адрозненне ад папярэдняга мусіць быць дыпламатычным, не безагляднымі "ідэйным байцом", а практычным абачлівым "эканамістам". У новым сезоне прамыя лініі, вострыя вуглы і чырвона-зялёныя дысанансы павінны саступіць месца плаўным сілуэтам, закругленым формам і мяккім паўтанам. Калі ж стары сезон прымусова будзе зацягнуты на 2-3 гады і парушыцца логіка "палітычнай моды", то можа адразу адбыцца радыкальны пераход з аднае крайнасці ў другую, ад аднае харызмы да другой. Такі "рэвалюцыйны" варыянт менш верагодны, але не адзіна магчымы. Справа ў тым, што існуе яшчэ адзін "цэнтр моды" на ўсход ад нашых "падмосткаў", ён мае свае законы і аўтарытэты і не згубіў пакуль уплыў на тутэйшы "подыум".

Аднак у дачыненні да Еўропы застаецца вернай старая ісціна: мода заўсёды ідзе з захаду на ўсход, а ніяк не наадварот. Менавіта таму Нямеччына жыве лепш за Польшчу, Польшча — лепш за Беларусь, а Беларусь — лепш за Расію. Вось чаму такімі няўдалымі аказаліся спробы ўвядзення новай сацыяльна-палітычнай моды ў Расіі, але пасляховымі — у Польшчы. Якраз таму нашы справы не настолькі безнадзейныя, бо тое, што мы перажываем зараз ("савецкі рэнесанс", "посткамуністычны эклектызм"," аўтарытарны дэкаданс"), — нашых усходніх суседзяў чакае ў недалёкай будучыні. Гэта натуральная гістарычная з'ява — пераход ад таталітарызму да дэмакратыі патрабуе прамежкавай, аўтарытарнай стадыі. Мы ж яе сяктак ужо праходзім, Расія — толькі падступаецца. Але палітычная мода мала залежыць ад жаданняў аднаго чалавека (нават самага высокапастаўленага), а наш калектыўны розум пакуль у стане "нявыстаялай брагі", таму павароты будучага сезона застаюцца даволі няпэўнымі. Такі час (між іншым) вельмі спрыяльны для розных прадказанняў, прагнозаў, "азарэнняў". Не ўтрымаўся ад спакусы і я (слабы чалавек!), каб не далучыцца да сумніўных спраў "гільдыі празорцаў". І хоць у прарочым экстазе нарадзіў некалькі ўласных адкрыццяў, далёка не на ўсе з іх паставіў бы больш мільёна нашых рублёў: можа стацца, праз год "зайчык" здрабнее да блыхі, і што ж стане з майго выйгрышу — бохан хлеба? Не надзейны ўсё ж у нас "таталізатар", а дакладней сказаць — "аўтарызатар". Але ж сапраўды, што будзе ў нас праз год?

На маю думку канец 1999 года...

...Беларусь сустрэне са Сваім прэзідэнтам.

...БТ застанецца самым беларускім тэлебачаннем у свеце.

...Большасць чытачоў "Навінаў" застанецца на "свабодзе" і амаль усе чытачы "Народнай волі" — таксама.

...Меншасць нашых пенсіянераў стане мільянерамі, большасць пяройдзе ў ранг мультымільянераў ("зайцовых"), астатнія ж пераселяцца ў царства вечнага камунізму.

...Эканоміка зноў стане эканомнай, і патрэба ў эканамістах адпадзе сама сабой.

...Сельская гаспадарка зробіцца самай прэстыжнай і хлебнай (пасля міліцыі) сферай прыкладання рук.

...Свята ўмоўнага ўраджаю "Да-Жынкі" (што ў Шклове) аб'явяць непрацоўным днём.

...Кожны беларус будзе з чаркай, але без шкваркі — уступіць у дзеянне дзяржаўная праграма барацьбы з халестэрынам і шкоднай звычкай есці сала з мясам.

...Амаль усе мы будзем жывыя, а некаторыя дык і сытыя — палітыкай, цэнамі, чаканнем учарашняга дня або проста сваім жыццём.

І ўсё ж я раблю стаўку на "жыццё", на тое немагчыма шэрае, беспрасветнае, наша адзінае жыццё. І стаўлю ўсю сваю чатырохмільённую зарплату. Хто больш, спадарства? Стаўкі прымаюцца — да канца стагоддзя засталося менш чым 400 дзён.

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*г. Магілёў*

# Дзе нашы фільмы і хто іх бачыць?

***17 снежня быў Дзень беларускага кіно. Тым днём якраз адбыўся чарговы з'езд Беларускага саюза кінематаграфістаў, а таксама святочая вечарына ў кінатэатры "Масква". Дэманстрацыя апошніх навінак "Беларусьфільма" — ігравой стужкі В. Дудзіна "Тры жанчыны і адзін мужчына", а таксама анімацыйнага фільма І. Волчака "Пастараль" — сведчыла пра тое, што беларускі кінематограф быў, ёсць і будзе. А напярэдадні свята я патэлефанавала некаторым рэжысёрам і папрасіла іх адказаць на такія пытанні: у якім стане знаходзіцца сёння наша кіно? Ці існуе беларуская школа кіно? Ці патрэбен сёння Музей беларускага кіно? Ці трэба аднаўляць Дом кіно ў Чырвоным касцёле?***

**В. Дудзін:**

— У параўнанні з кінематографам іншых рэспублік, беларускі знаходзіцца ў добрым стане. Думаю, сваёй беларускай школы кіно ў нас няма, мы захоўваем традыцыі савецкай школы кіно (я маю на ўвазе ВГІК).

Шчыра кажучы, я не думаю, што ідэя стварыць музей беларускага кіно цяпер актуальная, яна нагул здаецца мне нейкай старамоднай. А ці зацікавіць такі музей сучаснага гледача? Упэўнены: ствараць музей павінны таленавітыя людзі, якія маюць новыя, свежыя ідэі. Але я з цяжкасцю веру, што гэта адбудзецца.

Я адмоўна стаўлюся да аднаўлення Дома кіно ў Чырвоным касцёле. Гэты будынак першапачаткова належаў вернікам, таму і выкарыстоўваць яго трэба па прызначэнні.

**В. Марчанкава:**

— На мой погляд, беларуская школа кіно існавала з 20—30-х гадоў, пачынаючы з першага беларускага фільма Ю. Тарыча "Лясная быль" і да 70-х гадоў. Тады беларускі кінематограф меў свае нацыянальныя асаблівасці, сваіх нацыянальных герояў. Існавала жанравае кіно. Цяпер жа стан беларускага кінематографа вельмі цяжкі, кінематограф, па сутнасці, хворы. Узровень вытворчасці слабы, на студыі няма нармальнай апаратуры. Думаю, калі наша кінатворчасць пачне развівацца на сусветным узроўні, нацыянальныя асаблівасці беларускага кіно наогул страцяцца. Але ж рэжысёру неабходна мець "нацыянальную жылку". Паглядзіце, чэхі здымаюць фільмы і атрымліваюць "Оскары". Бо галоўнае — і як зроблены, і што зроблена.

На жаль, у новых умовах кінавытворчасці сталыя рэжысёры, людзі іншага пакалення, іншага рытму жыцця, крыху разгубіліся. Так, з'явілася камерцыйнае кіно, з'явіліся людзі, якія хочуць прадаваць гэтае кіно. Сёння дзяржава не працуе на кіно, як гэта было раней. Трэба працаваць з прадзюсерам, а гэта вельмі цяжка. Многія рэжысёры сапраўды не арыентуюцца: для каго здымаць, што трэба сучаснай аўдыторыі?

Я падтрымліваю ідэю стварэння музея беларускага кіно. Толькі што ў ім будзе? На студыі мне давялося размаўляць з жанчынай, якая загадвае фондам каштоўнага рэквізіту. На жаль, шмат што страцілі, раскралі. Таму некаторых рэчаў у тым музеі мы ўжо не ўбачым.

Лічу, што ў адносінах да Чырвонага касцёла наша дзяржава павінна прытрымлівацца пэўнай палітыкі. Калі аддалі, дык жа не адбірацьь!

**Б. Шадурскі:**

— Вядома, беларуская школа кіно існавала. Гэта І. Дабралюбаў, М. Пташук, В. Тураў, В. Нікіфараў. І цяпер яна паціху існуе, недзе "прарастае". Думаю, сёння ёсць падстава для аптымізму: на "Беларусьфільм" прыйшлі маладыя, энергічныя людзі — Б. Гарошка, С. Лук'янчыкаў, дай Бог ім здароўя. Можа, што-небудзь і атрымаецца ў нас, справа пойдзе.

Музей беларускага кіно проста неабходны цяпер. Бо страчваюцца каштоўныя дакументы і матэрыялы. Я ведаю, яго стварэннем займаюцца некаторыя дзяды, а трэба, каб займаліся маладыя, энергічныя людзі.

Цяпер ужо немагчыма, каб Дом кіно быў у Чырвоным касцёле. У царкве павінна быць царква.

**Г. Адамовіч:**

— Калі шчыра, стан беларускага кіно вельмі складаны. Сёння "Беларусьфільм" пакідаюць многія людзі. Калі таленавіты рэжысёр робіцца дырэктарам студыі, гэта не для ўсіх удалы расклад. Думаю, што цяпер будуць праблемы з дакументальным кіно, якое ў нас мацнейшае за ігравое. На жаль, С. Лук'янчыкаў лічыць, што толькі ён ведае, як здымаць дакументальнае кіно. Калі раней існавала паліца забароненых фільмаў, то цяпер існуе паліца непатрэбных фільмаў. Бо нікога не цікавіць канчатковы вынік, ніхто не думае пра тое, хто будзе набываць усе гэтыя стужкі. За мяжой, калі ў карціну укладваюць дваццаць тысяч долараў, то імкнуцца абавязкова акупіць усе затраты. Мы ж дазваляем сабе бяздумна траціць вялікія грошы. Дзе нашы фільмы, хто іх бачыць?!

Думаю, у нас было нацыянальнае кіно і ў будучым яно адродзіцца зноў. Прынамсі, я спадзяюся на гэта. Летась мы былі на кінафестывалі ў Германіі, дзе галоўныя прызы атрымалі літоўскія кінематаграфісты, у якіх уласная кінастудыя даўно не працуе. Мы назіралі іх сапраўдны трыумф. А калі мы прыязджаем за мяжу, нас пытаюць: вы адкуль — з Расіі ці з Украіны?

Музей беларускага кіно патрэбен. Вельмі хутка адыходзяць з жыцця таленавітыя людзі. Трэба паспець захаваць тое, што яны зрабілі. Дзе гэты музей будзе, для мяне неістотна.

Думаю, не трэба патрабаваць вярнуць Чырвоны касцёл. Раз аддалі яго вернікам, няхай яны там і моляцца.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

# Дыялог
## пісьменнікаў з прэзідэнтам краіны: погляд збоку

Леанід ЛЫЧ

Я НЕ ПІСЬМЕННІК і таму не меў права прысутнічаць у зале, дзе 5 жніўня адбывалася сустрэча прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з пісьменнікамі. Цікавасць жа да сустрэчы была вялікай, таму, як толькі з'явіліся ў друку матэрыялы пра яе, адразу ўзяўся чытаць.

Зусім зразумела, што стрыжнем гаворкі на сустрэчы А. Лукашэнкі з членамі Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў была беларуская мова, бо для апошніх яна асноўны інструмент творчай прафесійнай дзейнасці, а для народа — не толькі сродак зносін, але і асноўны фактар вызнання сябе як пэўнай этнічнай супольнасці. Забяры ў нашых майстроў пяра беларускую мову — яны ўжо не беларускія пісьменнікі, далучы наш народ ад беларускай мовы — ён толькі па дакументах можа яшчэ лічыцца беларускім...

З вялікай трывогай у сэрцы ўспрымаюцца сказаныя А. Лукашэнкам словы: "Мы нацыю ледзь не раскалолі па моўным прынцыпе". І вельмі добра, што гэтае ліха нарэшце пачынаюць заўважаць і ў самых верхніх эшалонах улады. Бо і праўда, ці ж могуць у народзе адбывацца кансалідацыйныя нацыянальныя працэсы, калі палітыкі і блізкія да іх інтэлектуалы з усіх сіл пнуцца зрабіць увесь беларускі народ, а не толькі тых, каму гэта належыць паводле прафесійных абавязкаў, актыўнай двухмоўнай нацыяй. Усе сучасныя нацыі — нават самыя цывілізаваныя — аднамоўныя, што садзейнічае паглыбленню кансалідацыйных працэсаў унутры кожнай з іх. Двух- і шматмоўнымі ў нацыі бываюць толькі яе паасобныя індывіды. Аднамоўнасць нацыі ніколькі не перашкаджае яе эканамічнаму, сацыяльна-палітычнаму і духоўнаму развіццю, і што не менш важна: здымае небяспеку ўзнікнення ўсялякага роду канфліктаў на моўнай глебе. Стагоддзямі іх не ведаюць аднамоўныя нацыі, у т. л. рускія, палякі, немцы, французы, італьянцы, англічане, японцы, карэйцы... А вось паспрабуй кожную з іх прывесці да двухмоўя, да прыкладу, рускіх зрабіць руска-англамоўнымі, французаў — франка-нямецкамоўнымі, японцаў — япона-карэйскамоўнымі і г. д., як у кожнай з іх пачнуцца лінгвістычныя катаклізмы, падзел да гэтага адзінай, маналітнай нацыі на дзве разнамоўныя часткі. Менавіта такую згубную палітыку ў дачыненні да беларускага народа на працягу стагоддзяў праводзілі шавіністычныя ўлады Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі, ставячы канчатковай мэтай пераўтварыць беларусаў у першым выпадку ў палякаў, у другім — у рускіх. І многае ўдалося зрабіць: сёння мільёны беларусаў па крыві лічаць сябе за палякаў ці рускіх. Дзякаваць Богу, што ўрадам гэтых дзвюх славянскіх краін не ўдалося да канца ўвагнаць у этнічную магілу трэці славянскі народ. Пры правільнай, узважанай дзяржаўнай культурна-моўнай палітыцы можна яшчэ адвесці ад яго дамоклаў меч асіміляцыі.

Радуе, што за апошнія дзесяць гадоў дзяржава з ініцыятывы нацыянальных адраджэнцаў змагла прыняць шэраг важных нарматыўных актаў на карысць беларускай мовы. З усіх іх я ставіў, стаўлю і буду ставіць на першае месца прыняты Вярхоўным Саветам БССР 26 студзеня 1990 г. Закон "Аб мовах у Беларускай ССР". Не будзе перабольшаннем сказаць, што яго распрацоўшчыкі прапанавалі вельмі надзейныя, эфектыўныя шляхі аднаўлення ў законных правах беларускай мовы. Пры жаданні, падтрымцы дзяржавы асноўныя палажэнні, гэтага закона можна было зусім лёгка ажыццявіць. Але не ўдалося, бо ў складзе дзяржаўных органаў не было дастатковай колькасці нацыянальна-самасвядомых, беларускамоўных кадраў, якія маглі стаяць у авангардзе змагання беларускага народа за вяртанне да жыцця іх роднага слова. Ведаючы, што і ён сам, дзякуючы здэнацыяналізаванай сістэме адукацыі і ўсяго духоўнага жыцця, моцна адарваны ад сваёй прыроднай мовы, дзяржаўныя функцыянеры смела пайшлі на правядзенне ў маі 1995 г. рэферэндуму з мэтай юрыдычнага надання рускай мове аднолькавых правоў з беларускай. Народ даў, дакладней — у народа вырвалі такую згоду.

Цяпер, калі рупліўцы беларускай мовы, бачачы, у якую небяспечную пастку трапіла яна ў выніку майскага рэферэндуму 1995 г., заклікаюць дзяржаўныя ўлады нешта рабіць дзеля яе выратавання, чуецца адказ: "Мы дзейнічаем паводле выказанага народам пажадання падчас моўнага плебісцыту". Нешта падобнае пачулі беларускія пісьменнікі і з вуснаў А. Лукашэнкі: "У рэшце рэшт, якія могуць быць спрэчкі па мове?.. Мы самым дэмакратычным чынам (наконт гэтага некаторымі пісьменнікамі выказаліся зусім супрацьлеглыя меркаванні. — **Л. Л.**) спыталі ў людзей, што рабіць? І больш за 90 працэнтаў выказаліся наконт гэтага. І я як кіраўнік дзяржавы абавязаны прытрымлівацца гэтага волевыяўлення, праводзіць дзяржаўную палітыку і адстойваць дзяржаўныя прынцыпы".

Дапусцім, што ў час рэферэндуму і пасля яго ўсё было так, як зазначана ў вышэйпрыведзенай цытаце. А цяпер давайце паглядзім, што ж адбылося ў моўнай сітуацыі, ці зроблены хоць першыя крокі па ўсталяванні роўнасці ў дзяржаўным статусе беларускай і рускай моў, за што акурат і прагаласавала большасць з тых, хто браў удзел у маі 1995 г. у рэферэндуме? Я думаю, сёння не знойдзеш аніводнага палітыка ці адукаванага чалавека, які сказаў бы, што пасля рэферэндуму сталі мацнець сацыяльныя пазіцыі беларускай мовы ў грамадскім жыцці, што па аб'ёме сваіх функцый яна набліжаецца, абганяе рускую мову, каб стаць першай сярод роўных на сваёй гістарычнай тэрыторыі, заняць у сябе дома такое месца, якое руская мова займае ў Расіі, літоўская — у Літве, грузінская — у Грузіі... Нічога падобнага мы не бачым. Становішча беларускай мовы пасля рэферэндуму не толькі не палепшылася, а, наадварот, значна пагоршылася. Дык што ж, у такой сітуацыі палітыкі павінны толькі тыкаць пальцамі ў лічбавыя вынікі майскага рэферэндуму і нічога не рабіць, назіраючы, як канае беларуская мова? Проста не разумею, як можна ў такой сітуацыі бяздзейнічаць дзяржаўным чыноўнікам, адказнай за духоўнае жыццё часткі інтэлігенцыі, калі пасля рэферэндуму на некалькі соцень зменшылася колькасць беларускіх школ, калі ў многіх гарадах апошнімі гадамі зусім не праводзіцца набор першакласнікаў у беларускія класы?! Ды была б наша дзяржава тройчы суверэннай, пры такім занядбаным стане мовы свайго тытульнага народа — яна прывядзе яго не да духоўнага росквіту, а да поўнага этнічнага вымірання.

Яшчэ не было і, пэўна ж, ніколі не будзе такога народа, такой дзяржаўнай улады, якія ніколі не памыляліся. Не застрахаваны ад гэтага і беларускі народ і яго дзяржава. Майскі рэферэндум 1995 г. пераканаўчае сведчанне таму. Як можна яго хваліць, узносіць да неба, калі ён на сметнік загнаў беларускую мову, у якой няма больш нідзе законнай тэрыторыі, як толькі на Беларусі?! Таму яшчэ раз падкрэсліваю: не трэба рабіць націск на "дзяржаўныя прынцыпы", калі яны на шкоду беларускай мове. Выратаванне мовы павінна стаць задачай нумар адзін для нашай дзяржавы, нягледзячы на тое, што даводзіцца адначасова пераадольваць і нечуваныя да гэтага эканамічныя цяжкасці.

Хацеў бы прасіць усіх тых, хто перажывае за гаротны стан беларускай мовы, рупіцца пра яе адраджэнне, не абвінавачваць свой народ за тое, што ў час рэферэндуму ён галасаваў за роўнасць сваёй і рускай моў. Разабрацца ва ўсіх тонкасцях дужа складанай у нас моўнай праблемы не так проста маласведчаным у нацыянальнай палітыцы людзям. Тым, хто не ведае, нагадаю, што і ў час польскай інтэрвенцыі 1919—1920 гг., у шэрагу месц польскім акупантам удавалася так тонка ідэалагічна апрацаваць беларусаў, што на рэферэндумах яны таксама актыўна выказаліся за польскія нацыянальныя інтарэсы, у прыватнасці школу. Таму ў адной з публікацый у газеце "Беларусь" за 1919 г. Янка Купала пісаў, што "плебісцыты... ёсць ні што іншае, як дэмакратычная камедыя, катораю людзі прыкрываюць сваё нячыстае сумленне".

Дурылі рознага роду апытаннямі, рэферэндумамі не толькі наш беларускі народ. У хітра расстаўленыя палітыкамі пасткі траплялі практычна ўсе народы і давалі сваю згоду на правядзенне часам вельмі брудных спраў. З Евангелля ад Іаана мы даведваемся, што ніхто іншы, як народ, прасіў Пілата адпусціць разбойніка Вараву і пакараць Ісуса. На крыкі раз'юшанага натоўпу: "Раскрыжуй, раскрыжуй Яго!" Пілат адказаў: "Вазьміце яго вы і раскрыжуйце, бо я не знаходжу ў ім віны". І гэтыя словы не падзейнічалі на натоўп. Па яго патрабаванні воіны павялі Ісуса "на месца, называемае Лобнае, па-яўрэйску Галгофа", і там на вялікую радасць натоўпу здзейснілі раскрыжаванне.

Калі я так прынцыпова разыходжуся з афіцыйным стаўленнем да майскага рэферэндуму 1995 г., дык затое цалкам падтрымліваю сказанае А. Лукашэнкам пісьменнікам: "Гвалтам мову не падтрымаеш. Дзяржаўная палітыка нават у гэтай галіне наскокам не праводзіцца". Такая пазіцыя абавязвае ўладныя структуры шукаць, прычым тэрмінова, негвалтоўныя метады падтрымкі беларускай мовы, якая мае ў гэтым вельмі вялікую патрэбу. Метадаў такіх багата, яны знаходзяцца проста на паверхні. Толькі вось невядома, чаму ніхто іх не прыводзіць у дзеянне? Ужо каля пяці гадоў мне не ўдаецца пачуць па радыё ці тэлебачанні, прачытаць на старонках газет ці часопісаў прыхільныя выказванні, вялікую і шчырую заклапочанасць каго-небудзь з высокіх дзяржаўных асоб пра гаротны стан беларускай мовы. Ствараецца ўражанне, што ўсе яны цалкам задаволены такім станам і нічога не збіраюцца рабіць. Крайне асцярожна і нясмела, вельмі рэдка выступаюць у афіцыйных сродках масавай інфармацыі ў абарону беларускай мовы нашыя вядучыя вучоныя, якія па ёй напісалі кандыдацкія і доктарскія дысертацыі, дзякуючы ёй сталі членамі-карэспандэнтамі, акадэмікамі Нацыянальнай акадэміі навук, "заслужанымі". Растлумачальнай працы ў шырокіх гушчах людзей аб ролі нашай роднай мовы ў лёсе беларускай нацыі трэба надаць дзяржаўны, агульнанародны характар, бо гэта ж найвялікшы парадокс, што мільёнамі грамадзян як след не разумеецца гістарычнае значэнне іх роднага слова для нармальнага духоўнага развіцця. За такое неразуменне народам выключнай важнасці свайго асноўнага багацця найперш за ўсё вінаватыя мы, вучоныя-гуманітарыі, бо пераканаўча не давялі яму пра гэта. Нельга здымаць віну за недасведчанасць людзей у сацыяльнай ролі мовы і самых палітыкаў. Мы павінны адкрытым тэкстам, публічна заявіць людзям, што без нацыянальнай мовы яны не толькі асімілююцца, але і не маюць аніякіх важкіх падстаў называць сябе беларусамі, бо што гэта за беларусы, калі яны выракаюцца свайго і карыстаюцца чужым словам. Далей. Без нацыянальнай мовы беларусаў не мае аніякіх шанцаў на выжыванне і іх дзяржава, нягледзячы на тое, якія дзеячы будуць стаяць на чале апошняй. Рана ці позна яна праглынецца крайнай, чыёю карыстаецца моваю.

Зусім заканамерна, што ў час дыялога пісьменнікаў з прэзідэнтам узнікла і гаворка пра нацыянальную ідэю. Толькі больш правільна і больш дарэчы было б гаварыць пра такую ідэю не ўвогуле, а пра беларускую нацыянальную ідэю. Маю ўвагу прыцягнулі словы А. Лукашэнкі, што "наша грамадства не гатова сёння ўспрыняць існуючую нацыянальную ідэю як сцяг, які можна разгарнуць. А мы не гатовы сёння прапанаваць такую ідэю, якая авалодала б грамадствам". Першы сказ цытаты дае нам падставы гаварыць пра адсутнасць чагосьці прывабнага ў нашай нацыянальнай ідэі, таму яна і не ўспрымаецца, не авалодвае грамадствам. Давайце падумаем, ці не магла б у якасці такога прывабнага ў нашай нацыянальнай ідэі быць сама беларускасць? Яна ж займае ледзь не сірочае месца ў той нацыянальнай ідэі, прыхільніцай, носьбітам якой з'яўляецца сама ўлада нашай краіны. Такую безбеларускую нацыянальную ідэю ўсяляк імкнуцца навязаць і тытульнаму народу нашай краіны. І добра, што ён не ўспрымае таго, у чым так мала беларускага. Упэўнены, калі б апошняга хапала ў дзяржаўнай канцэпцыі сучаснай нацыянальнай ідэі, не ўзнікла б сітуацыя, пра якую так паведаміў А. Лукашэнка пісьменнікам: "Мы тройчы да гэтага падыходзілі, мы вучоных прыцягвалі, работнікаў культуры, разумных людзей... І мы нічога не выпрацавалі. Усё, што мне было пакладзена на стол, гэта ўжо зацёрта, "запэцкана"... я быў бы рады, калі б мне сёння Саюз пісьменнікаў узяў ды і прапанаваў канцэпцыю ідэі, якая сапраўды была б успрынята народам".

Не ведаю, ці ўзяўся за выкананне гэтай прапановы прэзідэнта Саюз пісьменнікаў. Аднак лічу, што ва ўсіх выпадках не будуць лішнімі і мае разважанні наконт беларускай нацыянальнай ідэі, беларускага нацыянальнага Адраджэння. Выпрацаваць дасканалую беларускую нацыянальную ідэю і тым больш зрабіць яе такой, каб яна авалодала нашым народам, крайне цяжка, улічваючы вялікую ступень дэфармацыі яго прыродных этнакультурных асноў у выніку працяглай, умела навязанай яму палітыкі паланізацыі і русіфікацыі. Аднак трэба заўважыць, што патрыёты, высокаадукаваныя людзі нашай Бацькаўшчыны ўжо ў XIX — пачатку XX ст., калі даводзілася жыць пад уладай Расійскай імперыі, выпрацавалі ў асноўным правільную нацыянальную ідэю. У ёй належнае месца знайшлі такія кампаненты, як палітычная незалежнасць беларускага народа (спачатку ў форме абласной аўтаноміі ў складзе федэратыўнай дэмакратычнай Расіі, а затым — стварэнне ўласнай суверэннай дзяржавы), прыстойнае эканамічнае жыццё, развіццё культуры, адукацыі ў адпаведнасці з духоўнымі традыцыямі роднага краю, вяртанне яго карэнным жыхарам гістарычнай памяці. Нягледзячы на неверагодныя цяжкасці, выкліканыя Першай сусветнай і грамадзянскай войнамі, рэвалюцыямі 1917 г., беларуская нацыянальная ідэя не заставалася пустым гукам. Пераадольваючы ўсе цяжкасці, яна паступова пераўтваралася ў жыццё. Не ўдалося толькі, з прычыны велізарных разбурэнняў, нічога пазітыўнага зрабіць у сферы эканомікі. Затое як паспяхова спрацоўваў палітычны фактар беларускай нацыянальнай ідэі: 9 лютага 1918 г. на акупаванай кайзераўскімі войскамі тэрыторыі пасля стольких гадоў бездзяржаўнага існавання ўтвараецца Беларуская Народная Рэспубліка, якая 25 сакавіка таго ж года абвясціла пра сваю дзяржаўную незалежнасць; 1 студзеня 1919 г. абвяшчаецца Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка; 31 ліпеня 1920 г. — другое абвяшчэнне БССР. Не на чужой, а на роднай мове вучылі беларускіх дзетак у школах, семінарыях і гімназіях. У іх выкладалася не гісторыя Польшчы ці Расіі, а Беларусі. У 20—30-ыя гады ўдалося ажыццявіць першыя крокі па стварэнні вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы на беларускай мове. Такую прагрэсіўную беларускую нацыянальную ідэю з радасцю прыняў наш народ і дамогся значнага поспеху ў сваім адраджэнні. Шкада, што далей беларускае жыццё пайшло іншым шляхам, развівалася не ў нацыянальных, а ў псеўдаінтэрнацыянальных формах.

Тагачасная беларуская нацыянальная ідэя заслугоўвае нашага ўсебаковага і глыбокага асэнсавання. Цалкам перанесці яе ў сучасную практыку нельга, бо многае ў ёй паўстае зусім іншым, чым на пачатку стагоддзя. Сёння ўжо мы маем сваю дзяржаву, хаця і застаецца шмат праблем у напаўненні яе фармальнага, юрыдычнага суверэнітэту рэальным зместам.

Новыя падыходы патрэбныя да вызначэння ролі і месца эканамічнага фактару ў беларускай нацыянальнай ідэі. Думаю, што гэта падуладна нашым вучоным-эканамістам, у асяроддзі якіх працуе нямала буйных тэарэтыкаў у гэтай галіне навукі.

Адзінае, што не ўстарэла ў беларускай нацыянальнай ідэі з першай чвэрці XX ст., — гэта сістэма поглядаў на арганізацыю духоўнага жыцця Бацькаўшчыны. Тады дзяржава, а разам з ёю ўсе інстытуты, сама грамадскасць прыярытэты ў адукацыі, культуры, навукі зусім справядліва аддавалі беларускаму фактару, бо толькі ў падобным выпадку яны маглі набыць і далей развіць свой беларускі патэнцыял. Паўстагоддзе, а то і болей гадоў таму назад дзяржава ўзяла памылковы і крайне небяспечны для свайго карэннага насельніцтва курс на развіццё яго духоўнага жыцця паралельна паводле беларускіх і рускіх культурна-моўных стандартаў. Што з гэтага атрымалася, цяпер добра вядома: беларусаў адарвалі ад родных каранёў і ўжо некалькі пакаленняў ледзь не цалкам узгадавалі на рускім матэрыяле. Самае страшнае, што іх адарвалі ад роднай мовы, бо гэта асноўны фактар, па якім чалавек вызначае сваю нацыянальнасць, выказвае сваю любоў і пашану, гатоўнасць служыць інтарэсам Бацькаўшчыны.

Усіх гэтых негатыўных з'яў ніяк нельга абмінуць пры выпрацоўцы сучаснай беларускай нацыянальнай ідэі. На ўсе сто працэнтаў упэўнены, што зараз у ёй самы актуальны і прынцыпова важны кампанент — гэта культурна-моўны. Калі ў ім, як і сёння,

(Працяг на стар. 14—15)

## Аргументавана і зацікаўлена

**Алесь Карлюкевіч — адзін з найбольш актыўных сучасных літаратурных крытыкаў, у чым неаднаразова маглі пераканацца чытачы "ЛіМа", дый на старонках іншых выданняў (часопісаў "Полымя", "Маладосць", газеты "Кнігa і мы" цяпер "Книжный мир") часта напаткаеш яго прозвішча. Выступае А. Карлюкевіч як рэцэнзент, літаратуразнавец, а таксама краязнаўца. Чытачы мелі магчымасць пазнаёміцца і з яго ўласнымі кнігамі "Вяртанне да... Беларусі" (1994) і "За Цітаўкаю — Слабада" (1997). Першая выйшла ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць". І вось А. Карлюкевіч — зноў "госць" згаданай "Бібліятэкі...": толькі што пабачыла свет кніга яголых рэцэнзій "Чаканне Айчыны".**

**У падзагаловку так і пазначана: "Кніга рэцэнзій", а на сённяшні дзень, пагадзіцеся, падобнае сустрэнеш не часта. З цяжкасцю выходзяць і зборнікі літаратурна-крытычных артыкулаў, а між тым, у чым пераканаваны і сам А. Карлюкевіч, "праца гэтая (маецца на ўвазе рэцэнзаванне — В. З.) няўдзячная. Бягучая літаратурная крытыка рэдка складваецца ў кнігі. Рэцэнзіі застаюцца ў памяці хіба што аўтараў кніг".**

**Зборнік "Чаканне Айчыны" аб'ёмам — невялікі, крыху больш за пяць улікова-выдавецкіх аркушаў, а рэцэнзій у ім — ажно 21! І па гэтым відаць, што А. Карлюкевіч ашчадна ставіцца да слова. Піша лаканічна, сцісла, але аргументавана і, што важна для чытача, які, будзем справядлівымі, далёка не заўсёды шануе згаданы жанр, зацікаўлена.**

**Разгарнуўшы любую з рэцэнзій, адразу адчуваеш сутнасць той ці іншай кнігі, што трапіла ў поле зроку крытыка. А ўвайшлі ў зборнік рэцэнзіі, напісаныя А. Карлюкевічам з 1991-га па 1998-ы год — лішняе пацвярджэнне, наколькі ўважліва ставіцца аўтар да сучаснага літаратурнага працэсу, імкнучыся не прамінуць найбольш важнае.**

**Кола ж інтарэсаў А. Карлюкевіча шырокае. Калі ўзяць у кнізе першую рэцэнзію і апошнюю, дык атрымліваецца, што гаворка тут ідзе ад Рыгора Барадуліна да Ганада Чарказяна. Аўтар рэцэнзуе дзве кнігі Р. Барадуліна: зборнік літаратурнай крытыкі, успамінаў, публіцыстыкі "Аратай, што пасвіць аблокі" ("Вечнасць скажа сваё слова...") і выбраныя пераклады "Беларусь мяне збеларушвае" ("Убачыць поўню ў вышыні") і кнігу Г. Чарказяна "Караваны гор" ("Чаканне Айчыны").**

**А яшчэ можна прачытаць пра кнігі Яраслава Пархуты "Сустрэча з іншапланецянкай", Мар'яна Віжа "Лабірынт", Анатоля Вераб'я "Абуджаная памяць", Вітаўта Чаропкі "Перамога з ценю", зборнік "М. М. Улашчык і праблемы беларускай гістарыяграфіі, краязнаўства і археаграфіі", альбом "Вінцэнт Якуб Дунін-Марцінкевіч", Аляксея Ненадаўца "Тэадор Нарбут" і іншыя.**

**Сярод іх, як бачым, выданні, у якіх гучыць гістарычная праблематыка — ці то ў краязнаўчым аспекце, ці то ў мастацкіх творах. Выбар кніг невыпадковы, бо А. Карлюкевіч і сам шмат робіць дзеля таго, каб менела "белых плям" у нацыянальнай гісторыі. Адсюль і яго апраўданая зацікаўленасць падобнымі аспектамі ў творах іншых, а таксама жаданне своечасова падтрымаць аўтара, які ўзяўся за такую нялёгкую справу.**

**На падобную акалічнасць звярнуў увагу і аўтар прадмовы да кнігі "Чаканне Айчыны" Уладзімір Саламаха: "Разважаючы над напісаным Алесем Карлюкевічам, над літаратурай, думалася, што ў ёй... нямала "фрэскавасці" ў выяўленні тых або іншых з'яў гісторыі нашага народа, сучаснага жыцця і г.д. Таксама думалася, што "фрэскавасць" гэта — духапачувальная, маецца на ўвазе нацыянальны яе дух. А таксама, што літаратура наша праз гэтую "фрэскавасць" (што добра разумее аўтар) ствapae сапраўдны вобраз Радзімы". Між іншым, і свой артыкул У. Саламаха назваў "Фрэскавы вобраз Радзімы". І гэта на самай справе так, у чым і ўпэўніваемся, загарнуўшы апошнюю старонку кнігі А. Карлюкевіча.**

**Віктар ЗАКРЭЎСКІ**

# "Няма жыццю канца..."

## НЕКАЛЬКІ ШТРЫХОЎ ДА ПАРТРЭТА ВІКТАРА ЯРАЦА

У неабсяжным моры сённяшняга прыгожага пісьменства прыкметна вылучаецца творчая асоба гомельскага паэта Віктара Яраца. Вядомы як аўтар зборнікаў "Уваходзіны" (1976), "Добрыца" (1989) і "Дняпроўскі бакен" (1992), паэт тым не менш, хоць і незразумела чаму, абдзелены ўвагай літаратурнай крытыкі. Але гэта зусім не азначае, што пра паэта няма чаго сказаць. Спасылаючыся на словы вядомага чэшскага пісьменніка К. Чапека, адзначым, што крытык вучыць пісаць так, як бы пісаў ён, калі б умеў. Лагічна разважаючы далей, няцяжка прыйсці да высновы — вучыць В. Яраца няма чаму. Паэт адбыўся. Сведчаннем таму — публікацыі аўтара апошніх гадоў у перыёдыцы. Менавіта тут, і гэта можна толькі вітаць, В. Ярац найбольш арганічны, глыбокі, удумлівы, па-мастацку арыгінальны творца.

Што ж вызначае адметнасць яго паэтычнага майстэрства? Што не дае творцу згубіцца ў шматгалосым сучасным мастацтве слова?

У ліку найбольш істотных, важкіх прыкмет творчай манеры В. Яраца варта адзначыць шчырасць, сцішанасць прамаўлення. Каб звярнуць на сябе ўвагу, паэту дастаткова толькі шэпту:

***Ні грукату, ні грому. Толькі шэпт***
***груш палявых, як голас прывітання...***

Слушна заўважыў некалі У. Гніламёдаў, рэцэнзуючы апошні зборнік паэта: "Паэзія В. Яраца — па-палеску некрыклівая, ціхая, засяроджаная на духоўных каштоўнасцях чалавечага жыцця на ўлонні прыроды". Усё гэта роднiць яго з такім майстрам знешне нягучных, задушэўна-лірычных форм, як А. Грачанікаў.

У лучнасці навакольнага, знешняга свету са светам пачуццяў паэта, яго душой угадваюцца відавочныя алюзіі з М. Багдановічам. Прыгадаем славутыя радкі класіка:

***Бачу я, з прыродай зліўшыся душой,***
***Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной,***
***Чую ў цішы, як расце трава.***

Падобную паяднанасць, знітаванасць душы паэта з прыродай знаходзім і ў В. Яраца:

***Стань маўчаннем, каб пачуць дыханне***
***дрогкай зоркі ў зябкай вышыні...***

Або:

***Чутна, як збялелая ігліца***
***ў цішыні цярусіцца з сасны...***

Родніць В. Яраца з М. Багдановічам імпрэсіяністычны характар пейзажнай лірыкі. Лірычная эцюднасць, жывапіс словам навідавоку ў наступных радках паэта:

***Вераснёвыя тонкія ніці***
***Лёгка рвуцца і лёгка плывуць.***
***Варта небу ледзь-ледзь уздыхнуць —***
***як трапечацца ліст на ракіце...***

Дадзены прыклад найлепш пацвярджае думку аб тым, што "славесны вобраз выклікае ў свядомасці найбольшую колькасць асацыятыўных сувязяў, запрашае чытача да сутворчасці". Больш таго, у прыведзеным лірычным замалёўцы аўтар дэманструе майстэрскае валоданне прыёмам гукапісу. Праз паўтарэнне свісцячых **с, ц** даносіцца да нас уражанне сцішанасці свету, якую парушае толькі ледзь улоўнае трымценне ракітавага ліста, восеньскай самоты і спакою.

Адметнасцю паэтычнага стылю В. Яраца з'яўляецца і багацце вобразных сродкаў, эмацыянальных выразаў, асацыятыўнасць мыслення. Вядома, без наяўнасці такіх адзнак творчай манеры няма і не можа быць мастака. Таму што сапраўдны творца заўсёды бачыць свет у вобразах-сімвалах, якія, абуджаючы фантазію, непасрэдна ўздзейнічаюць на наша ўяўленне. Прыкладам удалай вобразатворчасці В. Яраца будуць радкі:

***Адрасы з вясны ляцяць у лета —***
***матылі іх пішуць за вакном***
***на кляновых навенькіх канвертах,***
***барвянець якім асеннім днём.***

Здзіўляе паэт і нечаканасцю метафар:

***Галіны неба абнялі,***
***Гасцюючы ў вышынях...***

Ці яшчэ:

***Выдых неба — іней на галінах.***

Даволі адчувальны ў лірыцы В. Яраца філасофскі струмень. Асэнсоўваючы вечныя праблемы чалавечага існавання, маральныя каштоўнасці жыцця, паэт вельмі патрабавальна ставіцца да сябе самога. Абвостранае пачуццё асабістай адказнасці перад светам прарываецца з радкоў:

***Станцыі, паўстанкі і масты,***
***гнёзды, як дазорныя прысадаў,***
***зноў пытаюць: што пакінуў ты***
***за спіной вясной і даляглядам?***

Пастаноўка пытанняў ("Што ж я запомніў на гэтай зямлі?", "Цёплых гукаў сузор'і ці вернеш?", "А падкову шчасця — я не знаю — ці знайшоў хто-небудзь на зямлі?") і пошук адказаў на іх праходзяць лейтматывам праз усю творчасць паэта апошніх гадоў. Зрэшты, і сам паэт прызнаецца:

***Я і сам — пытанне, не адказ.***
***Я і сам, бы ў садзе яблык кожны,***
***слухаю ў вячэрні золкі час***
***шоргат крыл — гарачы і трывожны.***

Тым не менш, у многіх вершах В. Яраца можна знайсці тлумачэнне такіх філасофскіх катэгорый, як дабро, шчасце, ісціна. Сапраўднае шчасце для паэта —

***рэчка, схаладнелая пад кручай,***
***над якой плыве з гародаў дым.***

Як бачым, усё тая ж сцішанасць і некрыклівасць, імкненне да нейкага суладдзя ў свеце.

Аднак творца добра разумее, што дасягнуць гармоніі ў сённяшніх супярэчлівых стыхіях і хаосе жыцця калі і магчыма, то вельмі цяжка. Паэт не можа быць у пазачассі. Усведамляючы гэта, В. Ярац выказвае балючыя ўласныя дачыненні да самых жыццёва важных праблем і трагедый сваёй зямлі. Унутрана асэнсаванае, шчымлівa прачулае слова паэта гучыць у вершах, прысвечаных трагедыі Чарнобыля, экалагічнай сітуацыі ў краіне.

***У лугах асакою крыніцы ўзяліся,***
***высыхаюць сады, што садзілі дзяды.***
***Іржавеюць плугі. Сіратлівыя высі***
***наглыталіся ўволю хімічнай брыды.***

Той страшны чарнобыльскі дзень, ужо даўно парослы палыном, як сімвал часу, у якім жывеш, як "выклік злу і немаце", знайшоў сваё адлюстраванне ў вершах "Балада Палесся", "Мой хворы край", "Добры дзень" і інш.

Шырока і шматгранна раскрыта ў паэзіі

ЧАСОПІСЫ

# Не блытаць прадвесне з зазім'ем

Часопіс "Крыніца" ў дзевятым нумары змяшчае матэрыялы аб жыццёвым і творчым шляху народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава. З аднолькавай пільнасцю іх будуць чытаць як прыхільнікі яго таленту, так і тыя, хто пісьменніка не прымаў дый не прымае сёння. Але І. Чыгрынава з літаратуры не выкінеш. Так было і пры жыцці яго. Тым больш відавочна гэта сёння. Хоць, відаць, трэба пагадзіцца з меркаваннем А. Жука, які ў канцы згадак "Да апошняга дня" зазначае: "Ідзе час, на доме, дзе жыў пісьменнік, устаноўлена мемарыяльная дошка. З яе глядзіць на прахожых зусім непадобны на сябе Іван Чыгрынаў. А тыя, хто яго ведаў, міжвольна задумваюцца — а які сапраўды ён быў? Неардынарная, каларытная постаць, асоба — гэта бясспрэчна, таленавіты пісьменнік... Але гэта далёка не ўсё. Загадка Івана Чыгрынава застаецца".

Аўтары "Крыніцы" спрабуюць, па меры магчымасці, "загадку Чыгрынава" разгадаць. Тым больш, што пра Івана Гаўрылавіча пішуць людзі, якія яго добра ведалі, а з асобнымі ён і сябраваў: Анатоль Кудравец, Дзмітрый Бугаёў, Алесь Марціновіч, Андрэй Федарэнка, Алесь Пісьмянкоў, Іван Чыгрын (ён выступае з вершам "Растлумачце слова мне месія"), Навум Гальпяровіч, Сяргей Кавалёў, Леанід Леванович і ўжо згаданы Алесь Жук.

Гаворка ідзе не толькі пра І. Чыгрынава-літаратара, а і пра І. Чыгрынава-грамадзяніна, чалавека. Успамінаючы характэрныя выпадкі з яго жыцця, што дазваляюць лепш упэўніцца, якім ён быў. Ды і звычайныя ў такім разе матэрыялы ў падборцы "Пра МЯНЕ" не абмяжоўваюцца пералікам асноўных момантаў з біяграфіі. Леанід Дранько-Майсюк дае ацэнку асобным творам, успамінае бацькоў пісьменніка. Добра зрабіла рэдакцыя, што змясціла апавяданне "У ціхім тумане" (першапачатковы варыянт — "Маці"), першая публікацыя якога І. Чыгрынаву папсавала нямала нерваў. Дый, калі ўлічыць тагачасныя палітычныя абставіны (твор быў змешчаны ў першым нумары часопіса "Полымя" за 1963 год), і было за што. Падумаць толькі: асмеліўся са спагадай напісаць пра маці паліцая! Былі зроблены і адпаведныя высновы. І. Чыгрынава не проста крытыкавалі, а "білі" такімі крытычнымі дубінамі, якія ў модзе былі толькі ў трыццатыя гады. З'яўленне гэтага апавядання пазней паўплывала і на выхад першай кнігі пісьменніка.

Л. Дранько-Майсюк, калі ўлічыць памеры храналогіі, дае твору вычарпальную ацэнку, называючы апавяданне "маленькай трагічнай сімфоніяй, у якой бяда старой жанчыны адлюстравана з пункту гледжання агульначалавечых, а не класавых пазіцый". Вока, аднак, запыняецца на наступным: "Неўзабаве апавяданне трапляе пад прэс дагматычнай крытыкі Першага сакратара ЦК КПБ Кірылы Мазурава. У выніку — на цудоўны твор была накладзена забарона".

Грахоў у К. Мазурава, канечне, хапала, але не ў дадзеным выпадку. Возьмем у "сведкі" самога І. Чыгрынава. Ён сведчыў, што "першую кніжку "Птушкі ляцяць на волю" трымалі ўжо набранай "нейкія людзі" ажно некалькі месяцаў у выдавецтве, пакуль "добрыя людзі" не падказалі мне звярнуцца да самога Кірылы Трафімавіча Мазурава. Кіраўнік ён быў, лічачы па цяперашнім часе, ліберальны, дакладней, чалавечны; дарма што падобнае выснаванне наогул наўрад ці ўласціва былым кіраўнікам буйнога маштабу. Але ж няйначай за дрэннае стаўленне да мяне ўсё-такі папала т. Шауру, які загадваў у той час у нас ідэалогіяй. Гэта я адчуў па тым, як ён раздражнёна, амаль з агідаю, перакідваў на стале з месца на месца мой ліст да т. Мазурава, мауляў, куды яго цяпер дзяваць?". К. Мазураў і дапамог І. Чыгрынаву з выхадам яго першай кнігі, хоць згаданае апавяданне доўгі час не магло прабіцца ў друк. Толькі ў 1970 годзе пад назвай "У ціхім тумане" яно было надрукавана ў перакладзе на рускую мову ў часопісе "Дружба народов", затым у кнізе "За сто километров на обед" (1970). Да беларускага ж чытача апавяданне зноў прыйшло праз дваццаць з лішнім гадоў — у 1984 годзе ў першай кнізе выбраных твораў І. Чыгрынава.

Але недакладнасць гэтую заўважыць толькі той, хто добра ведае біяграфію пісьменніка, асобныя перыпетыі, звязаныя з выданнем яго твораў. Іншая справа, калі робіцца высновы, у якіх... Разумею, кожны мае права на ўласную думку, аднак ёсць яшчэ і звычайная тактоўнасць. Няўжо пра яе можна забыць, каб падацца... арыгінальным? А, як на маю думку, так атрымалася ў артыкуле С. Кавалёва "Чалавек з мядзведжым тварам, альбо Усенародныя пошукі крыжа Еўфрасінні Полацкай": "Можа, я дарэмна чакаю пра Івана Гаўрылавіча раман? Можа, нехта напіша п'есу? Раман мне ўяўляецца пад назвай "Чалавек, які смяецца". Як у Віктора Гюго. А п'еса — "Чалавек з мядзвежжым тварам". Як у самога Івана Чыгрынава".

Вось і заўважыў, вось і пахваліў! Хоць, калі разважыць, дык у такім параўнанні нічога дзіўнага і нечаканага. Гледзячы, на каго гэта разлічана. Калі на людзей, якія паважалі (і паважаюць) І. Чыгрынава, люблілі (і любяць) яго кнігі, дык рэакцыя можа быць толькі адмоўнай. Калі ж на тых, хто і пры жыцці кпіў з яго, дык лепш і не прыдумаеш.

Але "чыгрынаўскія" матэрыялы не зацямняюць у нумары і іншых публікацый. Як ніколі багатая рубрыка "Маю твор..." (вершы Ліліі Мялешкі, Міколы Мішчанчука, Але-

В. Яраца апошніх гадоў тэма нацыянальнага Адраджэння. Раскрыта зноў-такі па-мастацку адметна. У паэта не знойдзеш пустых заклікаў і крыклівых дэкларацый. Яго творы не для высокіх трыбун. Абудзіць нацыянальную свядомасць людзей паэт спрабуе, спалучаючы лірычную пачуццёвасць з публіцыстычнай устрывожанасцю, што нагадвае стыль, манеру пісьма П. Панчанкі:

***А сягоння ні казкі,***
***ні песні з палёў,***
***дзе калісь немаўлят спавівалі.***
***І дыханнем — гаркотней***
***сівых палыноў —***
***адгукаюцца прадзеды-далі.***

Дакараючы няўдзячнага сучасніка ў бяспамяцтве, В. Ярац звяртаецца да вобразаў — духоўных апосталаў нацыі — Купалы, Мележа, Стральцова:

***Калі б з магіл змаглі прыйсці ў дзень гэты***
***Купала й Колас, Мележ, Танк, Стральцоў,***
***ці зразумелі б свет, народ, апеты***
***ў радках, дзе свеціць светлыні любоў?***

Сапраўды, немагчыма зразумець да канца сённяшні свет — у супярэчнасцях, процілегласцях, алагічнасці. Свет, у якім “усё бліжэй імкнемся стаць да Бога. Ад бліжняга — усё далей, далей”. Адсюль і сум паэта:

***А ля хат рабінавы агонь***
***ці развее сум, што сэрца коле?***

Тым не менш, В. Ярац па натуры чалавек аптымістычны. Аднак гэта не той ружовы аптымізм, на які хварэюць многія паэты. Парадаксальна, але аптымізм гэтага аўтара ў пэўнай ступені песімістычны. Гэта відаць з наступных радкоў, да якіх, пэўна, можа далучыцца кожны:

***Жывеш — нібы ідзеш па бітым шкле,***
***і ўсё ж спрабуеш неяк усміхацца***
***той зорцы, што здалёк свой позірк шле,***
***святлу крыніц, духмянасці акацый.***

Можна толькі захапляцца прагай жыцця паэта, нескаронага штодзённай мітуснёй, сваркамі і звадкамі. Але лепш за яго самога, відаць, не скажаш:

***Жыві, званец,***
***лугоў квяцістых кветка —***
***зямны, немітуслівы неспакой.***
***Трывож мой слых, настроены на будні,***
***дзе студняю — крыніца для касца,***
***і ў дзень апошні, што завецца “судны”,***
***шапні здалёк:***
***— Няма жыццю канца...***

**Наталля ГАРУНОВА**

*г. Гомель*

ся Макрацова, Ірыны Шаўляковай). Раман Ю. Станкевіча “Любіць ноч — права пацукоў” — дынамічны, вострасюжэтны, у якім паўстае тая праўда пра наша сённяшняе грамадства, якую некаторыя называюць звычайным “ачарненнем”, але ад якой нікуды не дзенешся. І гаварыць яе, выказваць так адкрыта, бескампрамісна і на глыбокім псіхалагічным узроўні, як гэта робіць Ю. Станкевіч, значыць — дапамагаць маральнаму ачышчэнню грамадства, а яшчэ, што не менш важна, здзяйсняць тым самым актыўны грамадзянскі ўчынак.

Няшмат светлых таноў і ў падборцы Алеся Каско “Чорны човен”. Ды з вершаў таксама паўстае гэтая ж самая праўда жыцця — праз успрыманне лірычнага героя, які, асэнсоўваючы пройдзены шлях, знаходзіць для сябе мала ўсцешнага:

***Не пражыў,***
***а сляпую павіннасць адбыў.***
***Што ў маленстве — забыў,***
***і пракляў — што ў юнацтве,***
***І бадзягам не стаў,***
***і радзіму згубіў,***
***і сустрэўся з жанчынаю,***
***каб развітацца.***

***Да распяцця ад стода***
***ішоў, не дайшоў,***
***пераблытаў прадвесне***
***з бязлістым зазім’ем.***
***Вецер, дождж за сцяной,***
***веры грош за душой,***
***а Бязмежжа***
***і гэта бязбожна адыме.***

***А яно***
***халадней і мярцвей за зіму***
***ў зрэнкі зіркне...***
***Тады — о надзея-наіўнасць! —***
***раб у стыгме,***
***спасцігну, нашто і чаму***
***я павінен жыццё***
***быў прыняць за павіннасць.***

З замежнікаў “Крыніца” прадстаўляе эсэіста, публіцыста, філосафа і гісторыка філасофіі Лешака Калакоўскага і сусветна вядомага Жорж Амаду.

**Антось НІЧЫПАРУК**

ВІНШУЕМ!

# Па якіх дарогах ходзіць шчасце

## Алесю САВІЦКАМУ — 75



Над Дзвінасой лёгкімі белымі камлачынкамі ўніз, па цячэнні, да сутокаў з хуткаплыннай Віліяй, сплываў ранішні туман. Танклявыя промні яшчэ скупаватага майскага сонца ледзь пазалацілі вяршаліны стромкіх сасонак. І тады над люстранай роўняддзю вады пачуўся плёскат важкай рыбіны і пераможны голас:

— Ёсць!

Мы з Тарасам Хадкевічам порстка рушылі да берага і ўбачылі на мурагу вялізнага язя. Міжволі зірнуў на героя ўдалага палявання: вочы — быццам сінеча гэтага чыстага ранішняга неба. А ў голасе — невыказная радасць. Так радавацца мог толькі чалавек, які перапоўнены дабрынёй. Чалавек, які дбае не пра сябе — пра іншых.

Гэта быў Алесь Савіцкі. Мой зямляк-палачанін, даўні друг і дарадца.

Крыху пазней, калі мы абкідалі вудамі ўсе затокі і да моста, па якім доўжыцца Даўгінаўскі тракт, і за мостам, Алесь сказаў:

— Ведаеш, мы тут з Тарасам вырашылі аддаць рыбіну табе... Каб жонка і ў наступны раз на рыбалку з намі адпусціла...

Удзячна зірнуў на Алеся — прыгожы, стройны, усмешлівы. І міжволі прыгадалася...

Вялізны светлы цэх быў перапоўнены гулам станкоў. Імклівымі, бясконцымі раўчукамі струменілася белая з блакітнаватым адлівам шклотканіна. Зрэдку яна пабліскавала, нібы луска на дзвінскіх хвалях.

Камсамольскі сакратар завода Віктар Барзоў нахіліўся да памочніка майстра Фёдара Баканава:

— Справы як, стары?

— Як у рамане, — усміхнуўся той.

— Прачытаў, значыць...

— З вечара як засеў, ды так і не змог адарвацца. Не часта так пра нас пішуць...

Гэты дыялог хлопцаў з Полацкага завода шкловалакна прыйшоў на памяць, калі я перачытваў раман А. Савіцкага “Жанчына”. Менавіта яго мелі на ўвазе сябры — стваральнікі цуда-тканіны, якая не гарыць, не тоне і не рвецца. Кніжку перадавалі з рук у рукі ў рабочых інтэрнатах, праводзілі па ёй шматлікія чытацкія канферэнцыі літаральна ў кожным цэху, кожнай змене. Яна “прыжылася” ў рабочых сэрцах.

Пісьменнік дасканала, да драбніц вывучыў жыццё самага шматлікага працоўнага калектыву роднага горада, амаль з дакументальнай дакладнасцю намаляваў вобразы галоўных персанажаў. Натуральна, гэта не былі копіі тых людзей, з якімі ён сустракаўся на вытворчасці, у сем’ях, у інтэрнатах. Але, як казалі і кажуць рабочыя прадпрыемства, празаік вывеў “нашынскіх людзей”.

У сярэдзіне 70-х мне выпала пісаць на аснове гэтага твора радыёп’есу “Мая радня”. Галоўную ролю ў тым спектаклі выдатна выканала народная артыстка рэспублікі Марыя Захарэвіч. Ён быў вельмі прыязна сустрэты слухачамі. А на традыцыйным фестывалі радыёп’ес “Стужка дружбы” рэспублік Прыбалтыкі і Беларусі прынёс аўтару радыёверсіі званне лаўрэата гэтага прэстыжнага міжрэспубліканскага конкурсу. Я ганаруся гэтай узнагародай, але лічу, што напалову, калі не больш, яна належыць А. Савіцкаму.

Стварэнню рамана “Жанчына” папярэднічаў доўгі і нялёгкі шлях да пісьменніцкага майстэрства. Першыя літаратурныя спробы А. Савіцкага з’явіліся яшчэ тады, калі ён, былы партызан, змяніў штык на пяро і пасля вайны прыйшоў працаваць у рэдакцыю полацкай абласной газеты. Хаця, калі гаварыць больш дакладна, першыя літаратурныя творы былі напісаны менавіта ў партызанскіх буданах і прэм’еры іх адбываліся на старонках рукапіснага друку народных мсціўцаў.

А потым вучоба ў Літаратурным інстытуце імя Максіма Горкага ў Маскве, аспірантура ў тым жа інстытуце.

Алесю Савіцкаму пашчасціла багата і плённа паездзіць па вялізнай краіне, імя якой Савецкі Саюз. З будаўнічай пляцоўкі Брацкай ГЭС пісьменнік прывёз свой першы буйны твор — сур’ёзную і цікавую аповесць “Кедры глядзяць на мора”.

А неўзабаве чытачы сустрэліся з героямі новай аповесці А. Савіцкага “Пасля паводкі”, у якой раскрыта тэма аднаўлення роднага горада, тэма вельмі блізкая і дарагая аўтару.

Літаральна з першых публікацый пісьменнік зарэкамендаваў сябе ўдумлівым і цікавым апавядальнікам. Лепшыя творы малога жанру склалі цэласны зборнік “Белы гарлачык”.

Глыбокім даследчыкам чалавечай псіхалогіі праявіў сябе Алесь Савіцкі ў рамане “Палын — зелле горкае”.

Аналізуючы яго творы, міжволі прыходзіш да вываду, што адметнай рысай яго герояў з’яўляецца імкненне да маральнай чысціні, да сумленнасці, да сапраўднага шчасця. Яны не шукаюць дарог прамых і лёгкіх. Яны ўпэўнена крочаць наперад праз цяжкасці, праз выпрабаванні. “Шчасце толькі па такіх дарогах і ходзіць. На роўнай дарозе яго не спаткаеш!..” — гаворыць шафёр Іван Стаеў з аповесці “Кедры глядзяць на мора” галоўнаму герою Пятру Кавалю, які адразу зразумеў глыбокі сэнс гэтых слоў. Пісьменнік праводзіць нас тымі няроўнымі дарогамі, якімі ішоў Каваль, яскрава і праўдзіва паказвае людзей, з якімі сустракаецца герой.

А праз пэўны час на кніжных паліцах паяўляецца новая аповесць А. Савіцкага “Самы высокі паверх”. Гэты твор, прысвечаны нашай моладзі, паказвае складаны чалавечы лёс, цяжкія пошукі свайго шляху. Характары герояў раскрываюцца пісьменнікам ва ўсёй шматграннасці, і мы міжволі схіляемся на бок справядлівасці, з агідай глядзім на чалавека, які імкнецца “цёпленька ўладкавацца”.

Разважанні галоўнага героя зразумелыя нам і блізкія. Нельга не паверыць яму, што “калі ты быў шчыры і мужны ў дробязі сёння — заўтра ты будзеш шчырым і мужным у вялікім. Сёння ты не збаяўся, смела выступіў супраць няпраўды і бруду, сказаў смела тое, што думаў, і мужна бараніў свае думкі — заўтра за гэта удвая больш будзеш паважаць сябе і ўтрая больш будуць паважаць цябе людзі. Сёння ты дапамог сябру ці зусім незнаёмаму чалавеку — заўтра адчуеш, што гатовы на высокі і мужны подзвіг. Сёння ты скінуў з дарогі камень, што замінаў людзям ісці, заўтра табе захочацца будаваць новую трасу”.

Такі аптымістычны фінал кнігі, якая разам з іншымі творамі пісьменніка пра моладзь была адзначана прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі. Прачытаеш ці перачытаеш гэтую кнігу і ўпэўнішся: мае рацыю Алесь Савіцкі, калі сцвярджае, што “жыццё кожнага чалавека, як будаўніцтва новага дома; які збудуеш, такі ён і будзе”.

Своеасаблівым гімнам стваральнай працы савецкіх людзей з’явілася дакументальная аповесць А. Савіцкага “След пракладае першы”, прысвечаная слаўнаму прадстаўніку Яго Вялікасці рабочага класа, Герою Сацыялістычнай Працы, тагачаснаму дэпутату Вярхоўнага Савета рэспублікі Дзмітрыю Іванавічу Барашкіну. У перакладзе на рускую мову кніга ўбачыла свет пад назвай “Зверяю жыццё па часе”. На Усесаюзным конкурсе на лепшы літаратурны твор пра рабочы клас яна была адзначана заслужанай прэміяй.

Неўзабаве прыхільнікі шчодрага таленту пісьменніка пазнаёміліся з новай аповесцю А. Савіцкага “І нічога ўзамен”. Упершыню твор быў змешчаны на старонках часопіса “Маладосць”. І гэта невыпадкова — ён прысвечаны праблемам узаемаадносін моладзі, апавядае пра станаўленне характару нашых сучаснікаў, пра шматколернасць навакольнага жыцця.

Своеасаблівым і значным укладам у адлюстраванне тэмы барацьбы нашага народа з гітлераўскім фашызмам з’явіліся раманы А. Савіцкага “Верай і праўдай”, “Зямля не раскажа”, “Літасці не чакай”, “Памерці заўсёды паспееш”, у аснову якіх пакладзены аўтабіяграфічны матэрыял.

Можа, не ўсе чытачы ведаюць, што ў далёкім сорак другім будучы пісьменнік быў падрыўніком у партызанскай брыгадзе на Полаччыне, а два апошнія гады вайны — на фронце. Вызваляў Літву, Польшчу, прымаў удзел у штурме Берліна, пакінуў свой аўтограф на рэйхстагу.

Да гэтых твораў ушчыльную падступае і аповесць “Обаль”, адрасаваная юнаму чытачу. У ёй глыбока і дакументальна выверана апавядаецца пра герояў маладзёжнага падполля, якое дзейнічала на невялічкай станцыі Обаль, што на Полаччыне, у гады Вялікай Айчыннай вайны. Як не імкнуцца сённяшнія дэмакраты (як правіла, учарашнія партакраты) выкрасліць са свядомасці падрастаючага пакалення веліч ратнага подзвігу, ім гэта не ўдаецца, пакуль жывуць тыя, хто прынёс да нас Перамогу, пакуль жыве сам народ.

Гэта ён, А. Савіцкі, пісьменнік-воін, пісьменнік-барацьбіт з чыстым сэрцам можа сёння сказаць:

***Злавесны час бяды,***
***Людскога гора***
***І сёння бачу —***
***Перажыў не ў сне,***
***І памяць штохвілінна мне гаворыць,***
***Што прамаўчаць —***
***Злачынства для мяне.***

***Я зноў і зноў вайну перажываю.***
***Ля сэрца зноў —***
***Халодныя штыкі...***

***Старонкі горкай памяці гартаю,***
***Бягуць на аркуш горкія радкі...***

Апошнім часам пісьменнік усё часцей звяртаецца да дзіцячай аўдыторыі. Менавіта назіранні за ўласнымі дзецьмі і ўнукамі, якіх бацька і дзядуля Алесь любіць бязмежна, падштурхнулі яго напісаць аповесць-казку “Радасці і нягоды залацістага карасіка Бубліка”. Працягам гэтага пошуку з’явілася новая аповесць-казка “Прыгоды Муркі”.

Неяк на самым пачатку мінулай вясны, сустрэўшыся з Алесем Ануфрыевічам у Доме кнігі, разгаварыліся пра творчыя справы і планы. Разважаючы пра сённяшнюю дзіцячую літаратуру, я, між іншым, сказаў:

— А чаму б не напісаць працяг аповесцей-казак пра карасіка Бубліка, пра цудоўную Мурку?..

І тады вочы А. Савіцкага пырснулі сінечай, у іх заскакалі чарцяняты, і ў той момант ён нагадаў мне таго шчаслівага рыбака на беразе Дзвінасы.

— А што, — адказаў ён. — Трэба падумаць...

Ішлі тыдні, месяцы. І вось на выдавецкі стол пакладзена новая аповесць-казка. Незвычайныя дзівосы адбываюцца з героямі на Лысай гары і вакол яе. Твор “Яўгенка, Лінда і Рык” тэматычна звязаны з папярэднімі і захапляюча апавядае пра дружбу хлопчыка з сабакам Ліндай і шчанюком Рыкам. Цяпер справа за тым, каб казачная трылогія хутчэй прыйшла да юнага чытача.

Мне выпадала бываць на прэм’ерах кніг А. Савіцкага ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы сталіцы, дзя я лішні раз пераканаўся, як любяць школьнікі яго герояў.

Нядаўна прыхільнікі таленту А. Савіцкага пачулі па Беларускім радыё раздзелы з яго новага рамана “Не ўсё прадаецца”. Позіркам удумлівага, аснежанага гадамі чалавека асэнсоўвае ён лёс і гісторыю сваёй Радзімы, за якую ахвяраваў жыццём, дзяліў і дзеліць з ёй радасці і нягоды і сумленна ўглядаецца ў яе блакітныя вочы сваімі такімі ж блакітнымі вачыма.

Менавіта гэтая вернасць роднай Бацькаўшчыне і дапамагла яму аддаць увесь запал душы страснага публіцыста апісанню галоўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь і прыняць як аднаму з пераможцаў конкурсу заслужаную ўзнагароду з рук Прэзідэнта краіны Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі.

Калегі па пяры не дадуць мне зманіць, што імя А. Савіцкага заўсёды атаясамляецца з жывой усмешкай, светлым гумарам, даверлівым аптымізмам. Ці гэта бескампраміснае выступленне на секцыі літаратуры ў падкамітэце па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь, членам якога ён з’яўляецца, ці гэта слова на радзе Саюза пісьменнікаў, ці прагулка па-над Свіслаччу ў парку імя Горкага, турботы пра сяброў-суседзяў на лецішчы літаратараў на Лысай гары, ці захапляючая рыбалка, ці паездка з майстрамі слова ў родны Полацк, ганаровым жыхаром якога ён з’яўляецца, ці проста сяброўская бяседа за добрай чаркай і сонечнай скваркай.

З пошукам, з неспакоем заручаны пісьменнік-барацьбіт, пісьменнік-грамадзянін, пісьменнік-жыццялюб.

І няхай яны не пакідаюць яго.

**Валянцін ЛУКША,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь**

 ЧАСАПІС

## Дарунак землякоў

Нядаўна я наведаў сваіх землякоў у Чэхіі — сям'ю палескага майстра Уладзіміра Малашчанкі і паэтэсы, мастачкі Ніны Аксёнчык, якія ў пачатку 1998 г. атрымалі тут палітычны прытулак, і быў прыемна ўражаны іх шырокай гасціннасцю. Мяне да слёз узрушыла тое, як іх сямігадовая дачка Рагнеда шчабеча на чысцюткай беларускай мове без аніводнага русізму. Гэта трэба ехаць у Чэхію, каб пачуць з вуснаў дзіцяці родную мову! А Рагнеда ж вучыць цяпер і чэшскую, і англійскую мовы...

Але асабліва мяне ўразіла тое, што прачытаў у новым нумары канадскага часопіса "Прамень", які выдае згуртаванне беларусаў у Квэбеку. Дзве першыя старонкі часопіса прысвечаны падарунку нашых землякоў вядомаму ў свеце каталіцкаму сабору Сант-Жазэф



Араторыя. Арыгінальны падарунак — гэта сцэна нараджэння Хрыста, зробленая з саломы Уладзімірам Малашчанкам і Нінаю Аксёнчык. Мне расказалі, як цэлае лета 1998 года яны стваралі сваю непаўторную працу па просьбе Згуртавання беларусаў у Квэбеку і як хваляваліся, каб іх падарунак касцёлу дайшоў да Канады.

І вось 28 ліпеня 1998 года беларуская дыяспара ў Квэбеку на чале з А. Хралоўскім урачыста ўручыла дар Беларусі каталіцкаму касцёлу. Рэдакцыя часопіса "Прамень" паведамляе, што Сант-Жазэф Араторыя вядомы тым, што там знаходзіцца найбагацейшая ў свеце калекцыя і музей сцэн нараджэння Хрыста. Там прадстаўлены 96 краін свету, а зроблены персанажы з рознага матэрыялу і маюць розны памер і колер. Вельмі цікава бачыць, як уяўляюць сабе нараджэнне Хрыста людзі з Германіі і Тайланда, Арменіі і Гаіці, Кубы і Кітая... Кожную восень з 17 лістапада да канца лютага ў касцёле працуе выстава гэтай вялікай падзеі хрысціянства. У калекцыі знаходзіцца каля 350-ці экспанатаў, а з гэтага года — і беларускі. Праз гэтую прыгожую працу, піша рэдакцыя часопіса, людзі розных нацыянальнасцей зараз будуць больш ведаць нашу народную творчасць ды і саму Беларусь як незалежную таленавітую краіну.

**Мікола ВАСІЛЬЧАНКА**

*г. Мінск*

*На здымку: Уладзімір Малашчанка і Ніна Аксёнчык з дачкой Рагнедай. Перад імі на стале — іх саламянае тварэнне.*

## Кастрычнікам-лістападам пазначаны

Чарговы нумар бюлетэня "Кантакты і дыялогі" — здвоены. Ёсць магчымасць пазнаёміцца з артыкуламі І. Лучука "Псалтыр і духоўнасць украінцаў і беларусаў", А. Вялікага і Л. Языкевіч — "Перасяленне беларускага насельніцтва з Польшчы ў БССР і з БССР у Польшчу", У. Галузы — "Беларусы Заходняй Сібіры: гісторыя і сучаснасць", Л. Мілаш — "Беларуская культура і школьніцтва на Віленшчыне: пачатак і канец стагоддзя", П. Веркройсэ — "Старонкі з гісторыі Бельгіі". М. Яцкевіч ("З жыцця віленскага беларуса") расказвае пра В. Ермалковіча. "Старонкі будучага даведніка" пад назвай "Беларускае замежжа" папоўніліся матэрыяламі "Беларускае студэнцкае зямляцтва ў Варонежы", "Беларуская абшчына "Світанак", персаналіямі А. Дзевятоўскі, В. Капцюг, П. Капчык, М. Куптэль, А. Сілівончык... Як заўсёды, багатая на фактычны матэрыял падборка "Надрукавана пра кантакты ў Беларусі і ў свеце". Ёсць рэцэнзіі на новыя кнігі, прысутнічае аператыўная інфармацыя.

ПАЭЗІЯ

## Святлана КАРОБКІНА



•

*У келіх падаюць сняжынкі,*
*Такая чыстая Зіма...*
*Вось дакрануся да дзяўчынкі, —*
*Зраблюся гэткаю ж сама...*
*І паплыву, нібы сняжынка,*
*У нечы келіх залаты,*
*Але, спытаецца сцяжынка, —*
*Ты хочаш кропляй стаць вады?*
*Нічога ёй не адказаўшы,*
*Заплюшчу вочы: жыць —*
*не жыць?..*
*Сто аксіёмаў разгадаўшы,*
*Адчую, — вадаспад ляціць,*
*Шкляны ён разбівае келіх,*
*Ўзнімае ветразя крыло,*
*Мяне выносіць на той бераг,*
*Дзе сонца ружаю ўзышло...*

•

*Зіма схавае жалуды*
*І сцежкі вепруковы,*
*Ласіхі цяжкія сляды,*
*Іскрынак крышталёвых*
*Гурбой накідае да ног, —*
*Глядзі, дзівіся...*
*І між дарог, і між трывог —*
*Не заблудзіся...*

•

*Чорныя постаці дрэў,*
*Здані Друідаў між імі,*
*Плач аб пайшоўшых і*
*спеў*
*Мне невядомай багіні...*
*Што гэта, — дзе я цяпер?*
*Сэрцу зрадніць немагчыма*
*Мора счарнелых папер*
*З белымі чайкамі Крыма.*
*Мне, як Ампелу, далі*
*Гронку занадта цяжкую.*
*Разбітая, зноў на зямлі,*
*Лазой Дыяніса танцую...*
*Аб вінаградзе не плач,*
*Душа адзінокай жанчыны, —*
*Белы Друідаў плашч,*
*Як ветразь, цалуе*
*ажыны...*

•

*Без гнязда, без прытулку —*
*Не ведаю, што рабіць.*
*А жыццё, як дзіця качулку,*
*Прадаўжае каціць...*

•

*Прачынайся душа,*
*скінь з сябе летаргію,*
*Прачынайся, бо час твой*
*шчаслівы прыйшоў.*
*Не магла ты прапасці,*
*не зможаш загінуць —*
*Не ўсю яшчэ высмактаў час*
*з цябе кроў...*

*Хоць звініць у вушу,*
*хоць нядобра бывае,*
*Але ты не скарайся*
*і сон адгані...*
*Ну няхай паміж грэшнымі,*
*ты не святая,*
*Але крылы твае —*
*у сапраўдным агні.*

•

*Адыдзе ноч, і белая Зіма,*
*Як сонечную кветку,*
*мяне возьме*
*І панясе туды, дзе я сама,*
*Шчэ не зраклася павукоў*
*ды кросен...*
*Дзе буду я, як нітачка быцця, —*
*Кроў не застыне з сіняга марозу...*
*Наперадзе так многа адкрыцця,*
*Што часу зноў не хопіць*
*мне на прозу.*
*Не хопіць дня — перачытаць раман,*
*Што некалі не надта зразумела.*
*Адыдзе ноч, і адляціць груган,*
*І сто вякоў навокал будзе бела...*

*Вы ішлі да мяне, а мяне не было,*
*Вы не бачылі зорак,*
*што выбілі шкло.*
*Вы не згледзелі кветак,*
*што восень змяла,*
*Вы не ведалі,*
*як я тым часам жыла.*

*Я ляцела да Вас —*
*дома вас не было,*
*Нежывою слюдою адсвечвала шкло,*
*А люстэрка блішчэла, як зорка,*
*між сноў.*
*Вашы вокны былі у палоне снягоў...*

•

*Няма куды наперад,*
*Няма куды назад:*
*Перад вачыма — нерат,*
*А за плячыма — сад.*
*Дарогі перакрыты,*
*Сцяжыны зараслі.*
*Вісіць Хрыстос*
*прыбіты*
*Ад неба да зямлі...*
*Не чутна роднай мовы, —*
*О мой нямы народ!..*
*Найгоркай крыўды Словы*
*Мой вымаўляе рот:*
*Дык значыцца, знікаем*
*Бязмоўна, ў слепаце?*
*А з нас смяецца Каін*
*І па касцях ідзе.*

•

*Неба грае, неба грае,*
*Неба грае — на мароз,*
*Бы пажар хтось раздзімае,*
*Бы ідзе сюды Хрыстос.*

*Мо нясе сюды хтось ружы,*
*Каб пялёсткі сеяць скрозь,*
*Каб вярнуў у цела Душы*
*Сілаю агню Хрыстос?*

•

*Нівянік мой не вяне,*
*Не стыне сэрца кроў, —*
*Я не хачу растання*
*З радзімаю бацькоў.*
*Ды і куды мне ехаць?*
*Наперадзе — Зіма,*
*І я магу, як лебедзь,*
*Загінуць задарма...*



*Фота Васіля Майсюка*

ПРОЗА

Натапырыўшыся, як верабей, стралок Грамыка стаяў на вышцы, адвярнуўшыся ад ветру. Дробны нудны дождж церушыў усю ноч. Халодная вільгаць пранікала не толькі да скуры, але, здавалася, і да касцей. Доўгі брызентавы плашч-дажджавік засцерагаў крыху ад ветру. Але і ён быў ужо даўно мокры. Аўтамат — стары ППШ - вісеў на ўбітым у слупок цвіку. Вакол панавала цемень і цішыня. Толькі вялікі белы квадрат лагера, як аркуш паперы на чорнай школьнай дошцы, выдзяляўся ў гэтай цемры. На лагер Грамыка не глядзеў. Ды што яму было глядзець на гэты лагер? Ён даўно вывучыў гэты лагер, як вучань сваю школьную парту. Ён ведаў не толькі кожны каменьчык і кожны кусцік вакол лагера, але і ўвесь лагер, яго жалезны распарадак, лагернае начальства і нават некаторых зэкаў.

Але бачыў ён усё гэта як у нямым кіно. І гэтае кіно пракручвалася перад Грамыкам кожны дзень. Гукаў у лагеры сапраўды было надта мала. Самымі моцнымі гукамі былі ўдары ў рэйку на развод і праверку. З бліжэйшай да варот вышкі добра быў чутны скрып жалезных варотаў, якія адчыняліся чатыры разы ў суткі — падчас выводу і прыводу зэкаў на працу і з працы. Калі даводзілася стаяць на вышцы ля бура[1] — турмы ў турме, — адтуль чутны былі прыглушаныя каменнымі сценамі стогны зэкаў, якіх перавыхоўвалі наглядчыкі.

Усё іншае адбывалася ў лагеры моўчкі. Моўчкі хадзіла па зоне начальства. Моўчкі хадзілі і зэкі. Зэкі, канечне, размаўлялі паміж сабою. Але яны размаўлялі так ціха, што галасы іх да вышкі не даходзілі, і Грамыку здавалася, што ўсе ў лагеры нямыя.

Лагер размяшчаўся ля самага падножжа гары. Вяршыня гары гублялася высока ў небе і часта купалася ў хмарах, якія хадзілі тут надта нізка. Тады гара здавалася нібы зрэзанай і невысокай. Гара была такой крутой, што з яе з невялікім шумам скочваліся каменьчыкі. Хутчэй за ўсё іх зрушвалі дробныя дзікія звяркі. Зрушыўшыся, каменьчык каціўся аж да самага падножжа гары і спыняўся паблізу ад берага невялікай рэчкі, што працякала па тэрыторыі лагера ля самай яе агароджы.

Толькі раз гэтая гара моцна напалохала Грамыку. З яе вяршыні з шумам спаўзла лавіна. Яна накрыла палову барака з зэкамі. Частку іх выцягнулі жывымі, а частку адвезлі за лагер на зэкаўскія могілкі. З таго часу стралкі пабойваліся дзяжурыць на той вышцы — а раптам лавіна паляціць на вышку? Рэчка, што працякала па лагеры, была невялікай і рыбы ў ёй не было. Рыбу ў ёй час ад часу вымочвалі зэкі. Яны нанізвалі рыбу на нітку і прывязвалі нітку да кіёчку, уваткнутага ў зямлю. Рыба іншы раз зрывалася з ніткі і зносілася цячэннем. Іншы раз яе кралі і зэкі. Падкрадзецца зэк з бліжэйшага барака, ухопіць рыбіну і бягом у барак. Гаспадар прыйдзе па рыбу, а яе і след прастыў. Тут, як на ярмарцы — не зявай.

Жыхару раўнін, Грамыку заўсёды здавалася, што за гэтай гарою павінна быць раўніна. Гэтае ўражанне ішло з дзяцінства, калі ён, угледаючыся ўдаль, бачыў, як неба сыходзілася з зямлёю, і яму хацелася паглядзець, а што там, за гэтай мяжою. Хацелася заглянуць за гэтую гару і тут. Залезці б на гэтую гару і паглядзець, што там, за ёю.

Але за год службы тут зрабіць гэта Грамыку так і не ўдалося. У час вахты на гару не палезеш. А вырвацца з казармы нельга. Ды і начальства не дазваляе па адным хадзіць не толькі ў горы, але і ў пасёлак.

На захадзе даліна, у якой стаіць лагер, звужаецца і паварочвае на поўнач. Яна нібы замыкаецца такімі ж высокімі гарамі. З поўдня знаходзіцца таксама гара. Праўда, яна не такая крутая, як гэтая. На ёй размясціліся руднік і фабрыка, дзе працуюць зэкі. А на ўсходзе даліна паступова зніжаецца, расшыраецца і знікае ў блакітнай далечы. Туды вядзе дарога, якая ідзе ўздоўж гэтай рэчкі. Па гэтай дарозе прывезлі сюды і яго, і зэкаў. Толькі яго прывезлі сюды год назад, а зэкаў — няведама калі. А можа, іх і не вазілі. Можа, яны прыйшлі сюды пехатою, спачатку зрабіўшы гэтую дарогу.

Лагер абгароджаны высокім, у тры метры, шчыльным плотам. Звонку ён падобны на старажытны горад з падручніка гісторыі. Толькі там агароджа з тоўстых бярвенняў, а тут — з тонкіх, завостраных уверсе жэрдак. На гэтым, зрэшты, падабенства з горадам і канчаецца.

[1] *Бур — барак узмоцненага рэжыму.*

# АПОШНЯЕ СПАТКАННЕ

Іван ФУРСЕВІЧ



АПАВЯДАННЕ

**Іван Васільевіч ФУРСЕВІЧ нарадзіўся ў 1927 годзе ў вёсцы Галавенчыцы Стаўбцоўскага раёна. Вучыўся ў медычнай школе. Служыў у Савецкай Арміі. Закончыў медыцынскі інстытут. У 1950 годзе быў неабгрунтавана асуджаны і шэсць гадоў правёў у Калымскім спецлагеры. Рэабілітаваны Генпракуратурай Расіі ў 1993 годзе.**

**Працаваў урачом у Казахстане і на Беларусі. Цяпер — на пенсіі, жыве ў Докшыцах.**

**Друкаваўся ў раённых, абласных і рэспубліканскіх газетах. У “ЛіМе” друкуецца ўпершыню.**

Лагер умацаваны значна лепш, чым любы старажытны горад. Над агароджай узвышаюцца слупы з прыбітымі на іх рэйкамі. Па рэйках працягнуты дрот, па якім пададзены ток высокага напружання. На слупах праз кожныя дзесяць метраў гайдаюцца электрычныя лямпачкі з самаробнымі абажурамі. А з двух бакоў агароджы, на адлегласці трох метраў, стаяць яшчэ слупы з нацягнутым на іх дротам. У кожным куце лагера — вышка. На вышцы — пражэктар. Ён уключаецца падчас туману і ў святы. На кожнай вышцы — аўтаматчык. А ў святы туды зацягваецца яшчэ і кулямёт. У дадатак да ўсяго ў кожным бараку ў зоне вокны закратаваны, а дзверы пасля адбою замыкаюцца на замкі. Не закрываюцца толькі санчасць і сталовая.

Ад шырокай жалезнай брамы пасярод лагера ідзе вуліца. Паабапал яе — будынкі. Справа ля самай брамы і вахты — адзіны ў лагеры каменны будынак-турма. Злева ля вахты — домікі з кабінетамі ППЧ, начальніка рэжыму і опера. Крыху далей — сталовая, за ёю, уздоўж вуліцы — баракі. У канцы вуліцы — КВЧ, лазня і пральня. З другога боку вуліцы — санчасць, а за ёю таксама баракі. У самым канцы лагера, амаль пад вышкай — прыбіральня. Летам ад яе заўсёды ідзе смурод, і стралкі адмаўляюцца ісці на вышку капціцца ў зэкаўскіх “водарах”. А ў халодную пару “водару” таго і не чуваць.

Лагер невялікі — метраў восемдзесят у шырыню і сотні паўтары — у даўжыню. У ім знаходзіцца каля шасцісот зэкаў. Але амаль заўсёды здаецца, што лагер пусты. Толькі ў святы, калі зэкаў не выганяюць на працу і падчас паверак выводзяць на лінейку, відаць, што зэкаў тут сапраўды шмат. А ў будныя дні палова зэкаў зацемна выходзіць на працу і зацемна вяртаецца назад. А другая палова ў гэты час спіць. А ноччу лагер і зусім вымірае. Ноччу па лагеры нават наглядчыкі не ходзяць...

Да пад’ёму заставалася з гадзіну, і лагер спаў сваім мёртвым сном. Таму і не глядзеў на яго Грамыка. Зрэшты, і ў іншую пару глядзець на лагер асаблівай патрэбы не было. Хто з зэкаў палезе на такую сістэму аховы? Калі які вар’ят і ўздумае ўцякаць, то ўцячэ ён з рабочай зоны. Там уся ахова — пара радоў дроту ды вышкі на рагах зоны. А яна расцягнулася на добрага паўкіламетра. Ды і куды з гэтага лагера ўцячэш? Вакол — горы. Па іх і летам не пройдзеш. У даліне — пасты і сакрэты. А зімою выганяй зэка з лагера, дык ён не пойдзе. Да бліжэйшага пасёлка — паўсотні кіламетраў. Нават дарога па даліне, калі яе не прачысціць бульдозер або зэкі, тыднямі непраходная. І паловы не знясілены і схудалы зэк не адолее.

Але так Грамыка разважаў толькі праз год свае службы. А спачатку службу нёс вельмі старанна. І з гонарам. На першых жа палітзанятках нампаліт сказаў, што Радзіма даверыла ім, нашчадкам Дзяржынскага, самую адказную і самую ганаровую службу — ахову савецкіх людзей ад здраднікаў Радзімы, шпіёнаў і дыверсантаў, якія сядзяць у гэтым лагеры. Таму падчас канваіравання зэкаў Грамыка моцна сціскаў леваю рукою ствол аўтамата, а палец правай рукі заўсёды трымаў ля спускавога кручка. Хто іх, гэтых бандзюкоў, ведае? Што ў іх у галаве? Маўчаць, глядзяць воўкам, а можа, зараз рынуцца з калоны, самнуць канвой, захопяць зброю і кінуцца на пасёлак забіваць і рабаваць? А там жа — безабаронныя жанчыны і дзеці. Аб такіх выпадках не раз расказваў нампаліт. Ён казаў, што гэтым гадам нават месца няма на нашай свяшчэннай зямлі. А жыццё ім даравана толькі для таго, каб яны выконвалі самую шкодную і самую цяжкую працу і тым самым зберагалі жыццё і здароўе савецкіх людзей. Пад канец разводу спіна ў Грамыкі макрэла ад напружання. Але аказаным даверам Грамыка ганарыўся — не кожнаму такое давяраюць.

Ды з часам Грамыка стаў заўважаць, што старaслужачыя стралкі і начальнікі канвою, што ідуць наперадзе, паводзяць сябе зусім інакш. Яны спакойна закідваюць аўтамат на плячук і ідуць не азіраючыся. Нават аўчарка, якую заўсёды бяруць на развод, плянецца ззаду неяк вяла, не звяртаючы ўвагі на зэкаў.

А зэкі ўсе аднолькавыя — шэрыя. Шэрыя і схуднелыя, з запалымі вачамі. Шэрыя твары, шэрая вопратка, шэрыя валёнкі. Толькі квадратныя нашыўкі з нумарамі на шапках, каленях і спінах — белыя. І глядзяць зэкі неяк шэра, абыякава, як бы праз чалавека, не бачачы яго. Толькі калі ўзнікае спрэчка з канвоем, позіркі іх становяцца калючымі, гатовымі апячы. Але з канвоем зэкі спрачаюцца рэдка. У канвою аўтамат, а ў зэка — толькі спіна пад тонкім бушлатам. Ды і начальнік канвою пасля спрэчкі запіша нумар і на разводзе аддасць наглядчыку — парушаў, маўляў, парадак. А ў наглядчыкаў зімою — халодны бур, які хутка збівае ўсю хэнць, а летам — кайданкі і пад вышку на камары. Праз гадзіну морда стане, як у негра, а вочы — як у мангола.

З усяго разводу толькі адзін зэк, высокі і худы, што стаіць заўсёды ў першай пяцёрцы, глядзіць спакойна, нават неяк іранічна. Казалі, што сядзіць ён аж з трыццаць сёмага года.

І яшчэ аднаго зэка запомніў Грамыка. Гэта было ў першы месяц яго службы. Стаяў гэты зэк у сярэдзіне калоны, першым з правага боку. А Грамыка стаяў за дротам у “прылазніку”. Зэк неяк дзіўна глядзеў на Грамыку. Глядзеў неадступна. Грамыка адчуў гэты позірк. Вочы іх сустрэліся, і як электрычны ток прайшоў праз Грамыку. “Татка!” — ледзь не ўскрыкнуў ён. Але ж гэтага не магло быць. Бацька яго — малады, крыху за сорак. А гэты — стары, падобны да дзеда Антося. Але ж і дзед Антось дома — толькі-што быў ліст з дому, і Алёнка перадавала яму прывітанне ад дзеда Антося.

Думкі віхурай круціліся ў галаве ў Грамыкі. А ў зэка пацяклі слёзы. Ён нават не выціраў іх. А, можа, гэтыя слёзы былі ад ветру і Грамыку ўсё гэта проста падалося?

Хутка начальнік канвою паўтарыў завучанае “Канвой папярэджвае”, і калона рушыла.

Перад уваходам у працоўную зону гэты дзіўны зэк яшчэ некалькі разоў аглядваўся, шукаючы вачыма кагосьці, пэўна, яго, Грамыку. Зэк нават затрымаўся за варотамі, нібы кагось чакаючы. Але Грамыка быў далёка, у хвасце калоны, і зэк пайшоў з усімі ў зону. Больш гэтага зэка Грамыка не бачыў і хутка забыўся аб ім. А сёння чамусьці ён зноў успомніўся. Сёння на душы ў Грамыкі было чамусьці вельмі цяжка. Успаміналася мінулае, думкі разбягаліся.

З канваіравання Грамыку хутка знялі. Паспрыяў гэтаму зямляк — сяржант Хомчанка. Ён быў з Магілёўшчыны. Але ўсё адно — зямляк, амаль родная душа. Тут Грамыка быў адарваным лістком. Ён стараўся прыхінуцца хоць бы да каго, бо аднаму сярод гэтых чучмекаў было надта цяжка. Тут, на чужыне, кожны шукае земляка, які становіцца не толькі сябрам, але і братам. З земляком дзеліцца і гора, і радасць. У Грамыкі быў толькі адзін зямляк — сяржант Хомчанка. І ён падвёў Грамыку. Неяк пасля палітінфармацыі салдаты абмяркоўвалі расказ нампаліта аб папярэджанні ўцёкаў зэка ў лагеры-саўгасе “Эльген”, што адсюль кіламетраў за сто. Зэка застрэлілі ў працоўнай зоне на полі. Пільны стралок атрымаў узнагароду — паездку дамоў. Разважлівы масквіч Міронаў сказаў:

— Ведаем мы гэтыя ўцёкі. Улажыў зэка, які наблізіўся да стралка — вось і ўсе ўцёкі.

А ўзбек Ахмедаў цокнуў языком:

— Во пашанцавала хлопцу — дамоў паехаў.

— Як жа так можна — ні за што, ні пра што забіць чалавека, няхай і зэка? — здзівіўся Грамыка.

Ахмедаў аж падскочыў:

— Можна! Гэта ж не чалявек. Гэта — вораг, бандыт! Яго страляць нада! Страляць, як шалёная сабака. Мне б хоць раз вырвацца на канваіраванне, у лес ці на дарогу, і я б абавязкова паехаў у водпуск. Паеў бы вінаграду, дыняў, кавуноў, яблык, абняў бы свая кізімка, — летуценна прамовіў Ахмедаў.

— А я, пэўна, не змог бы стрэліць у чалавека, няхай і ў зэка, — бы разважаючы сам з сабою, сказаў Грамыка.

Праз тыдзень Грамыку знялі з канваіравання і паслалі на вышку. На вышцы служба была горшая. Канвой адвядзе зэкаў у зону і да вечара амаль вольны. Праўда, старшына заўсёды можа знайсці работу. Але яна — у цяпле. А на вышцы ўвесь час стой — то на ветры, то на дажджы, то на марозе. І не прысесці табе, не задрамаць. Прысядзеш, дык чучмек з суседняй вышкі абавязкова заложыць. І тады нарада на кухню не мінуць. Даносы тут заахвочваліся.

Калі Грамыка неяк паскардзіўся Хомчанку на свой лёс, той сказаў:

— Ты размазня, Грамыка. Хіба ж можна цябе пасылаць на канваіраванне? Пабяжыць зэк, а ты будзеш стаяць і разважаць: страляць ці не. А пасля цэлай ротай лаві гэтага зэка па ўсёй Калыме! Яго, зразумела, зловяць і пры гэтым застрэляць “пры спробе ўцячы”. Але ж колькі непрыемнасцяў будзе ўсім! Вось і стой цяпер на галубятні”.

Пасля гэтага сябраваць з Хомчанкам Грамыка не стаў. А больш сябраваць не было з кім. Украінцы трымаліся сваёй кучкай. Яны, хахлы, — хітрыя і заўсёды стараюцца выехаць на іншых. І Хомчанка, хоць і беларус, больш гарнуўся да іх. Узбекі адзін ад другога не адыходзяць. Яны і гавораць між сабою толькі на сваёй мове. Татары кучкуюцца са сваімі. Толькі адзін Міронаў ні з кім не сябраваў, але паводзіў сябе незалежна і не баяўся ні старшыны, ні нават камандзіра роты. Яму заставалася некалькі месяцаў да дэмбеля.

З часам Грамыка стаў разумець, што ўсе гутаркі нампаліта скіраваны да аднаго — не траціць пільнасці і быць бязлітасным да зэкаў. А з расказаў стралкоў, пераведзеных з іншых месц, вынікала, што начальства нават заахвочвае “ўцёкі” зэкаў, і іх “папярэджванне”. Механізм “уцёкаў” яму растлумачыў Міронаў.

— Робіцца гэта так, — казаў Міронаў. — Павядзе канвой зэкаў на якую-небудзь дзялянку ў полі ці ў лесе. Драцяной агароджы там няма. Сядуць стралкі на пні. Візуальная, умоўная, лінія ад аднаго стралка да другога — гэта і ёсць забароненая зона. Зэкі працуюць. Стралкі сядзяць і наглядаюць за імі. Забудзецца зэк і наблізіцца да гэтай “забароненай лініі”, а стралок — чаргу з аўтамата. Спачатку ў зэка, а пасля — у паветра. Гучыць каманда “Лягай!”, страляніна над галовамі зэкаў. Зэкі з перапуду падаюць, як снапы, тварам уніз. А стралок пяройдзе на метраў дзесяць унутр гэтай “зоны” і садзіцца на пянёк. Зэк, такім чынам, апыньваецца за “забароненай зонай”. Выклікаецца начальства з лагера. Прыйдзе яно, пагладзіць. Зэк, сапраўды, за “забароненай зонай”. Уцёкі! Стралок страляў два разы. Першы раз — у паветра. Зэк не спыніўся. Другі раз — у зэка. Усё правільна. Канвой паступіў правільна! — папярэдзіў уцёкі. Стралок — маладзец. Яму — узнагарода: паездка дамоў на дзесяць сутак без уліку дарогі. А зэка кінуць ля вахты на некалькі дзён. Хай глядзяць разводы — што бывае з тымі, хто спрабуе ўцякаць. Калі сярод зэкаў узнікае шум, стралка пераводзяць у іншае месца. Там ён у героях ходзіць — і “ўцёкі” папярэдзіў, і дамоў з’ездзіў. Яму, як нашаму Мурзатаеву, нават зайздросяць такія, як Ахмадаў. А што зэка забіў, дык гэта ж — “вораг народа”.

Стоячы на вышцы, Грамыка часта пракручваў у галаве гэтыя размовы. З часам у яго падсвядома сталі ўзнікаць думкі: а што калі не забіваць, а толькі параніць, стрэліўшы ў ногі? Зэк жа не ўцячэ. А “ўцёкі” — папярэджаны. Гэтыя думкі кідалі Грамыку ў холад. Але яны настойліва лезлі ў галаву. Ён адганяў іх, як надакучлівых камароў. А яны лезлі і лезлі. Вось і сёння, калі яму было так цяжка на душы і вельмі хацелася дамоў, прыбеглі гэтыя страшныя думкі. І, адагнаўшы іх, Грамыка “паляцеў” дамоў. Ён бачыў матку, гутарыў з Алёнкай, спаткаўся з дзедам Антосем.

Цяжка ім без мужчынскай рукі. І сена няма каму накасіць, і дроў прывезці. А галоўнае — няма каму ездзіць у Мінск па хлеб. Гэта — самае цяжкае. Уставаць трэба ў тры гадзіны. Топаць упоцемку сем кіламетраў да станцыі. Там сесці ў першы, пяцігадзінны цягнік і, прыхіліўшыся да вакна, у дрымоце ехаць да Мінска. У Мінску бегчы да крамы, заняць чаргу і чакаць прывозу хлеба. А чарга вялікая — такіх, як ён, паўвобласці збіраецца ля крамаў кожны дзень. У вёсках хлеба не прадаюць. Сяляне толькі аруць і сеюць, жнуць ды малоцяць, а хлеба не маюць. У райцэнтры даюць толькі рабочым. А калгаснікі па хлеб ездзяць у Мінск. Там яго прадаюць усім. Праўда толькі па дзве буханкі ў рукі. Таму трэба крутануцца ў чарзе некалькі разоў, каб узяць хоць бы буханак дзесяць.

Спачатку ён ездзіў па хлеб з маткаю і цёткаю Маняю і яе сынам Жэнікам. Дарослыя стаяць у чарзе, а мальцы — за крамай з мяхамі. Ухапіў дзве буханкі — і за вугал. А пасля — яшчэ раз у чаргу. І так — разоў пяць, калі хопіць хлеба. З мяшкамі трэба спяшацца да цягніка. А там жа такіх, як яны — палова. А цягнік падаюць на пасадку ўжо напалову запоўненым — рабочыя, якія працуюць на чыгунцы, займаюць месцы ў цягніку яшчэ ў адстойніку. У іх - свае ключы ад вагонаў. А “мяшэчнікам” трэба спачатку прарвацца ў вагон без мяшкоў, а пасля ўцягнуць мяшкі праз вакно. У вагоне паўдарогі трэба стаяць. Толькі пасля Койданава становіцца вальней. А потым трэба ж сем кіламетраў перці гэтыя мяшкі на спіне. Дома хлеб, хоць і памяты, складаецца ў скрыню — там ён лепш захоўваецца.

А цяпер па хлеб трэба ездзіць матцы з Алёнкаю. А у іх — жа не тая сіла, што ў яго. Ды і двор трэба пакідаць на цэлы дзень. А там жа — і карова, і свінні.

Алёшка Грамыка лічыў, што яму ў жыцці не пашанцавала. Пэўна, гэта ад яго няўдалага прозвішча. Грамыка — гарамыка, як растлумачыў калісьці настаўнік. Не пашанцавала яму і з бацькамі. Дакладней, не пашанцавала яго бацькам, а з імі — і дзецям. Вінаватай ва ўсім ён лічыў маці. Хаця аб гэтым ёй ні разу не сказаў — яна і так была нешчаслівай. Пажаніліся яны з бацькам пасля сканчэння вучобы: бацька - педтэхнікума, маці — бібліятэчнага. Хутка з’явіўся на свет і Алёшка. А калі праз тры гады бацька паехаў на курсы, у вёску вярнуўся са службы ў арміі прыгожы хлопец Мікола Грамыка. Маці чамусьці злюбілася з Міколам, і калі бацька вярнуўся з курсаў, яна сказала, што пакахала Міколу і ў іх будзе дзіця. Бацька забраў свае кніжкі і пераехаў у суседнюю вобласць. Ён акуратна прысылаў грошы — аліменты. А раз у год, на дзень нараджэння Алёшкі, прыязджаў да іх. Ён браў Алёшку і яны ішлі ў сад. Маці спатканням Алёшкі з бацькам не пярэчыла. На той час яна сыходзіла з дому да сваёй маткі — бабы Зіны. Бацька прывозіў Алёшку новы касцюмчык, цацкі і цукеркі. Спачатку ён

*(Працяг на стар. 12)*

## У Маладзечне — святкуюць

**Апошнія месяцы 1998 года — святочныя, хаця і вельмі адказныя для Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М.К.Агінскага. Менавіта ў лістападзе—снежні гэтая навучальная ўстанова спраўляе 40-годдзе. Узрост сталасці, час падвядзення вынікаў, вызначэння планаў будучай дзейнасці... Усё гэта, як мае быць, і рабілася ў вучылішчы "на розных узроўнях": ад адміністрацыі з дырэктарам Р.Сарокам (які ўжо 18 гадоў узначальвае ўстанову), загадчыкаў аддзяленняў да выкладчыкаў і навучэнцаў.**

**Кожнае аддзяленне (фартэпіяннае, тэарэтычнае, струннае, духавое, народнае, вакальна-харавое) на працягу тыдня ладзіла мерапрыемствы ў гонар юбілею. Прайшлі вялікія канцэрты сімфанічнага аркестра (мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Рыгор Сарока, дырыжор Тамара Дубіна), духавога аркестра (дырыжор Марцэлін Дабравольскі), аркестра рускіх народных інструментаў (дырыжор Тамара Бялькова), цымбальнага аркестра (дырыжор Аляксандр Кавалёў), выступленні піяністаў і вакалістаў. Значнай падзеяй сталася і вечарына памяці цудоўных выкладчыкаў харавога аддзялення Эдуарда Ледаховіча ды Мікалая Елісеенкава, з удзелам вядомага ў Беларусі кампазітара Алега Елісеенкава.**

**Безумоўна, на абышлося без сустрэч выпускнікоў, кожная з якіх выпраменьвала шчырасць і цеплыню і ўспрымалася не менш важнай падзеяй, чым усе справаздачы пра дасягненні выкладчыцкага калектыву вучылішча на ніве музычнага мастацтва і асветніцтва.**

**У год, адметны для Маладзечанскага музычнага вучылішча, свой юбілей адзначае і адзін з яго калектываў — студэнцкі хор тэарэтычнага аддзялення, які вось ужо 10 гадоў кіруе сталы выкладчык і дырыжор Людміла Камінская. Менавіта дзякуючы яе энтузіязму, актыўнасці і настойлівасці нарадзіўся гэты калектыў — як база для навучэнцаў-харавікоў, каб яны на практыцы спасцігалі тонкасці дырыжорскага мастацтва. Адначасова навучэнцы-тэарэтыкі атрымалі добрую магчымасць больш пільна заняцца спевамі і дырыжыраваннем.**

**Аднак з цягам часу вучэбныя мэты пачалі адыходзіць на другі план, хор асвойваў даволі складаны рэпертуар (жаночыя хоры С.Рахманінава, П.Часнакова, В.Торліса, В.Кузняцова, п'есы з "Полацкага сшытка" ды інш.), выступаў у самых розных канцэртах. Да таго ж, Л.Камінская была ініцыятарам выканання адметных харавых твораў кампазітара Алены Атрашкевіч (якая таксама выкладае ў вучылішчы). Гэтае супрацоўніцтва зрабілася сталым, калектыў набывае досвед выканання яшчэ нікому не вядомых твораў. Ён паступова ператвараецца ў своеасаблівую музычную лабараторыю, дзе вывучаюцца і выконваюцца таксама і творы кампазітараў-пачаткоўцаў Вольгі Казелькі, Алены Ярашэвіч, Настассі Барбарчук. З імі, дарэчы, хор удзельнічаў у міжнародным фестывалі-конкурсе юных кампазітараў "Надзея" (які штогод праводзіцца ў Гродне), дзе атрымаў ганаровы дыплом Міністэрства культуры Беларусі як лепшы ілюстратар музыкі. Можна спадзявацца, што калектыў будзе ўдасканальваць сваё майстэрства і дададзь да сваёй творчай біяграфіі і да гісторыі Маладзечанскага музычнага вучылішча новыя цікавыя старонкі.**

**Яўгенія МАЦКЕВІЧ**

## Маладосць і тэатр

**Учора я ўвесь вечар напявала сама сабе тую мелодыю, а вось сёння не магу яе ўспомніць. Круцяцца ў галаве толькі два словы: "Mon amour, mon amour"... Два словы французскай песні, якая прайшла, як кажуць, "чырвонай ніткай" праз увесь спектакль, сыграны студэнтамі Акадэміі мастацтваў. Гэта камічны спектакль у жанры комікса з назвай "Туці-фруці". Работа будучых (ды што будучых, ужо цяперашніх!) акцёраў, навучэнцаў чацвёртага курса, якая была зроблена пад кіраўніцтвам Л. Манакавай.**

**Гісторыя заўсёднага пошуку кахання, прыгажосці, свайго лёсу, увасобленая ў пластыцы, танцы. Пошуку сярод калейдаскопа чалавечых тыпаў — гратэскных, а таму камічных (хаця, уласна кажучы, гратэскных, калі можна проста — завострана вясёлых). Плюс рок-н-рол, блюз, французская лірыка, што так моцна ўздзейнічалі на глядацкую падсвядомасць, абуджалі схаваную энергію...**

**Прафесіяналы, відаць, параілі б дзе-нідзе дапрацаваць ды памятаць, што выкладацца трэба да канца і заўсёды. А поўная зала (многія прыйшлі не ў першы раз, бо чуліся знаўцамі яшчэ на пачатку спектакля) падбадзёрвала маладых акцёраў, глядзела весела і даравала ім, калі што было не зусім прафесійна. Галоўнае, каб у іх гарэла (а яно гарэла) жыццё знутры. Яно падшліфуе тэхніку і выправіць памылкі.**

**Вольга ЛАШКЕВІЧ**

МУЗЫКА

***Я і праўда наважылася пагуляць у метафары. Без жартаў. Так, як гэта робяць і паэты, і крытыкі, і рэпарцёры, і аматары эпісталярнага жанру ў хвіліны асаблівага натхнення. Маё натхненне і сапраўды было асаблівае, выклікане пакуль яшчэ на самой падзеяй, а толькі прадчуваннем. Прадчуваннем падзеі, якая застанецца ў памяці казачнаю сваёй светланоснасцю. Я ўяўляла сабе мудрагеліста-прыгожыя фразы, праз якія выкажу не толькі сваё захапленне героем той святочнай падзеі — аркестрам, якому толькі (ці ўжо?) дзесяць гадоў. І які заўсёды будзе маладым і новым, таму што граюць тут музыкі, якім ад 13 да 18. Таму што вечная маладосць і абнаўленне наканаваны ягонаму Маэстра. Таму што ў гэтым непадуладным часу трыванні-абнаўленні асноў мастацтва і хаваецца сакрэт няўгледнага нястомнага рухавіка...***

# Дзве гадзіны з... perpetuum mobile,

## або Пра тое, як спроба пагуляць у метафары закончылася прызнаннем у любові

Уладкаваўшыся ў філарманічным крэсле, у самым цэнтры надзіва камфортнай вышыні бельэтажа, я маўкліва спачувала дзесяткам самаахвярных людзей — і юных, і не сказаць каб надта маладых, — якім не дасталося "пасадачных квіткоў". Канцэрт Камернага аркестра Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі яны рыхтаваліся слухаць стоячы, без надзеі, што пасля антракту ў зале вызваліцца частка месцаў: гэта быў не той выпадак, калі, здаволіўшыся першым аддзяленнем, народ бяжыць у гардэроб... Урэшце, сцэна забрала маю ўвагу цалкам. Выступленне знанага аркестра юных талентаў пад кіраўніцтвам Уладзіміра Перліна мусіла натхніць на далейшы пошук метафар, але...

•

Але, але, але — у хуткім часе я зразумела, што самае вытанчанае пляценне слоўных карункаў адно толькі груба імітуе, а не вобразна перадае змест, сэнс, стан самага эфемернага з мастацтваў. Мастацтва, якое, калі даць веры паэту, саступае толькі любові.

Хаця — што значыць "саступае"? Без любові музыку не ўспрымеш і не зразумееш. Не сыграеш і не пачуеш.

Не пачуеш, напрыклад, подых абнаўлення ў тым самым трохчастkавым Рэ мажорным дывертысменце Моцарта, які стала ўпрыгожвае рэпертуар калектыву. Allegro: нібыта сонечныя промні гуляюць фарбамі трапяткіх матыльковых крыльцаў. Andante: не па-дзіцячы стрыманая высакароднасць. Presto: адточанае гранне, майстэрская фразіроўка, віртуозная дынаміка! Міжволі на ўсе вочы глядзіш на дырыжора і... успамінаеш даўні дакументальны фільм.

Першыя кадры таго фільма інтрыгавалі: у загадкавым асвятленні дзве пластычныя, з доўгімі выразнымі пальцамі, рукі рабілі на экране прыгожыя і дзіўныя маніпуляцыі. Гучала музыка, і на павярхоўны погляд магло падацца, што нам абяцаюць кінааповед калі не пра дырыжора, дык пра фокусніка. Але гэта быў нарыс пра фотамастака... У які ўжо раз назіраючы за сцэнічнай манерай маэстра Перліна, бачу ў ёй падабенства з магічнай працай таго фотамайстра, што падпарадкоўваў руху рук "аб'ектыўны" прамень святла і ствараў свой святлапіс на чыстым аркушы адчувальнай паперы...

Не бяруся параўноўваць маэстра з іншымі дырыжорамі, прынамсі, тымі, што працуюць з нашымі знанымі дзяржаўнымі аркестрамі. Ён проста непараўнальны! Падчас выступлення ў ім захапляе ўсё: азартны тэмперамент і шчырасць, артыстызм і дасціпнасць; элегантнасць і зграбнасць постаці. Ні цэню багемнай манернасці, ніводнага неахайнага жэста. Эстэтычнасць "сцэнічнага малюнка" настолькі відавочная, што цяжка ўстрымацца ад прызнання: які прыгожы дырыжор!

Людзі зласлівыя ці зайздросныя нават у такія хвіліны любяць паразважаць пра адваротны бок лідэрства і поспеху. Ну, а людзі мудрэйшыя проста радуюцца святу. Хаця і разумеюць, што за кожным святам — свая "кухня". А ў музыцы "лёгкасць, за якой не відаць поту" — гэта, вядома ж, вынік працы катаржніка. Так было ва ўсе часы: барацьба характараў, амбіцый, творчых поглядаў, метадаў выхавання, стыляў у стасунках. Слодыч славы, соль урокаў, боль выдаткаў... Аркестру 10 гадоў — як жа без усяго гэтага!





•

Педагогамі знанай навучальнай установы неаднаразова рабіліся спробы стварыць ансамбль даравітых юных струннікаў. І толькі спроба вядомага віяланчэліста, заслужанага арыста Беларусі, музыканта з вопытам працы ў армейскім ансамблі, Уладзіміра Перліна дала адметны плён. Ёсць аркестр! Выдатны шматпрофільны калектыў: вучэбны, эксперыментальны, канцэртны.

З Камерным аркестрам Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі выступаюць у якасці салістаў таксама юныя выканаўцы — лепшыя піяністы, флейтысты, скрыпачы, цымбалісты, віяланчэлісты... На яго творчым рахунку больш як тысяча канцэртаў у краіне і далёка за яе межамі: у Германіі, Францыі, Бельгіі, Галандыі, Англіі, Польшчы, у Расіі, на Украіне. Мноства запісаў на радыё і ТБ, кампактдыск, зроблены падчас першага візіту ў Англію. Трыумф на міжнародным музычным фестывалі ў Англіі, які праходзіў пад патранатам прынца Валійскага і куды аркестр быў запрошаны з некалькімі канцэртамі.

Творчая біяграфія — і ў багатым густоўным рэпертуары. Яго аснова — класіка, побач з якой гучаць і эфектныя канцэртныя опусы кампазітараў XX стагоддзя, у тым ліку нашых землякоў (праўда, іх супрацоўніцтва з выдатным выканаўчым калектывам пакуль — выпадковасць, на вялікі жаль).

Арыя з Рэ мажорнай аркестравай сюіты І. С. Баха: якая... незнаёмая гэтая музыка, што ва ўсіх на слыху! Няўгледны інтэрпрэтатарскі штрых — і цябе нібы апаноўвае ўзмоцнены шматкроць стук чалавечага сэрца, роўны і выразны. Ці, можа, гэта пульс Космасу, у які нехта размерана-няспешна вядзе адлік хвілін Жыцця — упоперак марнай зямной сумятні? Як працінае душу гэтая, кажучы словамі паэта, "страстная бесстрастность замедленного чтения Его"! Нібыта бачыш, як Стрэлкі Вечнасці завяршаюць свой чарговы круг...

Дуэт кантрабаса ды віяланчэлі (Расіні), дзе гэтак па-гітарнаму давяральна можа гучаць піцыката, дый увогуле хвалююча і віртуозна паказвае сябе нованароджаны ансамбль салістаў аркестра, лаўрэатаў міжнародных конкурсаў Андрэя Шынкевіча ды Георгія Анішчанкі. Пасля гэтай музычнай размовы-"двубоя" яны нават адно аднаму па-мужчынску паціскаюць рукі...

А вось — Грыг, малавядомая ў нас аркестравая сюіта ў старадаўнім стылі "З часоў Хольберга". Зусім "не ў стылі" скандынаўскай сузіральнасці. Імклівай зменай і адкрытасцю пачуццяў роднасная "класічнаму" еўрапейскаму рамантызму. Чымсьці падобная... да "Струннай сэрэнады" Чайкоўскага! Паду-

малася гэтак, і праз нейкі час і яна, "Серэнада", загучала, і нават у фрагментах здолеў аркестр перастварыць складаны прыгожы свет, напоўнены магутнай жыццёвай энергіяй.

●

Маэстра Перлін любіць сюрпрызы рабіць. Публіка любіць іх атрымліваць. Пэўна, таму падчас канцэртаў аркестра сцэна і зала патанаюць у любові. З "юбілейных" сюрпрызаў асабліва ўпадабала я той, што выказаў логіку творчага жыцця калектыву і пазначыў адзін з яго перспектыўных шляхоў. Што маю на ўвазе? Дэбют аркестра ў "кантатна-аратарыяльным жанры".

Амаль тры гады таму давялося музыкам супрацоўнічаць з выхаванцамі Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа. Пра той супольны праект, балет "Паланез" на музыку М. Кл. Агінскага, пра яго паспяховы паказ падчас гастрольнай вандроўкі ў Польшчу, мы неаднойчы пісалі. Цяпер вось, напярэдадні ўрачыстай вечарыны ў філармоніі, у маэстра Перліна нарадзілася новая творчая прапанова. Як вынік — знаны дырыжор, аранжыроўшчык, педагог Л. Муранаў зрабіў партытуру, эфектную для канцэртнага выканання і прыдатную для супольнай працы двух калектываў каледжа: Камернага аркестра ды хору "Спяваючыя музыканты" (кіраўнік А. Мазурава), і яна прагучала звыш абяцанай загадзя праграмы. Гэта была сюіта з мюзікла Лоу "Мая цудоўная лэдзі". Хормайстар стаяла ў групе альтоў і разам з усімі захоплена спявала па-англійску пад аркестр. Дырыжор віртуозна і апантана граў на сваім новым шматгалосым і шматаблічным "інструменце"...

А яшчэ былі ўсмешкі ды музычныя "прыколы" ў творах Бернстайна, Копленда, Андэрсена.

І, нібы "перажытыя навырост", недзіцячыя слёзы ды смутак: "Плач Дзідоны" Пёрсэла, славуты фрагмент з оперы Уэбэра "Ісус Хрыстос..." — эмацыйнае люстэрка лёсу прарокаў, мастакоў ды ці не ўсіх нас, грэшных.

І чаму ўся лепшая музыка — пераважна ў мінорах, з меланхалічнымі праблiскамі радасці? Як само жыццё...

●

Уласнае імя — "Дар Божы" — аркестру далі нядаўна. Чамусьці яно пакуль не прыжылося ў музыканцкім асяроддзі, дзе паранейшаму кажуць: "аркестр Перліна". Пэўна, гэты калектыў і ведаюць, і пазнаваць будуць па імёнах асабовых.

А выпадковых імёнаў на яго канцэртнай афішы не бывае. Выпадковых уражанняў падчас выступлення — таксама: талент заўсёды ўражвае, тым больш, калі ён у кранальным дзіцячым абліччы.

Лаўрэаты міжнародных конкурсаў скрыпачы Ксеня Бельцюкова, Алег Яцына, віяланчэліст Гарык Анішчанка паказваюць цуды ансамблевага грання з аркестрам, мастацтва музычнага дыялога ў Рэ мінорным concerto grosso Вівальдзі. Цымбалістка Алеся Шагун спаборнічае ў "красамоўстве" з першай скрыпкай, даводзіць публіку да экстазу сваёй высокатэхнічнай і вобразна яркай ігрой. Пяцікласнік Саша Дулаў і жартам, і з адказнасцю прымае ад маэстра чын "асістэнта" і дырыгуе струнным ансамблем...

На гарачыя авацыі, віншаванні, прызнанні ў любові Уладзімір Паўлавіч адказаў шчырым паклонам. Згадаўшы і тых, каго ўжо не магло быць у гэтай зале: сваіх бацькоў, настаўнікаў. Паслаўшы сімвалічнае прывітанне колішнім вучням, якія прайшлі школу гэтага аркестра, а цяпер занялі прэстыжныя месцы ў аркестрах заходніх краін. Падзякаваўшы ўсім, без каго поспехі створанага ім калектыву былі б немажлівыя: гэта чулыя і працавітыя дзеці, ды іх цярплівыя бацькі, ды ўвесь педагагічны калектыў каледжа на чале з дырэктарам У. Кузьменкам.

●

Доўгі, бясконцы вечар — і ніводнай адмоўнай эмоцыі! Бо калі на сцэне таленавітыя дзеці, калі ўзоры акадэмічнага мастацтва ды строгія традыцыі ажываюць у невытлумачальнай гармоніі абнаўлення, — радасны стан тваёй душы мкне да вышыняў шчасця. І разумееш тады, чаму ў мове нашай словы "святочнае" і "святое" — аднаго кораню...

І разумееш урэшце, што ў дачыненні да Музыкі, ад якой "мову адымае", гульня ў метафары робіцца бессэнсоўнай. Сэнс у тым, што застаецца проста любоў. Але ж і яна — невымоўная.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: Камерны аркестр Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Уладзіміра ПЕРЛІНА; дуэт Андрэя ШЫНКЕВІЧА ды Георгія АНІШЧАНКІ.*

*Фота К. ДРОБАВА*

ДУША

# "Яко Свеща́ возже́нная..."

Набліжаецца вялікі хрысціянскі юбілей, і думка міжволі звяртаецца да Святых нашага краю, што верою і справамі ўславілі Хрыста і неслі народу святло Евангельскай ісціны. Бліжэй за іншых сэрцу майму Прападобная Еўфрасіння. Як велічна і радасна ўслаўляюць яе манаскі і асветніцкі подзвіг цудоўныя радкі Акафіста!

Для мяне вобраз Князёўны-ігуменні — гэта вобраз асаблівай духоўнай прыгажосці і любові да роднай зямлі і роднага народа. У яе жыцці адчуваеш нашу сувязь са старажытнай Візантыяй, Кіевам, Іерусалімам — з цэнтрамі ўсяленскага Праваслаў'я: жыла ў Полацку, наведала Царград-Канстанцінопаль і спачыла ў Іерусаліме, пакланіўшыся труне Гаспадняй. Стагоддзі знаходзілася сваімі святымі мошчамі ў асяроддзі манаскіх подзвігаў, у Кіева-Пячэрскай Лаўры. І вярнулася ў родны Полацк амаль напярэдадні цяжкай бязбожнай навалы, каб абараняць малітвай народ наш...

З'явілася думка напісаць харавую фрэску-трыпціх "Яко Свеща возженная", прысвечаны маці нашай Еўфрасінні. Штуршком да гэтага былі размовы з В. Дышыневіч, якая сваімі ведамі з жыцця Прападобнай і яе часу, гарачай зацікаўленасцю ўмацавала маю задумку. Але галоўным было благаслаўленне мітрапаліта Філарэта.

Праца пайшла нейкай няспыннай плынню, як кажуць, "на адным дыханні". Але да стварэння трыпціха быў доўгі шлях вывучэння старажытных царкоўных спеваў непасрэдна, асабіста ў якасці пеўчай у Спаса-Прэабражэнскай царкве Мінска, пранікненне ў малітоўнасць царкоўных спеваў, што ідуць яшчэ ад часоў Старажытнай Русі.

Ад усёй душы хацелася апець славу святой падзвіжніцы і моцнай малітоўніцы перад Прастолам Божым за Белую Русь. Працавала, а ў душы гучалі дзівосныя радкі Акафіста.

Паводле маёй думкі, увасабленнем трыіпастаснасці Прасвятой Тройцы ў трохчасткавым харавым творы стала Святая Русь у адзінстве і моцы трох братніх народаў.

Кандак першай часткі трыпціха (жаночы хор "Избранную Христову Невесту песньми восславим днесь, вернии Евфросинию..."), як мне адчувалася, нібыта вуснамі манашак распавядае пра жыццё Прападобнай. Апавяданне расквечана паданнямі і легендамі народных песняроў пра цудоўны шлях яе анёльскага служэння Госпаду, пра збудаванне дзівоснага храма і манастыроў, пра цудатворны яе Крыж. У думках падставаў нялёгкі паломніцкі шлях Святой у далёкі Іерусалім, дзе і спачыла яна, аддаўшы душу сваю Нябеснаму Жаніху.

Другая частка харавой фрэскі — гэта Святочны Трапар (мужчынскі хор: "Христу себе уневестила еси: Крест вземши, путем ангельскаго жития шествующи, и многия к нему наставляющи..."). Духам сваім ён павінен быў набліжацца да старажытных абыходкавых царкоўных песняспеваў, у стрыманых і строгіх танах лаканічнага харавога пісьма аднаўляючы нязгасную славу Нявесты Хрыстовай — святой Еўфрасінні.

Трэцяя частка — заключны Кандак (змяшаны хор: "О всехвальная мати наша Евфросиние всечестная! Моли за ны Господа и Матерь Его Пречистую, да укрепит наша немощныя силы и во спасение управит..."). У трохразовым малітоўным звароце да Прападобнай, да яе апякунства, абароны і благаслаўлення хор узносіць хвалу і ўдзячнасць у прамяністым, яскравым "Алілуя".

Задума ўсёй харавой фрэскі ў яе гукавым увасабленні, безумоўна, мела патрэбу ў асабліва чулым, уважлівым і, галоўнае, сапраўды хрысціянскім прачытанні з боку хормайстра. Найбольш адпавядала тут асоба нашага славутага маэстра В. Роўды. З ім я знаёма амаль чвэрць стагоддзя, было ў нас творчае супрацоўніцтва — выкананне араторый "Песня пра Ігара", "Іканастас", "Рэквіем" і інш.

Веданне царкоўнай, рэлігійнай музыкі, глыбокае адчуванне яе ў Віктара Уладзіміравіча — ад дзяцінства ў сям'і святара. У студэнцкія гады ён нейкі час (пакуль дазвалялі) быў рэгентам хору Свята-Духава манастыра ў Вільні. Дарэчы ўспомніць, што царкоўнымі рэгентамі былі ў свой час самыя славутыя хормайстры: А. Свешнікаў, У. Мінін, Р. Шырма, ужо не гаворачы пра дарэвалюцыйных спецыялістаў — усе яны прайшлі школу царкоўных спеваў, добра ведалі набажэнства, аснову праваслаў'я.

Вось і пайшла я да маэстра. Вядома, з нейкай баязлівасцю: ці возьме мой твор майстар, высокі прафесіянал? Да таго ж, ведала яго нялёгкі характар, але спадзявалася на творчую сілу ягонай душы, глыбокую адданасць справе харавога мастацтва, імкненне спрыяць развіццю духоўнай музыкі.

Маэстра Роўда сустрэў мяне і мой твор даволі дабрадушна, і я ўскрыяла духам. Але далей... Пайшлі харавыя рэпетыцыі і я, канешне, чакала запрашэння, але яго не было. На маё здзіўленне прагучала катэгарычнае: "Вам тут няма чаго слухаць!". Усё. У душы маёй ірвалася і кідалася самалюбівае "я". Як гэта так? Чаму? Я ж — аўтар! У мяне, нарэшце, ёсць сваё разуменне. "Без мяне мяне ажэняць..." — надакучліва круцілася ў галаве.

І вось — вечар прэм'еры. Камерная зала філармоніі. На сцэну выйшаў маэстра. Цішыня... Уладарны жэст рукі... Душа мая, як насцярожаная птушка, кінулася насустрач святаноснай плыні гукаў... Дзіўна. Усё дробязнае, крыўднае адышло. Гаючым бальзамам кранула сэрца ціхая радасць...

Галубінай песняй узнёсся Кандак Прападобнай. Пяшчотна і замілавана гучаць жаночыя галасы, ствараючы нібы святлансны абраз Еўфрасінні — адзінымі вуснамі, адзіным дыханнем душы.

Строга, па-інацку гучыць Святочны Трапар у выкананні мужчынскіх галасоў. І пры гэтам — якая сувымернасць пачуццяў, што дасягае вялікай сардэчнай глыбіні ў момант кульмінацыйнага ўздыму!

Але самае цудоўнае — гэта Алілуя! Яго выкананне, насуперак пазначанаму мною "allegretto" (ажыўлена), у фінале харавога трыпціха гучыць у тэмпе "maestoso" (урачыста). І як гучыць!

Трапятліва прасочваю творчую думку маэстра, напаўняюся радасцю. Ягоная трактоўка беззаганная! Талент, благаславёны Госпадам... Нават малым складам хору Белдзяржтэлерадыё, нягледзячы на шматгучча партэснай партытуры трыпціха, прафесару Роўду ўдалося дасягнуць цудоўнага — нямногім перадаць многае: глыбінна і псіхалагічна ўзнавіць усімі тонкімі градацыямі нюансаў, акцэнтаў і тэмпарытмаў несмяротны вобраз Белай Русі.

Нізкі Вам паклон, дарагі Віктар Уладзіміравіч, за Вашу неацэнную працу на карысць Нябеснай і Зямной Айчыны дзеля выратавання душ нашых. Шчыры дзякуй Вам за цудоўнае ўслаўленне Вашым хорам маці нашай Еўфрасінні, якая, нібы малітоўная свечачка, гарыць у Нябесным Храме за народ наш Божы...

**Людміла ШЛЕГ,**
**кампазітар**

ДЫЯСПАРА

# "Вільня-98" — свята нашай песні

Сярод свят беларусаў Літвы асабліва адметнае — па маштабе і змесце — фестываль беларускай народнай песні. Першы праходзіў у Салечніку (Шальчынінкаі), другі — у Вісагінасе, трэці прайшоў сёлета ў верасні ў Вільні.

Свята адбылося ў пnative prасторнай зале Палаца культуры прафсаюзаў на Туравай гары. Удзельнічаць у фестывалі "Вільня-98" выказалі жаданне многія. Родная песня адраджаецца, як веснавая паводка, і захапляе ўсё шырэйшы прастор. Спецыяльная камісія змушана была адбіраць найлепш падрыхтаваных салістаў, музыкантаў і харыстаў. І ў выніку ўзровень выступленняў быў значна вышэйшы ад папярэдніх.

Асаблівы поспех выпаў на віленскі "Гярвечай", вісагінскую "Шчару" і дзіцячы хор з Друскенікаў, хоць няблага выступілі таксама салечыцкія спявачкі, віленская "Сябрына" ды іншыя.

Першай выйшла на сцэну "Сябрына". За час існавання хору тры разы мяняўся ягоны кіраўнік. Найбольш шчаслівым было прызначэнне апошняга — Валянціны Кавальчук. Таленавітая спявачка, поўная энергіі маладая настаўніца імпэтна ўзялася за працу і дабілася відавочнага мастацкага росту калектыву. А між тым, удзельніцы хору — пераважна сямейныя жанчыны, у якіх хапае ўсялякіх клопатаў. Тым не менш, спадарыня Кавальчук натхніла ўсіх працавітых і ахвярных, "прыроджаных" беларускіх спявачак. І хор здабыў вядомасць. Яго канцэрты нязменна карысталіся поспехам. Спрыялі гэтаму і прыгожыя нацыянальныя касцюмы, і набытыя інструменты, і маральная падтрымка друку. На жаль, для далейшага росту не хапае шырэйшага кантакту са школьнай моладдзю і шырокімі народнымі масамі.

А пачаў свята папулярны і паважаны ў Вільні заслужаны оперны саліст і прэзідэнт згуртавання беларускіх суполак Літвы Леанід Мурашка, які звярнуўся да прысутных на літоўскай і беларускай мовах. Ён зачытаў прывітанне Прэзідэнта Літоўскай Рэспублікі Валдаса Адамкуса, у якім было падкрэслена, што літоўскі і беларускі народы аб'ядноўвае не толькі шматвяковае суседства, але і гістарычная мінуўшчына, блізкасць (а часта і супольнасць) поглядаў, звычаяў, імкненняў, што беларусы ўнеслі значны ўклад у культуру Летувы.

А затым "Сябрына" хораша праспявала народныя песні "Зялёна жыта, зялёна" і "Грачанікі", якія цёпла і шумна ўспрыняла зала.

Наступным быў харавы калектыў віленскага творчага клуба "Гярвечай" (Гервяты — мясцовасць на ўзмежжы беларускага і літоўскага этнасаў). Ён таксама ўжо здабыў сабе папулярнасць. Але гэтым разам асабліва ўсцешыў усіх сваім узроўнем вакальнага майстэрства, беззаганна выканаўшы песні "Ой, даўно ў матулі" і "Мая матуля на мяне бядуе".

Салечнікі рэпрэзентавала сціплая група спявачак у цудоўных нацыянальных уборах. Яны ўдала праспявалі народныя песні "Напілася я п'яна" і "Каля рэчкі, каля броду".

Цёплыя словы належыць сказаць пра Людмілу Віткоўскую, якая кіруе ансамблем беларускага цэнтра "Крок" у Вісагінасе. Выкананыя імі народныя песні "Ой, бачыў я, бачыў", "Жыта ў полі", "Гаю мой, не кліч" сведчаць аб сур'ёзнай працы і будучым росквіце гэтага калектыву.

Вельмі цёпла былі ўспрыняты прысутнымі выступленні "Шчары" пад кіраўніцтвам Святланы Антанян. Народныя песні "Ой у лузе пры даліне", "Звіняць, звіняць звончыкі" і сучасная песня "Гуляць дык гуляць" у выкананні гэтага калектыву прыкметна падагрэлі эмоцыі публікі.

І ўсё ж галоўныя "неспадзяванкі" былі наперадзе. Маю на ўвазе выступленні амаль прафесійных народных ансамбляў Беларусі. Вось, скажам, малады ансамбль "Юнацтва" з Баранавічаў. Вядома, яго не параўнаеш са школьным ансамблем "Спадчына" з Друскенікаў. У Друскеніках нават роднай школы няма, і толькі шчыры энтузіязм Маргарыты Пузіновіч дапамог "нарадзіцца" гэтаму цікаваму калектыву і дастойна выступіць на свяце "Вільня-98". "Юнацтва" ж паказала проста высокапрафесійнае майстэрства. Мастацкі кіраўнік Ігар Чарняўскі, несумненна, валодае прыроджаным талентам, яго пастаноўкі "Лявоніхі", "Маталіхі", "Каханачкі", "Беларускай кадрылі" — гэта сапраўдны харэаграфічны феерверк. Бурныя воплескі, выгукі "Брава!", "Малайцы!" проста сатрасалі вялізную залу.

А яшчэ ж былі сольныя выступленні. Не магу не назваць імёнаў Наталлі Краўтэр (Масква), Галіны Знайдзіроўскай, Жанеты Нарэйкене і Яўгена Васілеўскага. Апошні проста выдатна, непараўнана выканаў песні "Верасы" (словы І. Скурко, музыка І. Лучанка) і "І вы шуміце, бярозы" (музыка Э. Ханка, словы Н. Гілевіча).

А заключны акорд свята — выступленне народнага фальклорнага ансамбля "Паазер'е" з Паставаў з песняй "Ой, братка-беларус" у выкананні Анатоля Собаля.

Пасол РБ у Літве сп. Вайтовіч і дырэктар дэпартамента сп. Мотуз выказалі шчырую падзяку галоўнаму мастацкаму кіраўніку свята Л. Мурашку і ўсім яго ўдзельнікам за нялёгкую працу і прынесеную прысутным радасць.

**А. ЗІНКЕВІЧ**

## Юбілей зямлячкі



**У сапраўднае літаратурнае свята ператварыліся ўрачыстасці, прысвечаныя 60-годдзю Ніны Маеўскай, якія прайшлі на яе роднай Любаншчыне. Прыхільнікі таленту Ніны Васільеўны сабраліся ў Сароцкім Палацы культуры. Юбілярку віншавалі старшыня раённага выканаўчага камітэта І. Макарэвіч, старшыня Асавецкага сельвыканкама В. Бялькевіч, былыя школьныя настаўнікі Н. Маеўская, А. Чарнова, М. Дарожка і іншыя. Любанскія школьніцы Алена Аднамах, Ірына Белавус, Ірына Ахрамейка, Эла Крывальцэвіч, Таццяна Русаковіч чыталі вершы юбіляркі. Сама Ніна Васільеўна вяла дыялог з залай, адказваючы на шматлікія пытанні прысутных.**

**К. СЯРГЕЕНКА**

*Фота Віктара НАГОРНАГА*

## На Каляды ў Чырвоным...

**У сталічным касцёле святых Сымона і Алены (Чырвоным) штогод на Каляды ладкуецца музычнае свята. Гэтым разам тут адбыўся фестываль "Ave Maria". У канцэртах удзельнічалі лепшыя дзіцячыя харавыя калектывы Мінска, а таксама Мінскі абласны камерны хор і аркестр "Sonorus" пад кіраўніцтвам Аляксея Шута. Гучалі ўзоры духоўнай музыкі...**

**С. Б.**

## Дзякуючы спадару Радзіму...

**Вечарына, прысвечаная 70-годдзю Радзіма Гарэцкага, адбылася ў Літаратурным музеі Янкі Купалы.**

**Радзім Гарэцкі — адзін з тых нешматлікіх, на жаль, беларусаў, праз якіх нашу краіну ўспрымаюць не толькі як чорную дзірку на карце Еўропы. Менавіта яму Амерыканскі біяграфічны інстытут надаў званне "Чалавек года 1997", а Міжнародным Кембрыджскі біяграфічны цэнтр Англіі назваў "Міжнародным чалавекам года 1997—1998".**

**Дзякуючы сп. Радзіму нашую зямлю ведаюць і ў прамым, і ў пераносным сэнсе. Ён выбітны геолаг, акадэмік НАН Беларусі, замежны сябра Расійскай АН, доктар геолага-мінералагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь, лаўрэат дзяржаўных прэмій БССР і СССР. Зараз ён — ганаровы дырэктар Інстытута геалагічных навук, сябра Амерыканскага геафізічнага Саюза, Беларускага геалагічнага таварыства.**

**Падчас вечарыны юбіляра віншавалі Янка Брыль, Ніл Гілевіч, старшыня ЗБС "Бацькаўшчына" Ганна Сурмач, Дзмітрый Бугаёў, Мікола Аўрамчык, Сяргей Законнікаў, Анатоль Вярцінскі, Васіль Зуёнак, Леанід Дранько-Майсюк, Сяргей Панізнік, Уладзімір Стальмашонак, Язэп і Галіна Янушкевічы. Добрыя словы прамовілі супрацоўнікі акадэмічнага Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Міхась Мушынскі, Тэрэза Голуб і Таццяна Дасаева. На чале з прэзідэнтам Міжнароднага фонду Янкі Купалы Вячаславам Рагойшам віншавалі Гарэцкага навукоўцы музея. Напрыканцы гэтай цёплай вечарыны выступіў і сам юбіляр.**

**Дарэчы, сп. Радзім узначальвае Фонд братоў Гарэцкіх. Няма патрэбы нагадваць, які след пакінулі ў гісторыі Беларусі гэтыя людзі. Цудоўна, што мы маем добры досвед існавання славутых родаў: былі Радзівілы, Сапегі, а цяпер ёсць — Гарэцкія.**

**А. Ш.**

ВІНШУЕМ!

# Уладзіміру БАРЫСЕНКУ — 50

***Поўдзень свайго веку адзначае паэт Уладзімір Барысенка, аўтар кніг "Рэйкі лёсу" і "Запаленне душы", шматлікіх публікацый у перыядычным друку. Для творчасці У. Барысенкі характэрна абвостранае пачуццё сумлення і справядлівасці, адчувальны ў ёй і грамадзянскія матывы. Віншуем творцу з юбілеем і прапаноўваем яго новыя творы.***



Уладзімір БАРЫСЕНКА

### Дайсці

*Аддалі першаснеззе, мой лёс!*
*Уяві боль нясцерпны, няснёны,*
*я яшчэ не дайшоў, не данёс*
*гэты боль за асінкі і клёны,*
*за дубы-неабдым, твар кургана,*
*за троххвойе, дзе чарку бярэм,*
*за чаромху — жыццёвае ранне,*
*калі ўпотайкі ноч сцеражэм.*
*За рубцы на футбольнай паляне —*
*першахаце былой, дзе услых*
*зацiўцiўкана ліпы спявалі,*
*покуль "суддзі" нам з імі — пад дых!..*
*За пакінуты Зойкамі хутар,*
*Гарадзеншчыну, дзе белы грыб*
*памірае трывожна, пакутна,*
*і не верыць, што рады далі б.*
*За лагчыну, дзе возера ззяла,*
*шэра-пенны Дняпровы разліў*
*пад Ляўкамі, дзе ўлетку Купала*
*ўсхвалявана падлеткаў хваліў.*
*За зняваг Анікаўскай мовы,*
*за манкуртам прададзены след,*
*за апошнюю з сябрам размову —*
*не змаглі развітацца, як след.*
*Першаснеззе, мой лес, аддалі!*
*Зберажы ад бяды і здарэння,*
*каб дайшоў я і на араллі*
*папрасіў у зямлі прабачэння...*

### Асяніны

*Як лістота жыццё пралятае*
*па-над дзялкамі сціплых палёў,*
*дзякуй, памяць, што ты нас вяртаеш*
*да гаротнікаў і каралёў.*
*Дзякуй, памяць, што гучна склікаеш,*
*ціха стравы на стол падаеш,*
*што ўтрапёна малітву чытаеш,*
*цяжкі крыж Еўфрасінні нясеш.*
*Дзякуй, памяць, што лёс наш шануеш,*
*што здымаеш каменні з душы,*
*што у сэрцах нашчадкаў пануеш,*
*каб бяспамяцтва крыж не здушыў.*
*Дзякуй, памяць, што свечка зайграла*
*боскай музыкай, светлым святлом,*
*што мы душы з нябёсаў спаткалі*
*за накрытым табою сталом.*
*Як лістота жыццё пралятае*
*па-над дзялкамі сціплых палёў...*
*Дзякуй, памяць, што зноўку вяртаеш*
*да гаротнікаў і каралёў.*

# АПОШНЯЕ СПАТКАННЕ

*(Працяг. Пачатак на стар. 8—9)*

гутарыў з Алёшкам, а пасля яны хадзілі да дзеда Антося — Алёшкавага другога дзеда, які з бабай Ганнай жылі ў канцы вёскі. Дзед Антось таксама любіў Алёшку. А баба Ганна кожны раз уздыхала... Праз некаторы час у бацькі з'явілася другая сям'я. А пасля і дзеці — яго сястрычка і брацік, якіх Алёшка ні разу не бачыў, але чамусьці любіў завочна.

Так яны жылі да вайны. Айчым адносіўся да Алёшкі, як і да Алёнкі. Але бацькам Алёшка яго не лічыў і ні разу не назваў. У яго быў бацька.

У першы ж дзень вайны айчым пайшоў у ваенкамат. А што стала з бацькам, Алёшка не ведаў. Праз тыдзень прыйшлі немцы. Жыць стала цяжка. Дапамагаў дзед Антось. Ён і сена касіў, і дроў прывозіў, і калоў іх. Так яны і перабіваліся.

Пасля вызвалення айчым прыслаў ліст, а затым і атэстат. Стала лягчэй. Якія ні якія, але грошы. Вайна канчалася, і айчым пісаў: "Чакайце, хутка вярнуся з перамогай". Але адразу пасля вайны прыйшла "пахаронка" — паў смерцю героя пры штурме Берліна і пахаваны на Зеелаўскіх ваенных могілках.

Каб было лягчэй жыць, маці запісала і Алёнку, і Алёшку на прозвішча айчыма — дзецям загінуўшага афіцэра меліся пэўныя льготы. Так ён з Салаў'я ператварыўся ў Грамыку.

Восенню на дзень нараджэння Алёшкі нечакана з'явіўся бацька. Ён ваяваў у партызанах, а пасля — на фронце. Быў цяжка паранены і кульгаў пры хадзьбе. Працаваў настаўнікам, як і да вайны.

І гэтым разам бацька прывёз падарункі Алёшку. А гутарылі яны тады ўжо, як дарослыя. Гэтым разам бацька пагутарыў і з маткаю. Аб чым у іх ішла размова, Алёшка не чуў, бо хадзіў частаваць Алёнку цукеркамі.

Працягвалася дружба Алёшкі з бацькам і далей. Бацька хацеў, каб ён ішоў вучыцца ў тэхнікум. Алёшка ж рашыў, што трэба працаваць і дапамагаць маці гадаваць Алёнку. А вучыцца можна і завочна. Адслужыць армію і пойдзе вучыцца.

На провады ў армію бацька чамусьці не прыехаў, хоць Алёшка яму аб гэтым і напісаў.

І з арміяй Алёшку не пашанцавала. Хлопцы пайшлі ў танкісты, артылерысты, а ён — ва ўнутраныя войскі. Сорамна цяпер напісаць, што ён ахоўвае зэкаў, сорамна будзе і пасля расказваць людзям аб гэтым. Народ ніколі не любіў чэкістаў. Ды і расказы нампаліта ўсё больш і больш выклікалі недавер. "Ворагі народа", здраднікі, бандыты... А чаму гэтых бандытаў так ад часу выпускаюць з лагера? Чаму іх селяць у бараках побач з вольнымі? Чаму нават адпускаюць на мацярык? Не, штосьці тут не так, як кажа нампаліт...

І чаму гэта сёння такія сумныя думкі лезлі ў галаву? І гэты дзіўны зэк чамусьці не выходзіць з галавы... Можа, гэта ад надвор'я, ад холаду? І гэтак яму захацелася дамоў — хоць бы на адзін міг апынуцца там! Хоць бы адным вокам глянуць на родных і блізкіх! Можа, тады лягчэй бы стала служыць і ахоўваць гэты шэры таямнічы лагер. Але на паездку дамоў разлічваць не даводзілася. Гэта падчас манеўраў яго сябры зараблялі паездкі дамоў. Дык тут жа — не баявая часць.

Пад раніцу дождж спыніўся і стала неяк весялей. Ды і дзяжурства скончылася. Але старшына не даў адпачыць.

— Грамыка, збірайся на развод.

— Які развод? Я ж толькі змяніўся з вахты.

— Пойдзеш з брыгадаю зэкаў па карчы. Трэба падсушыць казарму. Гэта на гадзіны дзве.

Спрачацца Грамыка не стаў. Не ў развод, дык знойдзе іншую працу, у яго ў запасе заўсёды нешта ёсць.

Зборы не доўгія: ускінуў аўтамат — і гатоў.

У "прылазніку" ўжо чакалі зэкі. Начальнік канвою, сяржант Хомчанка, завучана прабубніў: "Канвой папярэджвае..." І група зэкаў рушыла. Зэкі ішлі вольна, нават не трымаючыся пад рукі. Грамыка і Абдулаў ішлі наперадзе, два стралкі і начальнік канвою — ззаду. Ісці было кіламетры са два. Там, на схіле гары, яшчэ захаваліся старыя пні, якія і збіралі зэкі на паліва. Грамыка і Абдулаеў падняліся на схіл і разышліся ў бакі. Стралкі ўнізе таксама разышліся. Стралкі ўселіся на пні. Атрымалася "забароненая зона", унутры гэтай зоны зэкі пачалі вырываць з зямлі пні.

Грамыка сядзеў і бяздумна глядзеў перад сабою. Раптам у поле зроку трапіў зэк — ён набліжаўся да пня, што тырчаў недалёка ад Грамыкі. Да зэка было метраў з дзесятак. Грамыка неяк механічна ўскінуў аўтамат і націснуў на спускавы кручок. Зэкі спалохана павярнуліся на стрэлы. Грамыка даў другую чаргу і закрычаў: "Лягай"! Зэкі пападалі на зямлю. Канвой ускочыў са сваіх пнёў і таксама стаў страляць у паветра. Зэк неяк здзіўлена павярнуўся да Грамыкі. Вочы яго расшырыліся.

— Алёшка, што ж ты нарабіў? — хапаючыся за жывот, уголас сказаў ён. І стаў асядаць на зямлю.

Словы яго токам пранізалі Грамыку.

— Тата... — прашаптаў ён. Гэтак яго мог назваць толькі бацька. Алёшка кінуўся да яго, апусціўся на калені.

— Алёшка, сынок, што ж ты нарабіў? Я ж ужо вольны. Заўтра паеду па дакументы.

Алёшка збялеў, вусны яго дрыжалі.

— Татачка, родненькі, даруй мне, — шаптаў ён, упаўшы на грудзі бацьку. Слёзы цяклі з яго вачэй ручаём. Дрыжачымі рукамі ён расшпіліў бацькаў бушлат. Шэрая куртка на жываце стала ружовай. Алёшка падняў яе і ўбачыў на жываце дзве невялікія ранкі, з якіх цякла кроў.

— Я нічога, сынок. Усё будзе добра. Толькі запомні, сынок — я ні ў чым не вінаваты. Нядобрыя людзі наплялі, што я нацыяналіст, не любіў савецкую ўладу. А я ж за яе ваяваў. Я любіў Беларусь. Далі мне ўсяго пяць гадоў. Заўтра на волю. Заеду да цябе. Цябе я пазнаў год назад. На разводзе. Ты мяне не пазнаў, а я цябе пазнаў адразу. Я доўга думаў, як быць. Хацеў табе падаць вестку, але баяўся табе пашкодзіць. А сёння вось спаткаліся. У цябе ж сёння дзень нараджэння. Віншую цябе...

Бацька гаварыў усё павольней і ўсё цішэй, ён аблізваў перасохлыя губы, твар яго бляднеў.

Падбег, засопшыся, Хомчанка. Пабачыў, што Грамыка стаіць на каленях перад зэкам, і закрычаў:

— Хлюпік! Бяры аўтамат і марш на месца!

Грамыка падняў на Хомчанку поўныя нянавісці вочы і ціха, але сурова прашаптаў:

— Ідзі адсюль.

Хомчанка спалохана падаўся назад.

— Псіх, — буркнуў ён і пайшоў уніз.

— Татачка, родненькі, даруй, — зноў прашаптаў скрозь слёзы Алёшка.

— Ты не вінаваты. Вінавата сістэма, — ледзь чутна прашаптаў бацька.

Алёшка ж адно шаптаў:

— Татачка, родненькі, даруй...

Ён увесь калаціўся — ад плачу, ад болю і віны за ўчыненае. А бацька дыхаў усё часцей, яму не хапала паветра. На лобе выступіў пот. Твар яго стаў белы, як снег. Ён яшчэ некалькі разоў уздыхнуў і заціх. Вочы яго нерухома глядзелі ў неба. Алёшка зразумеў, што бацька памёр.

Пагладзеўшы яшчэ некалькі хвілін на нерухомае цела бацькі, Алёшка падняўся. Ён паволі агледзеўся вакол. Зэкі ляжалі на зямлі, паглядаючы ў яго бок. Яны не разумелі, што здарылася. Стралкі стаялі, наставіўшы аўтаматы на зэкаў.

Алёшка нагнуўся, пацалаваў бацьку, падняў аўтамат, прыклаў яго да грудзей і націснуў на курок. Прагучаў адзінокі стрэл. Алёшка ўпаў на бацьку.

Праз гадзіну з лагера з'явілася начальства — камандзір роты аховы, нампаліт і опер. Яны агледзелі два трупы. Забралі аўтамат. Начальства рашыла, што стралок пад уздзеяннем забойства зэка не вытрымаў стрэсу і сам застрэліўся.

— Дрэнь, хлюпік! — буркнуў нампаліт і адвярнуўся.

З лагера прынеслі двое насілак. На іх узвалілі трупы і загадалі зэкам несці ў пасёлак. Зэка — у лагер, стралка — у казарму.

Параіўшыся, рашылі, што самагубцу хаваць на цывільных могілках нельга. І ганаровай варты яму не паложана — зганьбіў стралок высокае званне чэкіста. Загадалі пахаваць асобна, збоку ад могілак.

А лагернае начальства разважыла, што гэты зэк — ужо і не зэк. Але яшчэ быццам бы і не вольны — дакументы яму яшчэ не аформілі. І загадалі пахаваць збоку ад лагерных могілак. І нават труну зрабілі. Труны і яму, і сыну зрабілі ў лагеры. І хаваць іх загадалі разканваіраваным зэкам.

А тыя рашылі па-свойму. Зэк — ужо не зэк. А салдат, пэўна, быў з добрай душою і не вынес забойства. Таму выкапалі адну магілу — паміж вольнымі і зэкаўскімі могілкамі, бліжэй да вольных, у якую і паклалі абедзве труны.

ВІНШУЕМ!

# Кваліфікацыя — крытык!

## Дзмітрыю БУГАЁВУ — 70

Дзмітрый Бугаёў — найперш крытык, а потым ужо літаратуразнавец, выкладчык, лектар. Маю на ўвазе першаснае значэнне гэтага грэчаскага слова: разбор, меркаванне, рэфлексія з мэтаю вынясення ацэнкі твора. Удакладненне для тых, хто блытае крытыку з адмаўленнем чаго-небудзь у літаратуры, негатыўным стаўленнем да твора і яе аўтара. Талент крытыка рэдкі, бо павінен спалучаць, па сутнасці, неспалучальнае: вобразнае і паняційнае мысленне, інтуіцыю і развагу, даследчыцкую грунтоўнасць і грамадзянскі тэмперамент байца. У асобе Дзмітрыя Бугаёва ўсё гэта арыгінальна сышлося, дапоўнілася іншымі не менш важнымі для крытыка якасцямі, такімі, як гуманістычная накіраванасць пошуку, рэнаме дарадцы і арбітра, шматаспектнасць творчых зацікаўленасцяў, рэзкасць і дакладнасць суджэнняў, уменне спрачацца. Адзін такі ўважлівы і зычлівы крытык варты дзесятка пасрэдных версіфікатараў і пло́ймы прэтэндэнтаў на заканадаўцаў літаратурнай моды.

Дар вобразнага бачання свету, несумненна, знаёмы Дзмітрыю Бугаёву, аб чым добра сведчаць яго ўспаміны “Жыццём ідучы...”, дзе чытач знойдзе нямала цікавых падрабязнасцей жыцця 30—60-х гадоў, не заўважаных увагай нашай досыць багатай на падрабязнасці мастацкай прозы пра гэты перыяд. А жыццём ідучы — і ў гэтым сэнс назвы — усяго набачышся, а набачыўшыся — міжволі пачнеш параўноўваць, рабіць пэўныя высновы. Поруч з малюнкамі жыцця ва ўспамінах увесь час прысутнічае роздум, імкненне да абагульненняў. Магчыма, адсутнасць у літаратуры асобных назіранняў і мысліцельнай насычанасці і змусіла Дзмітрыя Бугаёва ўзяцца за пяро мемуарыста. Прынамсі, адкрытая і ўскосная прысутнасць літаратуры, іншых пунктаў погляду на знаёмыя з’явы і працэсы востра адчуваецца: Дзмітрыю Якаўлевічу і тут, у гэтым жанры, які схіляе да памяркоўнасці і ўзважанасці, гістарычная ісціна даражэй, чым магчымая негатыўная рэакцыя многіх, каго ён так ці інакш закранае, чые погляды не прымае альбо прымае, але з удакладненнямі. У сваёй ваяўнічасці ён, як звычайна, адкрыты: называе канкрэтныя імёны, робіць спасылкі на першакрыніцы, інакш кажучы, паводзіць сябе ў адпаведнасці з кодэксам гонару літаратурнага крытыка, нагадваючы часам сучаснага Дон Кіхота ў беларускім варыянце.

Дарэчы, гэту яго якасць (нежаданне адседжвацца, калі іншыя маўчаць, жыццё паводле прынцыпу “Платон мне друг, але ісціна даражэй”, разуменне, што без бою тое, што аджыло свой век, не здаецца) даўно заўважылі і часам свядома выкарыстоўвалі аматары літаратурных гульняў і дробныя правакатары. Пра гэта можна адшукаць сведчанні самога Дзмітрыя Бугаёва, які і сёння, калі мінула з часу даўніх літаратурных пабоішчаў не адно дзесяцігоддзе, усё яшчэ стаіць “на сцяжыне вайны”. Але пра гэта нагадвае і такі нечаканы “летапісец” літаратурнага працэсу, як Францішак Вядзьмак-Лысагорскі, які не пашкадаваў таленту, каб выразна абмаляваць партрэт сённяшняга юбіляра: “Давай, Змітро, пачні размову: Ты самы смелы сярод нас. Змітрок рыўком прайшоў наперад, Адкашляў хрыпку на хаду і з развароту, без паперак Абрынуў шквал на грамаду”. Дакладна перададзены змест і інтанацыя “маналога”: жалезная логіка, багатая аргументацыя, вастрыня меркаванняў, іронія знаўцы чалавечай (пісьменніцкай) натуры — усё тут у наяўнасці. Такая смеласць у ранейшыя часы дорага каштавала Бугаёву, множачы ў геаметрычнай прагрэсіі колькасць нядобразычліўцаў, але набыты аўтарытэт і павага пісьменніцкай грамады пераважалі. Што ж, усё ў гэтым свеце каштуе фізічных вымог і нервовых стрэсаў, і нават правілы дарожнага руху сцвярджалі сябе дарагой цаной ахвяр!

Спачатку літаратурная “вайна” ішла з адкрытымі сталіністамі-дагматыкамі, і Бугаёў быў з ліку прынцыповых і гарачых прыхільнікаў змен, якія адбываліся ў творчым жыцці часоў “адлігі”. Магчыма, не самым галоўным і не самым першым, але — гэта бясспрэчна — самым надзейным і адданым байцом за ісціну. Калі ўлічыць, што тагачасныя літаратурныя сутыкненні, здавалася б, па прыватных творчых праблемах, былі ўсяго толькі эманацыяй больш глыбокіх тэктанічных зрухаў у грамадскай свядомасці, то можна адчуць сапраўдныя маштабы гэтай “бітвы ў дарозе”. У гарачцы бою, зразумела, былі перабольшанні, залішні акцэнт на “ленінскіх прынцыпах партыйнасці і народнасці”, але апеляцыі да ўлады, а тым больш да карных органаў, якою звыкла злоўжывалі супраціўнікі, не было і блізка. Была апеляцыя да здаровага розуму прадстаўнікоў ідэалагічных інстанцый, зварот да пачуцця нацыянальнай прыналежнасці: калі пануе жорсткі цэнзурны нагляд, то мае сваё значэнне і “тэорыя малых спраў”. Прынамсі, з гэтых малых спраў і збіралася на працягу 50—80-х гадоў паводка, якая так лёгка звергла бастыён забаронаў і догмаў, што здаваўся непрыступным і вечным. На жаль, сённяшняе радыкальна настроенае літаратурнае пакаленне нічога гэтага не заўважае і не прызнае, мяркуючы, што чаканая свабода сама ўпала ім у рукі, як неасцярожнае птушанятка з гнязда.

“Малыя справы” як кампрамісная форма жыццядзейнасці, вядома, рабіліся ў парадыгме ленінскай “тэорыі адлюстравання” і сацыялістычных ідэй. У гэтым крытыкі-шасцідзесятнікі дасягнулі небывалай віртуознасці, аб чым можна адшукаць у прэсе таго часу нямала доказаў: чытач, слухач часам заміраў ад страху і захаплення, назіраючы за асобнымі віражамі крытычных асаў, калі даказвалася загадзя недаказальнае ў тых умовах, сцвярджалася супрацьлеглае прамому сэнсу выказвання. Калі і гэтай магчымасці не стала, і ідэалагічныя службы навучыліся чытаць “падтэкст”, як тое здарылася пасля разгрому “пражскай вясны”, наша крытыка “пайшла” цэлым касяком у літаратуразнаўства. Менавіта тады адкрываліся новыя імёны, забытыя ці забароненыя творы, асвойваліся “белыя плямы” літаратурнай гісторыі. Напор быў такі магутны, што цэнзура не паспявала затыкаць прабоіны ў днішчы афіцыйнай гістарыяграфіі: жывое жыццё заўсёды было найпершым ворагам усялякіх догмаў, і нават чыста тэксталагічныя, крыніцазнаўчыя праблемы дазвалялі даследчыкам выявіць волю да супраціўлення. Адзін толькі пералік імёнаў пісьменнікаў ХХ стагоддзя, пра якіх пісаў Д. Бугаёў, выразна сведчыў не толькі пра шырыню яго творчых інтарэсаў, але і пра яго палітычную пазіцыю. А гэта У. Дубоўка, М. Гарэцкі, П. Галавач, Б. Мікуліч, В. Каваль — ці не самыя “непрахадныя” імёны ў 60—70-я гады! І гэта былі не проста водгукі, а грунтоўныя навуковыя даследаванні, цэлыя манаграфіі, у якіх уздымаўся вялікі пласт паўзабытых і неасвоеных літаратурных эпох. Па літаратуразнаўчых працах Дзмітрыя Бугаёва можна вывучаць гісторыю беларускай літаратуры ХХ стагоддзя.



*Злева направа: Алег Лойка, Алена Руцкая, Дзмітрый Бугаёў. 1987 г.*

У літаратурным працэсе 20-х гадоў Д. Бугаёў шукаў вытокі пазнейшых з’яў і праблем, і ў гэтым ён ішоў паралельна з пошукамі І. Мележа, М. Лобана, В. Быкава, А. Адамовіча, І. Чыгрынава, М. Стральцова, А. Вярцінскага, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна. Палеміка для яго — норма творчага жыцця, а спрэчнасць крытычнага меркавання не нагода да падазрэння, а першая прыкмета здаровай маральнай атмасферы ў грамадстве. Адсюль павышаная цікаўнасць Д. Бугаёва да творчасці К. Крапівы, В. Быкава, А. Адамовіча, І. Чыгрынава, В. Казько, якая дае прастор для яго таленту палеміста і парадаксаліста. Дзмітрыя Бугаёва захапляе здольнасць мастацкага таленту адкрываць новае ў сучаснасці і ў гісторыі, сцвярджаць, векавыя каштоўнасці, здольнасць асобна ўзятага чалавека трываць у напоры разнанакіраваных плыняў. Яго захапляе само жыццё як неўтаймоўны працэс змен і паступовага раскрыцця загадак чалавека і часу. Тады эстэтыка саступае месца этыцы, што ўвогуле характэрна для “дзяцей ХХ з’езда”, якія ўвабралі ў сябе галоўныя ідэі эпохі, калі пачыналі сваю крытычную дзейнасць: асоба і грамадства, нацыянальнае і агульначалавечае, маральнае і амаральнае. Пакаленне Бугаёва добра засвоіла базавыя ісціны: чалавек толькі тады ўпаўне чалавек, калі ён — грамадзянін; талент, пазбаўлены маралі, ператварае яго носьбіта ў нягодніка; шлях да агульначалавечага ідзе праз нацыянальнае. Урокі рэвалюцыйна-дэмакратычнай і “нашаніўскай” крытыкі з яе імкненнем вывяраць літаратуру жыццём, выкарыстоўваць літаратуру як павелічальнае шкло рэальных працэсаў і праблем не былі марнымі, а на той час і дастатковымі, каб выканаць сваё прызначэнне.

Напрацаваная на працягу чатырох дзесяцігоддзяў творчай дзейнасці літаратуразнаўчая тэхналогія плённая і ў новых акалічнасцях, аб чым выразна сведчаць апошнія публікацыі Дзмітрыя Бугаёва “Дасягнутае і страчанае”, дзе падрабязна разглядаюцца жанрава-стылёвыя тэндэнцыі ў сатырычнай прозе 20—30-х гадоў, у прыватнасці, творчасць Ц. Гартнага, А. Мрыя, Я. Нёманскага, “Горкі роздум мастака”, прысвечаны творчасці В. Казько, у якой крытык убачыў абвяржэнне модных папрокаў беларускім літаратарам у правінцыйнасці, імітацыйнасці, разгубленасці перад аблічам небывалых праблем. Магчыма, у гэтых і іншых публікацыях апошняга часу і зашмат публіцыстычнасці, а паралельна і брак аналізу мастацкай тканіны твораў, і пэўныя перахлёсты ў ацэнках, але гэта ўжо праявы вядомага прынцыпу: недахопы з’яўляюцца працягам пераваг. Той, хто ўдзельнічае ў бойцы, а не назірае збоку, заўсёды навідавоку. Дзмітрый Якаўлевіч Бугаёў, нягледзячы на шаноўны ўзрост і перажытыя нервовыя стрэсы, неспрыяльную палітычную і эканамічную кан’юнктуру, па-ранейшаму прыкметная постаць у нашай літаратурнай крытыцы, навуцы, педагогіцы. Маладое пакаленне, якое знаёміцца з літаратурай ХХ стагоддзя па раздзелах падручнікаў для сярэдняй школы і ВНУ рэспублікі, напісаных Д. Бугаёвым, панясе ў сваіх душах у новае тысячагоддзе адбітак яго працы, роздуму і клопату. Так крытык становіцца творцаю новага жыцця. А гэтага ўжо дастаткова, каб адчуваць сябе ўпэўнена перад судом мудрай гісторыі.

**Міхась ТЫЧЫНА**

*Фота Уладзіміра КРУКА*

УГОДКІ

# Мог бы з намі быць

## ДА 80-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Васіля ХОМЧАНКІ

Калі чалавека добра ведаў, меў магчымасць неаднойчы сустракацца з ім, з яго адсутнасцю не можаш змірыцца. Такое адчуванне і ў дачыненні да Васіля Фёдаравіча. Хоць з часу яго смерці мінулася шэсць гадоў (не стала А. Хомчанкі 4 лістапада 1992 года), а, здаецца, яшчэ і не было той сумнай весткі: памёр, нечакана... У яе не верылася, бо літаральна за некалькі дзён да таго бачыў Васіля Фёдаравіча ў выдавецтве “Полымя”. Паздароўкаліся ля касы, і ён тут жа падпісаў сваю новую кнігу. Хоць, па праўдзе кажучы, твар у яго тады быў нейкі хваравіты. Але на гэта не звярнуў увагі. А калі б і звярнуў?..

Жыццё В. Хомчанку не песціла. Урэшце, як і многіх з яго пакалення. Хоць расказваць пра гэта (акрамя хіба найбольш блізкім людзям) ён не любіў. Ды і аўтабіяграфіі таксама абмежаваўся пра складаныя варункі толькі некалькімі сказамі. Праўду адкрыў тады, калі паверыў у працэсы дэмакратызацыі ў жыцці грамадства, упэўніўся, што тыя страшныя часы больш не вернуцца. Ва ўсякім разе, не павінны вярнуцца.

А што такое беззаконне, адчуў, як кажуць, на ўласнай скуры. 5 красавіка 1937 года, маючы за плячыма ўсяго васемнаццаць гадоў, быў арыштаваны. А пасля высылка — тэрмін адбываў на Далёкім Усходзе у Ніжнеамурскім лагеры. На шчасце, потым паперы, што быў асуджаны, згубіліся, таму, адваяваўшы ў вайну камандзірам мінамётнага ўзвода, скончыў Буйскае пяхотнае вучылішча, пазней — Ваенна-юрыдычную акадэмію. У арміі служыў да 1968 года.

Пасля звальнення пачаўся новы паваротак у біяграфіі, змог стала заняцца літаратурай. Праўда, з вершамі выступіў яшчэ ў 30-ыя гады. Друкаваўся ў газеце “Піянер Беларусі” ў часопісе “Іскры Ільіча”. Будучы чалавекам ваенным, паспеў выдаць кнігі на рускай мове — “Куда исчез гриб”, “Жаворонки”, “Рассказы”, што выйшлі ў горадзе Уладзіміры (Расія). Некалькі пабачыла свет у Мінску — таксама адрасаваных дзецям. Аднак па-сапраўднаму пісьменніцкі талент В. Хомчанкі раскрыўся менавіта ў гады, калі ён стаў цывільным чалавекам, з 1972 па 1985 год загадваў у выдавецтве “Мастацкая літаратура” рэдакцыяй прозы.

Па-ранейшаму пісаў і для дзяцей. Але ўсё ўпэўненей адчуваў сябе ў прозе “дарослай”. Гэта відаць і па рамане “Вяртанне ў агонь”, і па шэрагу аповесцяў, сярод якіх прыкметна вылучаецца “Пры апазнанні — затрымаць”, герой якой — класік беларускай літаратуры Францішак Багушэвіч. У гэтым творы, як і ў многіх іншых, В. Хомчанка, застаючыся тонкім псіхолагам у спасціжэнні характараў, адначасова ўмела будуе сюжэт, прыгодніцкія элементы спрыяюць актывізацыі чытацкай цікаўнасці да таго, што адбываецца.



Плённа працаваў Васіль Фёдаравіч і ў галіне публіцыстыкі — той, што з’явілася на хвалі дэмакратызацыі. І, вядома ж, звяртаўся да гадоў сталінізму, беззаконня. Нярэдка выступаў першаадкрывальнікам. У прыватнасці, у адным з артыкулаў расказаў пра тое, што ў раёне цяперашняга парку імя Чэлюскінцаў у Мінску праводзіліся гэткія ж расстрэлы, як і ў сумнавядомых Курапатах. На жаль, матэрыял, набраны ў “ЛіМе”, так і не пабачыў свет. Рэдактуры давялося яго зняць па ўказанні зверху: хоць ранейшай цэнзуры ўжо не было, адміністрацыйныя метады яшчэ спрацоўвалі.

Ён мог бы быць яшчэ з намі. Аднак перажытае не праходзіць бясследна. Сэрца не вытрымлівае празмерных нервовых перагрузак. Не вытрымала яно і ў В. Хомчанкі, спынілася раптоўна.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*На здымку: Васіль ХОМЧАНКА (справа) з Янкам Брылём. 1987 г.*

*Фота Уладзіміра КРУКА*





## *Прыехала каляда ў вазочку...*

**Іскрыста, агніста, бадзёра, з задзёрам прайшлі традыцыйныя "Беларускія каляды" на геаграфічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Вясёлыя, усё больш жартоўныя песні гучалі з вуснаў вялікага гурта студэнтаў першага і другога курсаў.**

**Так павялося ўжо, што кафедра беларусазнаўства БДУ заканчвае чытанне курсаў беларускамоўнага цыкла святкаваннем народных абрадаў, звычаяў, свят. Каторы год на геафаку выкладае беларускую мову, літаратуру і беларусазнаўства кандыдат філалагічных навук Людміла Хрышчановіч. Яна здолела аб'яднаць, зацікавіць, навучыць і арганізаваць студэнтаў на добрую справу. Зрэшты, сёння студэнты і самі свядома ідуць да вытокаў народнага духу, адная́ўляюць і культывуюць традыцыі, абрады, звычаі.**

**Суцэльным, жывым, бурлівым каскадам песень, жартаў, скокаў абрынуліся гульні-забавы студэнтаў на ўсіх прысутных, у тым ліку прафесараў і дацэнтаў, якія прыйшлі падзяліць свята са сваімі студэнтамі.**

**У хату да гаспадара і гаспадыні заходзяць калядоўшчыкі, суседзі, госці блізкія і далёкія... Дзеці цягаюць-выцягваюць сянінку за сянінкай з-пад абруса, які разаслаў бацька перад святочнай вячэрай, а на стале — касцёр аладачак, бульба, сала, агуркі, селядзец, каўбаса, мяса, капуста, недзе 12, 18, а то і ўсе 34 стравы, як даўней... Былі тут і "Жаніцьба Цярэшкі", і цыганы, і каза, якая дзе капне рогам, там жыта стогам, а дзе кране нагою, там жыта капою...**

**Было на свяце і шмат павучальнага, "чыстай" тэорыі, паводле якой прысутныя даведваліся, што каляды — гэта старажытнае беларускае свята яшчэ дахрысціянскай пары, свята зімовага сонцазвароту, калі сонца паварочвала зноў на лета, а зіма — на мароз. Па сутнасці, гэта было свята ў гонар зімовага бога сонца Каляды. Паходжанне самой назвы вучоныя тлумачылі па-рознаму. Вучоныя тлумачылі, а студэнты весела пераказвалі: можа, ад слова "кола", а можа, ад лацінскага слова "Calendae", якім у старажытнасці называлі першы дзень кожнага месяца. Для простага люду калядныя святкаванні заўсёды былі жаданымі і радаснымі; пасля доўгага посту можна было ўволю наесціся і павесяліцца.**

**На студэнцкім свяце ззяла і батлеемаўская зорка, было знаёмства з народным тэатрам "Батлейка", гучалі загадкі, прыпеўкі, народныя песні і, вядома ж, вось гэта: "Добры вечар — шчодры вечар".**

**А ўжо калі да студэнтаў далучыліся прафесары і дацэнты, калі ў залу ўвайшоў народны хор выкладчыкаў і супрацоўнікаў "Родніца", дык беларуская песня загучала велічна, глыбокапрафесійна, урачыста. "Родніца" — нязменны ўдзельнік многіх студэнцкіх свят у БДУ. Студэнты любяць народны хор выкладчыкаў і супрацоўнікаў.**

**Карацей кажучы, нараджаюцца (ці адраджаюцца) добрыя і слаўныя традыцыі. Ладзяцца на факультэце не толькі Каляды, але і святы "Гуканне вясны", "Юр'я", "Купалле"...**

**Паслухаем... Прыехала "Каляда ў вазочку, ды на сівенькім канёчку, прыехала каляда ўвечары..." Калядная песня, гучы весялей, у зімовую сцюжу душу людскую сагрэй! Эй, далучайцеся да калядных гасцей! Каб усе мы разам сталі дабрэй! Ды сэрцам чысцей! Каб працаваць нам было ахватней! Каб на маладых гледзячы (як малад, дык і дораг), кожны стаў прыгажэй! Ад універсітэцкіх студэнтаў — культурней! Каб увесь наш народ беларускі стаў багацей! Яшчэ шчаслівей! З матчынай песняй.**

**Нездарма ж кажуць, што Каляда кужаль прала, клубочкі звівала... Доўгімі каляднымі вечарамі маці спявала песню над калыскай свайго сына-немаўляці. А каб заняць рукі, прала кужаль. Кужэльная нітка навівалася на верацяно, а матчына песня "навівалася" на сэрца сына. З той пары сын размотвае са свайго сэрца нітку матчынай песні.**

**Няхай ніколі не рвецца гэтая нітка песні!**

**Уладзімір НАВУМОВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук, дацэнт, член Саюза беларускіх пісьменнікаў**

ПОСТАЦІ

# У пошуках новых берагоў

НЕФІГУРАТЫЎНЫЯ ЭСЭ ПРА Анатоля КУЗНЯЦОВА

### Цвёрды курс

Няроўны, хваравіты пульс рубля мала каго ўпэўнівае ў магчымасці фінансавага здароўя. Банк губляе напускную пыху гаранта, водгукі панікі расхіствающь прасторы казённых інтэр'ераў... Жыватворная сіла абстракцыі ўліваецца ў халоднае цела некалі магутнага арганізма і застаецца адзіным, што прымушае яго існаваць. Буйнамаштабныя палотны Анатоля Кузняцова ў будыніне аднаго са сталічных банкаў — як музыка карабельнага квартэта на "Тытаніку", што паволі ідзе на дно. Толькі не прыходзіцца спадзявацца, што капітан звернецца да творцы з легендарным: "Дзякуй, Вы да канца выканалі свой абавязак".

Безліч разоў высмеяны тэзіс пра тое, што прыгажосць выратуе свет, упарта вяртаецца ў каламутную плынь думак, рэцэптаў, дэкларацый. Зноў публіка, занятая сур'ёзнымі справамі, кпіць з гуманітарыяў, інфантыльных, непрактычных, эгацэнтрычных. Стваральнікі "надбудовы" з іхнімі "духоўнасцю, белмовай, нацтоеснасцю" раздражняюць практычных грамадзян, што, як полк Андрэя Балконскага, гераічна і бессэнсоўна стаяць у чэргах. А сапраўдная мастацтва застаецца адзінай у Беларусі каштоўнасцю, якая не зазнае дэвальвацыі.

### Маналог фрагмента

Я хачу быць кропкай на палатне Кузняцова. Вось гэтай, светла-шэрай, з няроўнымі краямі, у "Кампазіцыі-87" 1995 года. А інакш, што застанецца пасля фізічнага фіналу: грузавік макулатуры, нямодныя вопратка і мэбля, прыватызаваная аднапакаёўка?.. Быць фрагментам абстракцыі — гэта бессмяротнасць! Маю ролю ў кампазіцыі аналізавалі б эстэты, зрокавы кантакт са мною хваляваў бы юных каларыстак, я служыў бы вечным дакорам недабітым прыхільнікам сацыялістычнага рэалізму і партыйнасці. Мае кракелюры рэстаўравалі б прадстаўнікі класічнай школы Чысціка...

Як лёгка дыхаецца сярод светлых рысак па шэрым і чорных па светлым! Агрэсіўная змрочная пляма праліваецца дробнымі кляксамі — гэта асколкі нашай начы. Снежны дзень вялікага квадрата рассыпаецца-растварваецца пад сустрэчнымі плынямі золку і прыцемак. Усе разам мы — цэлы свет, які абвясціў сваю незалежнасць у межах змайстраваных Кузняцовым рамак.

### Сцэнапіс

У магілёўскім музеі Бялыніцкага-Бірулі адзін з цэнтральных экспанатаў — палітра мастака з крута замешанымі фарбамі. У іх

# Дыялог
## пісьменнікаў з прэзідэнтам краіны: погляд збоку

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

будзе пераважаць рускі элемент, такая беларуская нацыянальная ідэя не мае права называцца беларускай, бо яна не забяспечыць беларусам умоў для прыстойнага духоўнага жыцця, наадварот, будзе толькі садзейнічаць іх канчатковай русіфікацыі. Калі гэтага не жадаюць нашыя дзяржаўныя дзеячы і блізкія да іх інтэлектуалы, дык ім трэба неадкладна карэнным чынам змяніць свае падыходы і поглядзы на культурна-моўнае становішча ў краіне. Яно бесперспектыўнае, безнадзейнае для яе карэннага насельніцтва. Пры вырашэнні гэтай архіскладанай і надзвычай актуальнай праблемы ні ў якім выпадку нельга зацыклівацца на майскім рэферэндуме 1995 г. Ужо ў некалькіх пакаленнях пазбаўленыя магчымасці нармальна развівацца паводле сваіх нацыянальных культурна-моўных традыцый людзі проста не ў стане былі знайсці правільнае вырашэнне моўнай праблемы. Яны памыліліся, як гэта ўжо не раз здаралася з многімі народамі свету. Да таго ж і дзяржава нават пальцам не паварушыла дзеля дасягнення роўнасці паміж рускай і беларускай мовамі ў абслугоўванні грамадскага жыцця. А дзеля ж гэтага клікалі народ на рэферэндум! Выходзіць, падманулі. Палітыкам варта задумацца: а можа, сама ідэя моўнай роўнасці ў варунках нашага краю — гэта блеф, фантазія? Я, напрыклад, з гэтым цалкам згодны, бо ні ў адной унітарнай нацыянальнай краіне няма дзвюх дзяржаўных моў, ды яшчэ роўных.

Што ж рабіць дзяржаве, апынуўшыся ў такім моўным тупіку? Патрэбен зварот да народа Беларусі, у якім з усёй паўнатой былі б паказаны прычыны яго нечуванай культурна-моўнай асіміляцыі і вызначаны шляхі пераадолення апошняй, раскрыта значэнне роднага слова для выратавання ад этнічнага вымірання. Беларускі народ павінен пачуць ад сваёй улады, што галоўнымі віноўнікамі яго асіміляцыі з'яўляюцца дзяржаўныя ўлады, чыноўнікі, духавенства Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі, камуністычныя ідэалагічныя службы. Праблем з нацыянальна-культурным адраджэннем не будзе, калі па ініцыятыве дзяржавы рускамоўныя дзіцячыя сады, агульнаадукацыйныя школы, гімназіі, каледжы, ліцэі, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, тэхнікумы, інстытуты, універсітэты будуць рэфармавацца ў беларускамоўныя. А рабіць гэта крайне неабходна і без прамаруджвання, бо яшчэ ніводнаму народу не ўдалося — і не ўдасца — захаваць нацыянальна-самасвядомых, здольных да плённай працы на роднай духоўнай ніве пакаленні, калі яны ўзгадаваны не на сваіх прыродных культурна-моўных традыцыях. Актывізацыі нацыянальнага жыцця моцна паспрыяе, калі такія традыцыі запануюць у дзейнасці ўсіх устаноў культуры і навукі, калі беларуская мова ў ролі гаспадыні прыйдзе ў высокія ўрадавыя залы і кабінеты, у рэдакцыі газет і часопісаў, афіцыйныя электронныя сродкі масавай інфармацыі, у візуальнае афармленне населеных пунктаў і на наклейкі прамысловых і харчовых тавараў. Трэба зрабіць так, каб на кожным кроку адчувалася, што тут — Беларусь, а не якая-небудзь іншая краіна.

Дамагчыся прызнання беларускасці ў першую чаргу павінна дзяржава. А яна ж — ці то не хоча, ці не можа. Выступае нават супраць стварэння беларускамоўнай вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы. Паверце, каб дзяржава пачала яе сур'ёзна закладваць, адпала б усялякая патрэба прымаць спецыяльны закон у абарону беларускай мовы. Дарэчы, наконт прыняцця такога закона пісьменнікі не атрымалі згоды ад прэзідэнта краіны. Тады давайце іншымі шляхамі павялічваць аб'ём сацыяльных функцый беларускай мовы, бо пры сённяшніх маштабах выкарыстання апошняй у грамадскім жыцці яна не стане гаспадыняй у роднай хаце.

І яшчэ пра вынікі рэферэндуму 1995 г. На яго трэба глядзець як на заказ народа сваёй дзяржаве праводзіць палітыку свядомага, мэтанакіраванага рэгулявання моўнымі працэсамі. Гэта пацвярджаецца і сказанымі А. Лукашэнкам перад пісьменнікамі словамі: "...ні адзін рэферэндум у Беларусі не праходзіў з падтэкстам зневагі беларускай мовы. Размова ішла аб рускай мове, аб яе роўнасці з беларускай. Я ініцыяваў гэты рэферэндум" (падкрэслена мною. —**Л. Л.**). Значыцца, ёсць з каго спытаць: з дзяржавы, яе першай асобы.

Што ні кажыце, а сваім стаўленнем да рэферэндуму 1995 г. народ узваліў страшэнна цяжкую ношку на дзяржаву: ураўняць рускую мову з беларускай. Каб лепш уявіць, што гэта ношка і сапраўды не з лёгкіх, рэкамендаваў бы чытачу прыгадаць, якой незапатрабаванай на той час была беларуская мова і, значыцца, да такога ж сірочага сацыяльнага статуса плебісцыт абавязваў дзяржаву давесці і рускую мову з яе непамерна велізарным аб'ёмам афіцыйных функцый. Відаць, і ініцыятары рэферэндуму, і іх прыхільнікі спасавалі перад цяжкасцямі і нічога не зрабілі і не робяць па абмежаванні ў нашай краіне сацыяльнай ролі рускай мовы, каб хоць трохі падраўняць яе з беларускай мовай.

Горш таго, беларускую мову яны істотна пацяснілі, асабліва ў сферы адукацыі, у дзейнасці дзяржаўных органаў улады і кіравання, сродках масавай інфармацыі, візуальным афармленні гарадоў, у выніку чаго фактычны статус рускай мовы як дзяржаўнай яшчэ больш вырас у параўнанні з беларускай, і замест паабяцанага даверлівому, памяркоўнаму народу збліжэння ў аб'ёмах афіцыйнага выкарыстання гэтых дзвюх моваў адбылося павелічэнне іх няроўнасці. Ужо на першым годзе пасля рэферэндуму высветлілася, што ніводны дзяржаўны орган спецыяльна не займаецца правядзеннем у практыку яго вынікаў. Шкада, што прычыну такога ігнаравання самой жа дзяржавай вынікаў рэферэндуму ніхто з пісьменнікаў не пажадаў высветліць у прэзідэнта краіны. З алімпійскім спакоем яны пагадзіліся, што да рэферэндуму у нас яўна на карысць беларускай мовы перагіналі палку (можна падумаць, што ўсе інстытуты і універсітэты, газеты і часопісы перавялі з рускай мовы на беларускую ці яшчэ дзе-небудзь істотна пашырылі сферу ўжывання апошняй), што быццам бы па віне БНФ беларуская нацыя раскалолася паводле моўнай прыкметы (на справе ж наш народ раскалолі палітыкай паланізацыі і русіфікацыі, збліжэння і зліцця культур і моў савецкіх нацый).

Гэта вельмі добра, што ў час дыялога з пісьменнікамі ўзнята крайне небяспечная для нас праблема расколу беларускай нацыі. Хочацца верце, хочацца не, але пакуль наш народ будзе заставацца двухмоўным, датуль ён будзе расколаты... Каб двухмоўе і сапраўды было дзейным фактарам духоўнага росквіту народаў, усе яны даўно б, акрамя роднай мовы, зрабілі б дзяржаўнай і яшчэ якую-небудзь. А так, бачыце, дзяржаўнае двухмоўе культывуюць толькі сярод беларусаў. Праўда, ад яго яшчэ да канца не адышлі народы, што 30—50 гадоў таму скінулі з сябе ярмо каланіяльнай залежнасці. Нас жа, мабыць, у такім ярме ніхто ўжо сёння не трымае?

У ходзе дыялога з пісьменнікамі выявіліся дыяметральна процілеглыя падыходы да вяртання беларускай мовы на яе законны пасад. Прэзідэнт цалкам адхіліў форму дэкрэта, правільна заявіўшы, што такім шляхам "нікога не прымусіш размаўляць на той ці іншай мове". Размаўляць не прымусіш у міжасобасных зносінах, а вось што датычыць афіцыйных выступленняў у парламенце Рэспублікі Беларусь, у сродках масавай інфармацыі і ў іншых месцах з мэтай падняцця аўтарытэту роднай мовы тытульнага народа, не грэх спецыяльным дэкрэтам і патрабаваць ад пэўных катэгорыяў палітыкаў, службоўцаў валодання ёю. А то што ж атрымліваецца апошнімі гадамі: са ста публічных выступленняў дзяржаўных чыноўнікаў добра, калі адно-два пачуеш па-беларуску, а гэта ўжо — моўная дыскрымінацыя беларусаў.

А цяпер — колькі слоў пра дэкрэты. Без іх нам не абысціся, улічваючы высокую ступень рускай культурна-моўнай асіміляцыі беларускага народа, наяўнасць вялікай колькасці адкрытых і патаемных праціўнікаў яго нацыянальнага адраджэння. Без дзяржаўнага дэкрэта, упэўнены, у нас не народзіцца ніводнай беларускамоўнай сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай навучальнай установы, ніводнай гарадской сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. Нельга не здзіўляцца нейкай дзікай несправядлівасці ў дачыненні да беларускай мовы: польскую і рускую мовы ўводзілі на нашай зямлі дэкрэтамі і з дапамогай бізуна, а сваю, беларускую, умо які год рэкамендуюць пашыраць толькі з ініцыятывы ледзь не цалкам асіміляванага народа ды яшчэ пры амаль поўным выключэнні яго мовы з усіх важнейшых участкаў дзяржаўнага і грамадскага жыцця. Не магу наперад загадваць, што адбудзецца на працягу аднаго-двух гадоў пасля слоў А. Лукашэнкі: "Трэба спакойна працаваць на карысць беларускай культуры і мовы". Але, не сумняваюся, калі дзяржава будзе так "спакойна

назаўсёды засталіся нерэалізаваныя рачулкі, вёсны, цэркаўкі, снягі, восені, пяшчоты сонца. У беспрадметнага Кузняцова палітра нейкая нязграбная. Афармляючы мемарыяльную экспазіцыю, будучыя кузняцовазнаўцы яе не выкінуць, але напэўна схаваюць у запаснік. Наведвальнікам пра мастака будзе расказваць сцяна. Цяпер жа працінае ўражанне, што аўтар час ад часу прыпірае палотны да сценкі і азартна закідвае пэндзлямі, абмакнутымі ў немузейнай палітры. Палова трапляе "ў малако", толькі пырскі лятуць. Няма на Вас, маэстра, таварыша Хрушчова.

Стыхійны жывапіс заходняй сцяны застанецца для ўсіх загадкай. Я ведаю разгадку, але нікому не скажу.

## Муза

Ці шмат музычных опусаў, натхнёных творамі жывапісу? Адразу ўспамінаюцца толькі "Карцінкі з выставы" І. Стравінскага. А вось зваротная сувязь непараўнальна больш плённая. Анатоль прызнаецца, што малюе пад фанаграму. Так узніклі "Поліфанія" і "Прысвячэнне Кшыштафу Пендэрэцкаму", агромністыя кампазіцыі, якія просяцца па-за абсягі станкавога жывапісу. Але штодзённыя гамы мастак пачынае ўсё ж з невялікіх палотнаў, дзе "распісваецца". І толькі пазней вяртаецца да свайго волата "паўтара на шэсць метраў".

Што ж, усё адэкватна. Для непасвечанага гэткі жывапіс такі ж непрымальны, як музыка Пендэрэцкага з яе вострым піскам скрыпак. Пытаюся ў Анатоля, ці не валяецца ён па палатне, як Джэксан Полак, кароль action painting? Не, кажа, яму няма патрэбы.

Муза прыходзіць да яго, трымаючы ў руках залатую ліру. Яе мелас незразумелы і нячутны нікому, толькі пэндзаль паслухмяна пакідае на палатне шматколерныя нотныя радкі. Яна не цураецца постаці ў старэнькім швэдры і з ускудлачанай барадой. Муза вітае мастака. Так німфы і царскія дочкі туліліся да Адысея на ягоным поўным прыгод шляху на радзіму.

Жыццёваму плаванню Анатоля Кузняцова ўжо пяцьдзесят адзін год. Калумбавы адкрыцці ў беларускім жывапісе для яго зрабілі Віталь Цвірка і позні Альгерд Малішэўскі. Ён ужо знайшоў свой востраў скарбаў, але нястомна шукае новыя берагі.

**Валеры БУЙВАЛ**

працаваць", як яна працавала да сённяшняга дня, перамены да лепшага не адбудуцца ў нацыянальным жыцці беларусаў. Відаць, дзесьці, асабліва ў адукацыі, трэба і паспяшацца, бачачы, як гніюць падваліны, валяцца сцены і дах беларускага нацыянальнага дома, як на нашай зямлі вольна пачуваюць сябе не нашы духоўныя каштоўнасці.

З улікам рэальнай моўнай сітуацыі аніяк не магу пагадзіцца са словамі прэзідэнта: "Давайце перастанем гаварыць пра беларускую мову, што яе "трэба паднімаць" (а чаму і не: у гарадах — аніводнай беларускай агульнаадукацыйнай школы, на ўсю рэспубліку — аніводнага беларускага тэхнікума, інстытута, універсітэта! — **Л. Л.**)... Мову не трэба паднімаць (значыць, усё ў ажуры! — **Л. Л.**). Мова жыла (ужо тры стагоддзі пакутуе. — **Л. Л.**) і будзе жыць, якія б улады ні былі. І нікому непадуладна знішчыць мову".

Такімі аптымістычнымі заявамі цешаць беларусаў многія палітыкі і блізкія ім інтэлектуалы, чым толькі перашкаджаюць людзям правільна зразумець сапраўдны трагічны стан беларускай мовы і штосьці тэрміновае рабіць, каб выбавіць яе з багны. Па радыё не раз даводзілася чуць ад тых, хто не валодае беларускаю моваю, вялікую пахвальбу на адрас беларускага народа: маўляў, перанёс страшэнны нацыянальны прыгнёт, але захаваў, валодае родным словам. Пра цяперашніх беларусаў ужо такога не скажаш. Прыслухайцеся, як яны размаўляюць між сабой у грамадскіх месцах, на службе, і ўсё адразу стане зразумелым. Партыйныя і савецкія органы, аддзелы народнай адукацыі не для таго ў першыя пасляваенныя гады стваралі рускамоўную вышэйшую і сярэднюю спецыяльную школу, а з другой паловы 50-х гадоў вызвалялі дзяцей у школах ад вывучэння беларускай мовы, пераводзілі беларускія агульнаадукацыйныя школы ў рускія, каб беларусы на зыходзе XX стагоддзя захавалі, ведалі родную мову. Уся гэтая рэканструкцыя сістэмы адукацыі мела зусім працілеглыя мэты. І яны "паспяхова" дасягнуты.

З майго ўласнага аналізу выступленняў па радыё сённяшніх артыстаў беларускіх драматычных тэатраў вынікае, што з дзесяці пачутых асоб толькі адзін-два гаварылі па-беларуску. Здаралася такое, што радыёжурналіст на працягу 3—5 хвілін узнёсла апавядае (зразумела, па-беларуску) пра жыццёвы і творчы шлях артыста-юбіляра, пра яго велізарны ўклад у нацыянальнае тэатральнае мастацтва, а затым у эфір нясуцца на рускай мове словы запрошанага на студыю знакамітага госця. Вось так, прапагандуем па радыё артыста беларускіх драматычных тэатраў як выдатнага дзеяча нацыянальнай культуры, а ён, бедалага, за 30—40 гадоў прафесійнага жыцця на сцэне нават не навучыўся вольна, без паперкі гаварыць на сваёй рабочай мове!

Зусім не на карысць нашых інтарэсаў складваюцца суадносіны паміж беларускй і рускай мовамі, калі праходзяць канферэнцыі вучоных-грамадазнаўцаў, вучоных і практыкаў сістэмы народнай адукацыі. Што ўжо тады гаварыць пра такія моўныя суадносіны, калі збіраюцца пагаварыць палітыкі, вытворцы. Дапускаю, што хтосьці з іх наўмысна не гаворыць па-беларуску, каб не наклікаць на сябе гнеў з боку высокіх, у абсалютнай большасці рускамоўных дзяржаўных асоб (ад іх жа не ў малой ступені залежыць рост па службовай лесвіцы), якія так паслядоўна і напорыста праводзяць апошнімі гадамі курс на забеспячэнне ў краіне прэстыжнасці рускай мове, бачачы ў ёй дзейны сродак сцірання нацыянальна-культурных адрозненняў паміж беларускім і рускім народамі, разглядаючы гэта як найважнейшую ўмову для ўсебаковай і цеснай інтэграцыі Беларусі і Расіі. Але ўсё ж, лічу, галоўная прычына, што многія палітыкі, прадстаўнікі творчай, навуковай, педагагічнай, вытворча-тэхнічнай інтэлігенцыі ў афіцыйным жыцці не карыстаюцца беларускай мовай — гэта невалоданне апошняй, якая, на вялікі жаль, і па сённяшні дзень застаецца незапатрабаванай практыкай. У такой сітуацыі беларуская мова не мае ніякіх шанцаў на выжыванне. Наш беларускамоўны човен (сказаць карабель тут ужо не выпадае) няўмольна ідзе на дно. Таму не магу пагадзіцца са словамі першай дзяржаўнай асобы, што нашу "мову не трэба паднімаць". Трэба! Бо калі нічога не будзем рабіць, дык новы прэзідэнт краіны з поўнай падставай заявіць: "Дарагія грамадзяне! Беларуская мова знаходзіцца ў такім страшэнным заняпадзе, што яе цяжэй вярнуць да жыцця, чым з дапамогай крапельніцы паставіць на ногі нябожчыка пасля трох гадзін клінічнай смерці". І бедным беларускім адраджэнцам нічога не застанецца рабіць, як моўчкі згадзіцца з пачутым тлумачэннем.

Як неабыякавы да лёсу Бацькаўшчыны, патрабую, заклікаю дзяржаўныя ўлады да неадкладнага ратавання самага дарагога, што ёсць у нашага народа, у айчыннай гісторыі, — беларускай мовы. Дазволю сабе паўтарыцца: пачынайце гэта з адукацыі. Яна намнога мацней за той варыянт, што прапанаваў пісьменнікам А. Лукашэнка: "Хочаце, каб мова беларуская працвітала... пакладзіце на стол прэзідэнта 10, 20, 30 таленавітых твораў, якія народ чытаў бы захлёбваючыся. Мы іх выдадзім на беларускай мове і пераклад забаронім. Каб толькі па-беларуску чыталі. Вось так трэба яе прапагандаваць!" А ці ж гэтак нам прапагандаваць трэба беларускую мову? Ці ж не лепш было б загрузіць яе па самыя вушы адпаведнымі функцыямі ў дзейнасці дзяржаўнага, адміністрацыйна-гаспадарчага апарату, народнай адукацыі, сродкаў масавай інфармацыі і іншых сфер грамадскага і культурнага жыцця?

І калі дзеля такой загрузкі беларускай мовы сацыяльнымі функцыямі патрэбен ад дзяржавы дэкрэт, яго трэба прымаць. Пакуль будзе існаваць дзяржава, датуль яна будзе прымаць розныя нарматыўныя акты ў форме дэкрэтаў, не выключаючы і галіны моўнай палітыкі.

Было б вялікай памылкай думаць, што такім дэкрэтам будзем падтрымліваць толькі мову апазіцыйнага дзяржаве Беларускага народнага фронту. Гэта ж мова ўсяго нашага народа, і ёй не дзесяць, а сотні гадоў. БНФ трэба аддаць належнае, што ён першым на пераломным этапе айчыннай гісторыі правільна ацаніў ролю нацыянальнай мовы і павёў змаганне за яе адраджэнне, што зусім не вызваляе і саму дзяржаву ад удзелу ў ратаванні мовы свайго тытульнага народа. Мова — галоўнае багацце ўсяго народа, таму і клопаты пра яе павінны быць агульнанароднымі, дзяржаўнымі.

Я ўзяўся за пяро з прычыны таго, што добра бачу ўсю заганнасць сучаснай дзяржаўнай моўнай палітыкі і хачу ў меру сваіх тэарэтычных ведаў дапамагчы ў выпраўленні крайне небяспечнага становішча ў гэтай сферы нацыянальнага жыцця. Смеласці ў крытыцы тых ці іншых выказванняў А. Лукашэнкі адносна беларускай мовы надалі сказаныя ім перад пісьменнікамі словы: "Дзе трэба, крытыкуйце прэзідэнта на ўсю моц". Грэх было б не выкарыстаць такую магчымасць.

# Навум КІСЛІК



27 снежня 1998 года на 74 годзе жыцця памёр паэт Навум Зіноўевіч Кіслік. Наша літаратура страціла яшчэ аднаго таленавітага творцу, выдатнага майстра слова, мужнага, сціплага і сумленнага чалавека.

Навум Кісліцкі нарадзіўся 26 верасня 1925 года ў г. Маскве. Да Вялікай Айчыннай вайны жыў і вучыўся ў Віцебску, затым працаваў align разнарабочым, дахаўшчыком, матарыстам у Набярэжных Чаўнах (Татарыя). З канца 1942 года — у дзеючай арміі, прымаў удзел у баях радавым салдатам на Бранскім фронце, на Арлоўска-Курскай дузе, быў двойчы паранены. Пасля вайны працаваў рабочым на заводзе ў Арэнбурзе, там жа вучыўся ў педагагічным інстытуце. З 1946 года працягваў вучобу на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў настаўнікам рускай і беларускай мовы і літаратуры ў Дрысенскай сярэдняй школе, літсупрацоўнікам у газеце "Літаратура і мастацтва" (1952—1958). З 1958 года займаўся творчай працай.

Першыя вершы надрукаваў у 1944 годзе ў газеце Паўднёва-ўральскай ваеннай акругі. Пачаткам сталай, сістэматычнай літаратурнай працы стаў 1950 год, калі былі апублікаваны вершы ў альманаху "Советская Отчизна". Пісаў на рускай мове. Выдаў кнігі паэзіі "Разговор с друзьями" (1956), "Поиск" (1959), "Позывные земли" (1961), "Повесть о прессованном порохе" (вершы, паэма, 1964), "Ветви" (1969), "Праздник снегопада" (1972), "Воспоминание о вокзалах" (Масква, 1976), "Сентябрьская река" (1978), "Первоснежье" (1980), "Разные годы" (1984), "Зимний свет" (Масква, 1985). У 1975 і 1985 гадах выходзілі кнігі выбранай паэзіі.

Цяжка перабольшыць заслугі перад беларускай літаратурай Навума Кісліка-перакладчыка. Менавіта дзякуючы яму на рускай мове шырока загучалі творы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, І. Мележа, У. Караткевіча, А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанкі, Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, А. Русецкага і многіх-многіх іншых беларускіх паэтаў і празаікаў. Яго пераклады вызначаліся выключным прафесіяналізмам, бліскучым уменнем перадаць на іншай мове самыя тонкія нюансы беларускага паэтычнага слова. Лепшыя пераклады паэта ўвайшлі ў зборнік "Спелый бор", выдадзены ў 1982 годзе.

Навум Зіноўевіч Кіслік пражыў не вельмі доўгае, але мужнае і прыгожае жыццё. Надзвычай добразычлівы, верны ў сяброўстве, чалавек добрай і светлай, паэтычнай душы — ён быў неабходны людзям. Менавіта такім ён застанецца ў памяці баявых пабрацімаў, таварышаў па пяры, сяброў і паплечнікаў. З намі застаецца яго высокая паэзія.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# Выпрабаваны жыццём і смерцю

Яшчэ колькі дзён таму, седзячы каля ложка сябра і гледзячы ў стомлены, спакутаваны ад хваробы твар, я раптам прыгадаў даўнія вершы яго: "Госпиталя, госпиталя, — обетованная земля" і ўголас прачытаў іх.

Навум злёгку ўсміхнуўся, звыкла ўскінуў на лоб свае акуляры і ціха прамовіў: "Так... Але тады была маладосць..."

Ён абарваў фразу і прыплюшчыў вочы, быццам штосьці засяроджана ўспамінаючы...

Ці мог я думаць, што гэта былі апошнія словы, якія мне ўдалося ад яго пачуць, што там, у шпіталі, усё закончыцца, і так хутка?

Падобна на Аркадзя Куляшова, якога ён любіў і бліскуча перакладаў, Навум Кіслік мог сказаць пра сябе: "Я зведаў, што такое мукі".

Яны пачаліся на Курскай дузе, куды васемнаццацігадовы курсант пяхотнага вучылішча з трохлінейкай-"пукалкай" у руках трапіў проста з вайсковага эшалона і дзе ў галаву яму ўдарыў ірваны асколак нямецкай міны. І пакуты гэтыя прадаўжаліся не толькі "пад крылом медсанбата", на аперацыйных сталах і шпітальных ложках — усё астатняе жыццё.

І ўсё жыццё Навум з рэдкай мужнасцю і самавалоданнем пераадольваў іх — сілаю сваёй волі, свайго рашучага і бескампраміснага характару, свайго яркага і (шчыра скажам) яўна недаацэненага таленту.

Медсанбат на Курскай дузе стаў не толькі месцам яго другога нараджэння. Пад найжорсткім агнём, пры ўспышках ракет, сярод разрываў мін і снарадаў нарадзіўся сапраўдны паэт, які амаль адразу набыў "лица необщее выраженье", які здолеў сказаць пра вайну сваё — неперанятае і прыцэльна дакладнае слова, якое паставіла яго ў шэраг з лепшымі паэтамі франтавога пакалення.

Навум Кіслік, які не трываў наймалога фальшу ні ў жыцці, ні ў паэзіі, нават у гады, калі фанфары і літаўры партыйнай прапаганды разам з барабаншчыкамі-вершатворцамі спрабавалі заглушыць боль і жах народнай трагедыі, быў нязменна верны той "акопнай праўдзе", якую ўласнымі вачамі бачыў на пярэднім краі і якую ўзнавіў у жорсткіх, бескампрамісна-сумленных, эмацыянальна-напружаных вершах. Гэта не пра лірычнага героя — пра сябе гаварыў ён, успамінаючы першы бой:

***Как солнце, что проплыло над штыком,***
***вся жизнь его, что длилась так недолго,***
***прошла, покуда падал он ничком,***
***наткнувшись грудью на полет осколка,***
***в паденье колосок зажав в горсти...***
***И боль была не потому жестока,***
***что не могло ничто его спасти,***
***а что упал у самого истока...***

Кароткі, але невымерна цяжкі франтавы вопыт, "осевший в глубине" і які ўвайшоў у "состав крови" ў спалучэнні з вопытам пасляваенным — па-асабліваму цяжкім і выпрабавальным, — памог Кісліку пашырыць свае паэтычныя далягляды, асэнсаваць да канца эпоху, якая называецца цяпер эпохай таталітарызму, і рашуча адкінуць яе. Будучы ўнутрана свабодным, ён здолеў вырвацца з кола ваенных тэм, хоць вайна і не адпускала яго да апошняга часу. У ягоных вершах пранікнёна загучала высокая публіцыстыка, узніклі філасофскія медытацыі, у іх хлынула лірыка, падсветленая мудрай і выратавальнай самаіроніяй, з'явілася тое паэтычнае чарадзейства, якое сведчыла пра сілу таленту, якая мацнела, пра майстэрства, якое расце. Майстэрства гэтае адчувалася і ў шматлікіх перакладах беларускай паэзіі, якія даўно ўжо прызнаны ўзорнымі.

У адной з апошніх кніг Кісліка — "Лестница лет" — назвы раздзелаў нагадваюць аб драматычных дзесяцігоддзях, перажытых намі, — "Саракавыя—пяцідзесятыя", "Шасцідзесятыя", "Сямідзесятыя", "Васьмідзесятыя"... Гады гэтыя — у тым ліку і апошняе дзесяцігоддзе — былі пражыты паэтам з вострым і неаслабным пачуццём суаднесенасці з хуткаплынным жыццём і імкліва-зменлівым часам, з барацьбой за вызваленне душ і свядомасці людзей ад учэпістых путаў таталітарнай ідэалогіі.

Але, напэўна, асабліва яркімі і творча насычанымі аказаліся для Кісліка шасцідзесятыя, якія супалі з часам росквіту яго незвычайнага таленту.

Так, ён быў і застаўся адным з тых "шасцідзесятнікаў", чыя паэзія свежым і магутным струменем улілася ў плынь абнаўлення і адраджэння, якая павінна была пераўтварыць і карэнным чынам змяніць аблічча нашага грамадства, нашу літаратуру. На вялікі жаль, працэс гэты зацягнуўся на доўгія гады, ды й цяпер далёкі ад завяршэння. Таму такія сучасныя, такія своечасовыя радкі, прысвечаныя Васілю Быкаву, якія цяпер з поўным правам можна лічыць паэтычным запаветам нашага сябра:

***Еще звучат шаги,***
***следы***
***еще не стерты,***
***друзья —***
***да что! —***
***враги***
***и те***
***еще не мертвы.***
***Все не хотят отдать***
***то кочку,***
***то высотку...***
***И ненависть опять***
***берет меня за глотку.***
***И словно бы упрек,***
***я непрестанно помню,***
***что некий свой урок***
***не весь еще исполнил.***
***Вот с этим и живу,***
***а если б вдруг забылся —***
***упал бы я в траву,***
***как стреляная гильза...***

Навум Кіслік выканаў свой урок.
Нам — жыць і выконваць.

**Аляксандр ДРАКАХРУСТ**

УГОДКІ

# Загадкавы Ядвігін Ш.

## ДА 130-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АДНАГО З ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

ХТО БОЛЬШ-МЕНШ заглыбляўся ў жыццёвы і творчы шлях Ядвігіна Ш., той адчуў, колькі яшчэ ў ягоным летапісе загадкавага, таямнічага, часам незразумелага і нечаканага. Прыкладам, "Наша Ніва" пачала выходзіць з верасня 1906 года, а Ядвігін Ш. друкуецца ў ёй толькі з 1909 года. Чаму? Што стрымлівала яго? З чым ён не згаджаўся, з кім не пагаджаўся?

Гэта толькі адзін момант з жыцця пісьменніка. А іх жа можна згадаць дзесяткі. У прыватнасці, не зусім зразумелы водгук Ядвігіна Ш. на Купалаву "Жалейку". Не менш загадкавы і ягоны псеўданім — Ядвігін Ш.

Колькі пра яго мы маем розных версій і гіпотэзаў! Але ні адна з іх не задавальняе. Паводле адной, з'яўленне псеўданіма звязана з захапленнем Антося Лявіцкага якойсь Ядвігай. Некаторыя даследчыкі даводзяць, што гэтае захапленне прыпадае на час вучобы яго ў Марцінкевічавай школцы ў 1876—77 гадах. Але ж было Антосю тады гадкоў сем, не болей.

Яшчэ ў 1976 годзе я звярнуўся з пытаннем пра псеўданім Ядвігіна Ш. да Зоські Верас, якая блізка ведала пісьменніка. Яна адказала так:

"Паважаны Уладзімір Ільіч! Вы ўжо трэці чалавек, які пытаецца аб значэнні псеўдоніма Ядвігін Ш... У Мінску ў 1915—1918 гадах, спатыкаючыся з Ядвігіным часта, не прыйшло ў галаву гэтым пацікавіцца. Пасля перапісвалася з яго дачкой. Таксама гэтая тэма не была закранутая. А цяпер я пыталася ў яго ўнучкі, але ні яна сама, ні яе брат і сястра не помняць, каб маці калі аб гэтым гаварыла... А вось расказвалі мне такую легенду. Быццам бы Антон Лявіцкі, як вучыўся ў школе ў Дуніна-Марцінкевіча, закахаўся ў якуюсь Ядвігу. І казаў: "Я Ядвігін... Ша! (ціха)".

Легенда? Магчыма!

Падставу на такую версію даў сам Ядвігін Ш. сваімі згадкамі пра час жыцця ў Марцінкевічавай Люцінцы. Вось гэтая згадка:

"...Бывае, находзяць думкі — іншы раз — вясёлыя, то і зноў — сумныя, такія дарагія, такія патайныя, што ажно аглядаешся, быццам баішся, каб хто не падслухаў, не падгледзеў, не дагадаўся іх, бо іх ведаць ніхто не павінен — ніхто!"

Гэтыя радкі і далі падставу некаторым даследчыкам, якія блізка ведалі пісьменніка, яшчэ ў трыццатыя гады выказаць меркаванне, што гісторыя псеўданіма звязана з якойсь Ядвігай, з першым каханнем, бо якія ж такія могуць быць у зялёнага яшчэ хлапчука патайныя думкі, каб іх ніхто не падслухаў, не падглядзеў, не здагадаўся, бо іх ведаць ніхто не павінен — ніхто.

А паводле дачкі пісьменніцы Ванды Лявіцкай, — пра гэта яна пісала вядомаму аўтару "Слоўніка беларускіх псеўданімаў" Янку Саламевічу, — такой жанчынай была нейкая Ядвіга Шабуневіч.

Магчыма, і так. Бо вось жа і прозвішча гэтай Ядвігі пачынаецца з літары Ш... Пра гэта мы можам адно толькі гадаць. Адзін толькі Антось Лявіцкі ведаў, каго ён меў на ўвазе, калі выбіраў сабе псеўданім. Ведаў, але нікому не сказаў, не расказаў. Мо і правільна зрабіў! Псеўданім на тое і бярэцца, каб быць таямніцаю. Ды яшчэ такі псеўданім, калі чалавек ахрысціў сябе жаночым імем, выказаў поўную сваю прыналежнасць ёй.

Але ж нічога на свеце не бывае тайным, каб не сталася яўным. Летам 1976 года (а мо семдзесят пятага?), я завітаў у Люцінку з Генадзем Каханоўскім. Паблізу Марцінкевічавай сядзібы тады стаяла старая Радынава хата. Мы з Каханоўскім папрасілі дазволу агледзець яе гарышча. Нейкае чуццё падказвала, што там што-небудзь можа нам патрапіць. І не памыліліся!

Нашай знаходкай былі найперш кнігі. Праўда, не вельмі старыя, а ўсё ж цікавыя — розныя падручнікі, па якіх вучыліся Марцінкевічавы нашчадкі — Плаўскія, дый іншыя, у дваццатыя і трыццатыя гады нашага часу. Кнігі забраў Г. Каханоўскі ў музей. Я таксама пару падручнікаў на нямецкай і французскай мове — на памяць пра сваю пабыўку ў Люцінцы. І вось у адной з гэтых кніжак я натрапіў на даўні ліст, напісаны каліграфічна выразным почыркам, чорным чарнілам, з яцямі ды ерамі ў канцы слоў. Гэты ліст не меў ні пачатку, ні канца. Але ў ім былі такія радкі, якія чамусь нязмушана скіравалі думку на постаць Ядвігіна Ш. Чытайма гэтыя радкі разам:

"Ужасно хочется, чтоб Вы были счастливы в новой жизни и очень рада, что муж Ваш такой славный, хороший человек, ибо Вы стоите хорошего человека. Что же Вы знаете относительно Ш.? Прошу Вас, очень держать в секрете то, что я, бывало, рассказывала Вам во время прогулок по парку. Письма мои, пожалуйста, сейчас же рвите и Боже сохрани **не давайте никому** читать их. Надеюсь, что исполните мою просьбу и не обидитесь на меня за это, так как само собой понятно, что не будь Вы замужем я не стала бы обращаться к Вам с такой просьбой. Еще раз желаю Вам счастья, здоровья..."

З другой паловы ліста (а ён падзелены рымскай лічбай II на дзве часткі) даведваюся, што гэты Ш. працуе — дзе б вы падумалі? — у аптэцы. Як і Ядвігін Ш. Невядомая нам аўтарка марыць патрапіць да яго на працу ў аптэку: "Вот это бы было отлично! Впрочем, — пярэчыць яна сама сабе, — я знаю, что этого никогда не будет, так что не смею и мечтать о подобном "счастии" (называю "счастием", потому что для меня найти на лето место в аптеке — истинный клад)".

Публікуючы гэты ліст, я не збіраюся нічога ні сцвярджаць, ні адмаўляць. Публікую я яго толькі таму, што знойдзены ён у Марцінкевічавай Люцінцы, што ў ім такая ж інтрыга, як і ў згадках Ядвігіна Ш.

Параўнаем:

"Ядвігін Ш.: "Бывае, находзяць думкі — іншы раз вясёлыя, то ізноў сумныя, такія дарагія, такія патайныя, што ажно аглядаешся, быццам баішся, каб хто не падслухаў, не падгледзеў, не здагадаўся іх, бо іх ведаць ніхто не павінен — ніхто!"

А гэта радкі невядомай аўтаркі з яе ліста да кагось з Марцінкевічавых нашчадкаў: "Что же Вы знаете относительно Ш.? Прошу Вас очень держать в секрете то, что я, бывало, рассказывала во время прогулок по парку. Письма мои, пожалуйста, сейчас же рвите и Боже сохрани **не давайте никому** читать их..."

Антон Лявіцкі, узяўшы сабе псеўданім Ядвігін Ш., нарабіў клопату і даследчыкам, і чытачам. Псеўданім гэты інтрыгуе, прываблівае. Яму ўжо хутка пад гадоў сто. З ім Антон Лявіцкі дэбютаваў у 1906 годзе. З тае пары да ўсіх ён скрозь Ядвігін Ш. Але вось чаму Ядвігін Ш. — гэтага ён не адкрыў нікому, нават сям'і. І вось мы ўжо больш за дзевяноста гадоў і гадаем, што гэта за такі таямнічы псеўданім — Ядвігін Ш.

**Уладзімір СОДАЛЬ**

*Фота Ул. Крука.*



*Адкрыццё мемарыяльнай дошкі Ядвігіну Ш. у Радашковічах, 1978 г.*

ФРАГМЕНТЫ

# Як вока ў лобе...

***Манах Евагрый нарадзіўся ў сярэдзіне IV ст. бліз Понта. Ён быў сучаснікам такіх вядомых духоўных айцоў Візантыі, як Васіль Вялікі, Рыгор Ніскі і Рыгор Багаслоў. Пад іх кіраўніцтвам ён рос і мацаваў свой дух, "мужна перамагаючы словамі ўсялякія ерасі".***

***Евагрый перш быў дыяканам у Канстанцінопалі, але мусіў пакінуць горад з-за адной рамантычнай гісторыі. Ён горача пакахаў — і ўзаемна — знатную даму, і заставалася толькі малітвамі ратаваць сваю чысціню. Ды і жыццё таксама: у дамы меўся муж. Аднойчы ў сне яму з'явіўся анёл і паабяцаў збавіць яго ад бяды, калі той за суткі пакіне горад. Так Евагрый трапіў у Іерусалім, дзе і пастрыгся ў манахі. Там ён перанёс цяжкую хваробу, а пасля, акрыяўшы, выправіўся ў Егіпет. 14 год ён пражыў у пустыні на хлебе з вадою, перамагаючы плоць і грахоўныя помыслы, і настолькі ачысціўся, што мог бачыць і адрозніваць духаў.***

***Евагрый пакінуў багатую пісьмовую спадчыну: 100 малітваў, тры кнігі і яшчэ дзве, напісаныя вершамі. Такім чынам, падзвіжнік быў паэтам! Ягоную спадчыну высока цанілі не толькі на Усходзе, але і Захадзе, пра яе быў высокай думкі Сакрат.***

***Сёння ў рубрыцы змяшчаем выказванні манаха Евагрыя. Адлегласць у 16 вякоў не зрабіла іх менш мудрымі і карыснымі для нас.***

- Ці хочаш спазнаць Бога? Спазнай перш самога сябе.
- Няма падстаў высока пра сябе думаць, дзеючы нізкія справы.
- Усялякае самаўзвелічэнне замінае самаспазнанню.
- Храм Божы — чалавек бездакорны.
- Кажы што трэба і калі трэба, і не пачуеш непатрэбшчыны.
- Хвароба душы — нораў пыхлівы.
- Моцны вецер гоніць аблокі, злапамятнасць — добрыя пачуцці з душы.
- Куды ўваходзіць грэх, туды і цемрашальства; сэрцы ж праведныя поўныя ведання.
- Хто перамог гняўлівасць, той перамог бесаў.
- Як не трымаеш скарпіёна за пазухай, так не трымай кепскага помысла ў сэрцы сваім.
- Хто спадзяецца на сваю непахіснасць, упадзе, хто ж змірыць сябе, узнесены будзе.
- Хто дрэнна гаворыць пра брата свайго, знішчаны будзе, і хто пагарджае беднымі, не ўбачыць святла.
- Спрыяць усім высакародна, асабліва ж тым, хто не можа аддзячыць.
- Любячы нявартае, не будзеш любіць вартае.
- Лепш прыняць золата падробленае, чым сябра несапраўднага.
- Бяда ад самалюбства, што ўсё ненавідзіць.
- Заплямленае сумленне — суддзя несправядлівы.
- Калі хочаш жыць без смутку, старайся дагадзіць Богу.
- Душа самаздаволеная — яма бязводная.
- Ціхмянасць душы ёсць зброя непераможная.
- Замоўчваць ісціну — значыць золата закопваць у зямлю.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Бес гонару бывае прычынай бядотнага апушчэння душы. Ён унушае ёй не вызнаваць Бога памочнікам сабе, але сабе самой прыпісваць свае вартасці ды ўздымацца над братамі, як недарэкамі. (...) Следам за гонарам ідуць гнеў і скруха, і апошняе зло — вар'яцтва.

●

Як цела наша, калі душа адлятае, бывае мёртвым і смуродным, так і душа, у якой не дзейнічае малітва, нежывая і смуродная.

●

Ці хочаш быць спазнаны Богам? Зрабі так, каб як мага меней пра цябе ведалі людзі.

●

Душа ёсць субстанцыя жывая, простая, бесцялесная, нябачная для зроку, гэтаксама бессмяротная і адораная розумам. Як вока ў лобе, так розум у душы.

●

Зло, ўласна, не ёсць субстанцыя, але пазбаўленне дабра — падобна, як змрок ёсць не што іншае, як адступленне святла.

●

Неасцярожнай і непрадбачлівай бывае прастата, і зла не падазрае той, хто вольны і абаронены ад зла.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2847-985

**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2847-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2847-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3850.
Нумар падпісаны ў друк 30.12.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 53/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12